# П А Г О Н Я

Літаратурна-мастацкі
м е с я ч н і к

№ 1.

З А Л Ь Ц Б У Р Г

С ь н е ж а н ь, 1945 г.

Максім БАГДАНОВІЧ

## ПАГОНЯ

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,--
Ўспомню Вострую Браму сьвятую
І ваякаў на грозных канях.

Ў белай пене праносяцца коні,
Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...
Старадаўняй крывіцкай Пагоні
Ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць!

У бязьмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі -- гады.
Вы за кім у пагоню сьпяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Мо" яны, Беларусь, панясьліся
За тваімі дзяцьмі уздагон,
Што забылі Цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?

Беце ў сэрцы іх, беце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная, Маці-Краіна,
Ня усьцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, Ты прымі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь...

Усё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўняй крывіцкай Пагоні
Ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць!

--,--

МЫ ВЫЙДЗЕМ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ

/Беларускі нацыянальны гімн/

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны, родны свой простор.
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор.

Няхай жыве магутны, сьмелы
Наш беларускі, родны дух,
Штандар наш бел-чырвона-белы,
Пакрый сабой народны рух!

На бой за шчасьце і за волю
Народу слаўнага свайго.
Браты, цярпелі мы даволі --
На бой усе да аднаго!

Імя́ і сілу беларуса
Няхай пачуе й бачыць той,
Хто сьмее нам нясьці прымусы
І першы выкліча на бой.

Браты, да шчасьця мы падходзім,
Хай гром грыміць яшчэ мацней --
Ў крывавых муках мы адродзім
Жыцьцё Рэспублікі сваей!

--"--

## З РАСТВОМ ХРЫСТОВЫМ!

Раство Хрыстова... Колькі гэтыя словы ў кожным з нас абуджаюць прыемных вясёлкавых успамінаў аб калядных днёх. Колькі ў кожнай сям"і бывала радасных прадчуваньняў чаканьня гэтага сьвята. І як глыбака і разнастайна выяўлялася народная душа, вера і абрады на куцьцю, калі ўся беларуская сям"я, у поўным зборы, зьбіралася вакол стала. Гэта-ж было разам і ўрачыстасьцяй самога прынцыпу сям"і, калі ў цесным сямейным коле,пры сьвятле лямпадак і калядных сьвечак асьвячаўся спрадвечна азначаны сямейны круг, у якім сам гаспадар з жонкаю адчувалі сябе "месяцам-князем і сонейкам-княгіняю" і ўсе былі шчасьлівыя пад зыркай калядна́й гвяздой. Расьсеўшыся пры стале "на лавах шырокіх" бліжэй да кутка з абразамі, "дзеткі-зараньκі" насьлядавалі сваім бацькам, пераймалі ад старэйшых абрадавыя цырамоніі і прайма́ліся вякамі напластаваным сьветаадчуваньнем, вучыліся сьветаразуменьню, поўнаму народнай мудрасьці і сіл народнага наступніцтва. Абраднасьць дазваляла адзначыць кроўную сувязь з адыйшоўшымі і працягнуць ніці адзінства да прышлага.

Каляды /Раство Хрыстова/, як ні адно іншае сьвята, дае асаблівы простор апафэозу сямейнага кола, у якім гэтымі днямі людзі, хоць іхнае жыцьцё самае бяздольнае, адчуваюць сябе багамі, а ў сваім жытле, хаце мізэрнай — нябёсы і рай зямны. Гэткіх часінаў ня шмат бывае ў жыцьці і таму яны асабліва і дарагія ў гэты сьветлы дзень нараджэньня нашага Збавіцеля. Гэтае сь-

вята запраўды збаўляе людзкія душы ад спусташальнага зямнога холаду і саграе іх вышэйшымі праясьненьнямі, што дабрачынна пасылаюцца нам нябеснай міласьцяй.

Народныя ўяўленьні аб сонечным павароце, змаганьні злых, цёмных сілаў са сьветлымі, добрымі,што нясуць чалавецтву сонечную цішыню і шчасьце будучага вясновага росквіту жыцьця,у гэты дзень дадаюць да агульнага дабрачыннага адчуваньня сямейнага шчасьця яшчэ і сілу ўпэўненасьці і радасных спадзяваньняў на лепшую будучыню.

І дзеці і дарослыя ў гэты сьветлы дзень Калядаў праймаюцца Хрыстовымі запаветамі любові да чалавека, пазнаюць усю глыбіню значаньня хрысьціянскай рэлігіі.

Праўда,суровы час нястачаў і чужыны,які мы цяпер перажываем,мала спамагае шырокаму праводжаньню сьвята. Аднак, тысячы беларусаў,што з волі лёсу апынуліся на эміграцыі,зьбяруцца, як і на Бацькаўшчыне,у сваім цесным коле для таго, каб увечары 24 сьнежня /6-га студзеня/ аддаць павіннае сьцішай, паводля ўмоваў, куцьці, і яшчэ раз узрадавацца за захаванае жыцьцё тых,што жывуць,аддаўшы слова ўдзячнасьці нашаму Збавіцелю Ісусу Хрысту,сыну Божаму. Людзі будуць у думках прасіць адвечна-даўнюю,як сьвет, зыркую калядную гвязду зацемрыць сваім справядлівым сьвятлом морак і няверства,усяліць у людзкія душы чыстыя пачаткі сьвятой веры ў лепшыя свае сілы,даць ім уцеху і спадзяваньні на хутчэйшы зварот на Бацькаўшчыну.

Я.Шп.

---"--- ---"---
---"---

Алесь САЛАВЕЙ

## К А Л Я Д Ы

Зіма. Мароз. Пагодны дзень.
А сьнег, як зорны шчыт, іскрыцца.
Прыгрэла сонца кагадзе --
Ня хоча Дзед Мароз скарыцца!

А дзеці дружнаю гурбой
Праслуюць зь лесу цераз лядцы,
І елку цягнуць за сабой...
Успомніў я -- ідуць Каляды!

--*--

Максім БАГДАНОВІЧ

## З І М О Й

Здароў, марозны звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мяккі сьнег!
Мяцель ня вее, сьціхнуў вецер,--
І волен лёгкіх санак бег.

Як мары, белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць.
У небе зоркі ад марозу
Пахаладзеўшыя дрыжаць.

Вільготны месяц стуль на поле
Празрысты, сьветлы стоўп спусьціў.
І рызай срэбнаю раздольле
Сьнягоў сінеючых пакрыў.

Ўзрывайце-ж іх санямі, коні!
Зьвіні, вясёлых бомаў медзь!
Вакол лятуць бары і гоні.
У грудзёх пачала кроў кіпець.

--"--

Рыгор КРУШЫНА

## ПЕРАД СЬВЯТАМІ

А чаму, зь якой прычыны
Пад брывамі у дзяўчыны
У блакітнай глыбіні
Загараюцца агні?

Ці таму, што блізка сьвяты,
Што прыходзяць часта сваты,
Мёд нясуць, гарэлку п"юць
І, частуючы, пяюць.

Пазіраюць ёй у вочы,
А ў адказ ім — сьмех дзявочы.
— Ня гуляйце да цямна!
Мáе любага яна.

З Васілём, хлапцом вясковым,
Ёсьць інтэрас, адным словам.
І вясельле пойдзе ў лад,
Мáе быць пасьля Каляд.

А таму, з тáе прычыны,
Пад брывамі у дзяўчыны
У блакітнай глыбіні
Загараюцца агні.

--"--

Максім БАГДАНОВІЧ

# АПОКРЫФ

1. Ад Максіма Кніжніка пачатак . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

2. Калі скончылася сем тысяч год ад стварэньня сьвету, Хрыстос зноў зыйшоў на зямлю і хадзіў па ёй, каб споўнілася тое, аб чым казалі прарокі.

3. І хадзіў ён па ўсяму нашаму краю: і па Меншчыне, і па Віленшчыне, і па Магілеўшчыне, і па Задзьвінскай зямлі.

4. І разам зь ім былі сьвяты Пётра і сьвяты Юры. Але ніхто зь людзей не пазнаваў яго.

5. Бо ішлі яны босымі нагамі, зь непакрытымі галовамі, і былі адзеты ў белы кужаль. А не таго спадзяваліся людзі.

6. Таму ніхто не зьвярнуў увагі на іх, калі ў час жніва прaходзілі яны між працуючых людзей.

7. Толькі музыка, катораму цяпер ня было што рабіць, падыйшоў да іх і сказаў: сорамна мне, бо сяговньня дзень працы і ўсе клапоцяцца каля яе; адзін я нікчэмны чалавек.

8. І адказаў яму Ісус: ня смуціся ў сэрцы сваім. Ці-ж не твае песьні сьпяваюць яны цяпер у часе жніва? Таму ня схіляй и нізка галавы тваёй і не хавай твар свой ад вачэй людзкіх.

9. Бо няма праўды ў тым, каторы кажа, што ты -- лішні на зямлі. Запраўды кажу я табе: вось надыйдзе да яго гадзіна горачы -- і чым ён разважыць смутак свой, апроч песьні травы? Таксама і ў дзень радасьці ён прызавець цябе.

10. І, паўчаючы яго, казаў: пад песьні кладуць чалавека ў калыску і са сьпевамі-ж апускаюць у магілу яго.

11. Штодзённымі клопатамі поўна людзкое жыцьцё. Але калі зварухнецца душа чалавека, толькі песьня здолее спатоліць яе. Пануйце-ж песьні свае.

12. Бо сьпяваюць нават жабы ў багне. А ці-ж ня лепшымі будзеце вы ад іх?

13. Так вучыў Хрыстос. Але Пётра, пачуўшы яго словы, сказаў: Вучыцелю, у гэтай старонцы ёсьць людзі, каторым няма чаго есьці. Ці-ж ня сьцісьнецца ад сораму сэрца гэтага чалавека, калі ён да іх, шукаючы скарынкі хлеба, прыйдзе зь песьняй сваёй?

14. І, адказваючы яму, сказаў Хрыстос: так, жыцьцё гэтых людзей цяжкое, беднае і прыгнечанае. Чаму-ж ты хочаш яшчэ і красу адабраць у іх? Мала дадзена ім -- няўжо-ж трэба, каб было яшчэ менш?

15. І, зьвярнуўшыся да музыкі, спытаў яго: калі пяюць песьні ў вас?

16. Музыка-ж адказаў: пяюць на Каляды, на Запусты, на Вялікдзень, на Тройцу, на Яна Купалу, у Пятроўку, на зажынках і дажынках.

17. Пяюць на радзінах і хрэсьбінах, пяюць, дзіцё калыхаючы,

і самі дзеці пяюць, гуляючы; пяюць на ігрышчах і вечарынках, і на вясельлях, і на хаўтурах, і ў бяседзе, і ў працы, і ў маскалі ідучы, і ва ўсякай іншай прыгодзе. Так скрозь увесь год пяюць.

18. І прамовіў Хрыстос Пятру: ты, шкадуючы долі галодных людзей, асудзіў песьню, але галодныя людзі не асудзілі яе. Жыва яшчэ душа ў народзе гэтым.

19. Тады іначоў сказаў Пётра: але няхай-жа ў песьнях будуць думкі добрыя і павучаючыя, каб, апроч красы, меўся ў іх і спажы/так чалавеку.

20. І адказаў яму Хрыстос: няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсьць той спажытак дзеля душы.

21. І, павучаючы іх, прамовіў: агляняцеся навакол! Ці-ж ня ніва калыхаецца каля нас?

22. Дзякка працаваў ля яе гаспадар і вось бачыць: паміж збожжа ўзрасьлі васількі.

23. І сказаў ён у сэрцы сваім: хлеб адбіраюць у мяне гэтыя сінія кветкі; бо поўныя вагі каласы маглі-б узрасьці на мейсцы васількоў.

24. Але яшчэ з маленства краса іх прыйшлася мне да душы. Таму я ня вырву з каранём іх, як усякае благое зельле. Няхай растуць і радуюць, як у маленсьцьве, сэрца маё.

25. Так сказаў гаспадар у сэрцы сваім і думках сваіх. І не падняў ён рукі на васількі.

26. Я-ж гавару вам: добра быць каласамі, але шчасьліў той, каму давялося быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?

27. І, кажучы так, пачуў ён песьню жнеяк і прамовіў: слухайце, што кажуць словы гэтай песьні. Яе складалі людзі, каторыя ведаюць, чаго варты хлеб.

28. Яны-ж пачулі, што словы тэй песьні кажуць: няма лепш цьвяточка над васілёчка. І далей ужо моўчкі ішлі яны.

29. І босыя ногі Хрыста пакідалі на цёплым і мяккім пылу дарогі сьляды.

30. Але гора вам, людзі, бо даўно ўжо затапталі вы іх. Амін.

Рукапіс гэты адшукаў
Максім Багдановіч.

---"--- ---"---
---"---

Уладзімер ДУДЗІЦКІ

# АПОШНЯЯ МАЛІТВА

Яшчэ раз кленчу я ля сьценаў Храма:
-- О Божа, Валадар зямлі, скажы Ты,
Чаму іозоў каля Сьвятое Брамы
Жывое цела бачым на крыжы ты?...

На пліты мармуровыя сьцякае
Кроў сьвежая із ран балючых...
Пустэльнік даўнасьці -- раскольнік Каін--
Чало сьціскае ўжо вянком калючым.

Па-над бажніцамі, над купаламі
У стоме чорныя стварэньні кружаць.
Няверцы прышлыя у грэшнай краме
Ля ног згінаюцца халодным вужам.

Нялюдзкі танец свой згібеньне грае
На струнах д"ябальскіх да сьлёз, да ўмору.
Хіба́ ўжо гэтакая доля Краю,
Табой ахрышчаная ў момант створу?

Ўпаду лепш сам я каля сьценаў Храма,
І прадсьмяротнаю малітва будзе,--
Каб на зямлі той, пад Сьвятою Брамай,
Зямлёю роднаю прыкрылі грудзі.

---"---

Масей СЯДНЁЎ

## СЬНЕЖАНЬ

Калядар лістае месяц сьнежань.
На маёй радзіме, пэўна -- сьнег.
Вечароў ня п"юць дзяўчаты сьвежасьць,
Хлопцы ў полі кінулі начлег.

Сьнег засыпаў вуліцы і поле --
Не знайсьці табе сьлядоў маіх.
У хвіліну цяжкую ніколі
Не глядзець цяпер табе на іх.

Сьнежань выбяліў усё на сьвеце,
Асьляпляе бель пагляд вачэй.
Бела ўсё і сонцам усё сьвеціць,
Ды душа твая чарней начэй.

Калядар лістай, лагодны сьнежань,
Белую пасьцель начам сьцялі,
Разьлівай усьпененую сьвежасьць! --
А забыт ня ўсімі на зямлі.

---"---

Уладзімер ДУДЗІЦКІ

# С О Н  З Ь Н Я Б Ы Ц І Ч А

Чалавек пакінуў усё. Узяў толькі, як гаварылі суседзі, невялікі акраец хлеба, слоік [illegible] мёду ад пчолаў свае гадоўлі і пляшку бярозавага соку, каб смагу было чым прагнаць у дарозе.

Узяў і пайшоў...

Чужыя людзі, грабучы дабро хаты, знайшлі за абразамі ў скрутку бяросты сьпісаны аркуш паперы. Пісьмо было чыстым, ураўнаважаным: літары -- буйныя, выразныя. Глядзіш і думаеш: пісаў чалавек стараючыся, нібы вякам пакідаючы слова свае душы. І паклаў-жа не абы-дзе, а за абразамі працы славутых мастакоў свае зямлі: за абразом суцэльнае фігуры Хрыста з паднятай для благаслаўленьня правай рукой і круглай зеленавата-блакітнай дзяржавай -- зямной куляй -- у левай і за абразом кампазыцыі на тэму змаганьня арх. Міхала з д"ябалам...

Уверсе, на тым аркушы было напісана: "Сон Зьнябыціча"...

* * *
* * *

... Прадзед Лукаш узяў мяне за руку і падвёў да вакна:

-- Бойся Бога, праўнук, і не гняві мае крыві! -- глуха сказаў ён, паказваючы на вялікі цьвяцісты сад. -- Хто дазволіў гэтым людзям глуміцца над сьвятымі дарамі? Хіба не абліваецца крывёю твае сэрца, глядзячы, як валяцца пад сякерай на грэшную зямлю поўныя жыцьця і соку моцныя, маладыя дрэвы? Кайся, мой праўнук!

Прадзед перадаў у мае рукі невялікі абраз Хрыста і загадаў

перад ім укленчыць.

-- Маліся! Душа твая знойдзе мяне ў пушчы, калі цела будзе вартым літасьці,-- сказаў і зьнік.

Малітва запоўніла і апанавала ўсю маю істоту. Я ня бачыў і не адчуваў самога сябе. Я не адчуваў нават свайго глыбокага дыханьня. Ня істота, а душа, здавалася, ахінала маю істоту,-- гэтакая незямная чулася лёгкасьць. От, от узмахне нябачнымі крыламі страціўшае вагу цела і панясе душу ў празрысты блакіт, туды, дзе ў векавечнай згодзе і паслухмянасьці, аддаўшы сябе няўяўнай сіле сьвету, нячутна і таямніча абыходзяць свае арбіты мільярды вялічэзных, пазнаных і непазнаных яшчэ розумам чалавека, нябесных целаў.

Яшчэ адна малітва, яшчэ ... і душа ўжо ў густой вільготнасьці воблакаў. Драбнюткія іхныя кроплі сваёй халоднай пякучасьцю вывялі цела з раўнавагі, і, з шумам прарэзаючы паветра, лячу, здалося, у нейкую цёмную прорву... Перад вачыма загойдаліся ружовыя пухіры і зьніклі. Прастору запоўніла цьмяна-шэрая смуга балот, потым глуха зашумела пушча. Адчынілася нейкае дзіўоснае царства, пачалі выступаць нячутныя і нябачныя веліканы-дрэвы, нейкія безгаловыя галабокія людзі і даўгахвостыя чырвонакрылыя дзюбастыя птушкі, і чорныя сьмяротныя дзіды. Раптоўна ўсё гэта зблізілася і страціла свае першапачатковыя формы.

Ізноў цемра і пусьціня... Іду ў невядомым кірунку... Іду вобмацкам... Цела адчула пякельную гарачыню: зь зямлі вырасьлі напаленыя дачырвана жалезныя слупы, а вакол слупоў -- залатая сьцежка-апаяска.

* * *
* * *

Іду апранутым у мантыю славы. Іду не адзін. Пагольнай сьвяшчэннай хадою вядуць мяне па залатой апаясцы сівабародыя ўдумлі-

вия апосталы. Апаяска падымаецца ўгору і ператвараецца ў залаты абруч на высокай і стромай гары. Па-над гарою, як рукой падаць,-- агністае сонца. Вось яно зь лёгкасьцю пушынкі спадае з выбітымі па срэбнай лішцьве чорнымі літарамі проста на мае далоні:

" Хто з паўсотні разоў абняся мяне, ідучы залатым абручом, навокал гары, пераадоляе равучыя пацуны скалістых лёхаў і не ўпадзе ў зманлівы вір прагнага бяздоннага мора ў нізе гары, той здабудзе вечную славу і ніколі не зазнаюць няшчасьця ягоныя нашчадкі".

Вочы міжвольна зірнулі на пеністыя хвалі віру, а вушы пачулі: " Сьмерцяй жыцьця не паправіш, а сьмерці ня мінеш..." Апосталаў ужо ня было. Адольваючы пацуны, сам набліжаўся да апошняга кругу... Густая хваля ветру пачала згінаць галаву. Моцна захістаўся залаты абруч.Шукаючы ратунку, рукі хапаліся за гострыя выступы скалаў. Задрыжэлі сьціснутыя жахам грудзі, з вачэй выкаціліся буйныя гарачыя сьлёзы. Замест сонца на далоні левае рукі забілася нейчае акрываўленае сэрца і пасьля трох моцных udaраў пульсу прамовіла:

--Ня губі мяне, Зьнябыціч! Я вырвана з тваіх грудзей... Бачыш родную кроў? Яна хоча жыць... Ня дайся ў рукі сьмерці!"

Перамагаючы сілу густога ветру і зьмярцьвелы стан цела, узьняў я галаву да блакітнага неба і моцна-моцна крыкнуў: "Ратуй, Божа, душу грэшнага Зьнябыціча!!!"

" " "
" "

У глыбіні старадаўняй пушчы, каля вывернутага навальніцаю магутнага дуба, пластам ляжаў чалавек. Ягоную галаву ахінала махрыстае карэньне скалечанага дрэва. Зь невялікага насыпу тырчэў глыбока ўбіты асінавы кол, густа акручаны іржавым калючым дротам. На зямлі, каля самага кала, ляжала ўмітусьці трынаццаць вехцяў

чартапалоху.

Прачнуўшыся, у цяжкіх сьмяротных сударгах, чалавек ледзь-ледзь выказаў апошнія думкі:

Я паставіў... помнік злой сіле... нячыстага духу... Бачыш... якія моцныя карані... ня выратавалі магутнага дрэва...

...Я ўкленчыў перад целам нябожчыка. Перада мною ізноў зьявіўся абраз Хрыста і моцная постаць прадзеда Лукаша:

--Бачу, праўнук, што сэрца тваё не апаганена і душа не прадаецца д"яблу. Сад загоіць раны і зацьвіце яшчэ... зацьвіце... Жыві, але помні сьвятыя словы і перадай братом:

--Жыцьцё папраўляюць сьмерцю,-- сказаў і пайшоў. Я пачуў запраўдныя грымоты і ўбачыў чырвоныя языкі маланкі.

Гэта ішла грозная нагальніца...

" " "
" "

Якраз у гэтым месцы, пад тэкстам, было такое: " Запісаў пакуты свае душы па наказу прадзеда на памяць людзям Віталі Зьнябыціч з-пад Пціччы..."

---"--- ---"---
---"---

Масей СЯДНЁЎ

# МА́РА

Яшчэ адна ў мяне ня згасла ма́ра,
Яшчэ адна ў мяне надзея ёсьць--
Ёй загараецца,як за́рава пажару,
Мая загубленая маладосьць.

Не прападу, напэўна, зь ёй нідзе я,
Яна уцемры -- сьвет мне залаты.
І гэта мара, гэтая надзея,
Адзіная, сьвятая толькі ты.

Ты для мяне -- як голас дзіўны раю,
Трывожыш ты і ў сьне і наяву:
Цябе забуду я -- і сэрцам паміраю,
Цябе успомню я -- і зноў жыву.

Таму так дорага мая мне ма́ра,
Таму так рад, што ў сэрцы яна ёсьць --
Ёй загараецца, як за́рава пажару,
Мая загубленая маладосьць.

---"---

Алесь САЛАВЕЙ

## ГЕРОЯМ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Прыйшоў у край чужы. І за гарою
Дзень дагарэў. І ноч, і ноч усьцяж.
Няўжо не змагаром і не героем
Пакінуў Беларусь нашчадак ваш?

Няўжо мінуўшчыну, бацькоў магілы
Таптаць чужому боту ён аддаў?
Хіба перад агнём варожай сілы
Схіліўся, адступаючы ў аддаль?

Няўжо ня споўніў запавету вояў:
-- Не адступай нідзе, лепш паўмірай ляж?!
Няўжо не змагаром і не героем
Пакінуў Беларусь нашчадак ваш?

Няўжо?.. О, не! У ім -- ваш гарт і сіла,
У ім -- ад вас і ваш арліны ўзьлёт.
Яго пякельня сьмерці не скасіла,
Яго ў зямлю ня ўтопча катні бот.

Ён вернецца назад! Ён не пакінуў
Таго, чаго ня можна пакідаць.
Ён адыйшоў, каб у сваю айчыну
Вярнуцца пераможцам праз аддаль.

І будзе у руках ягоных зброя.
І блізка дзень. І будзе дзень усьцяж.
Зваротны шлях — змагарны шлях героя.
Па ім вяртаецца ў свой край нашчадак ваш.

---"---

# К Р О Н І К А

"""І5-га т р а ў н я І945 г.
у Зальцбургу была пачатая пра-
ца ў"справе апекі над беларуса
мі.

"""У п а ч а т к у л і п е н я
месяца І945 г. у Кірхгайме/Рыдс-
кі павет, Ліцкае акругі/ пачала
працаваць сэкцыя Беларускага Ка-
мітэту ў Зальцбургу.

"""У к а с т р ы ч н і к у І945
г. была арганізаваная сэкцыя Ка-
мітэту ў лягеры Бірмос/Зальцбур-
гская акруга/.

"""І9-га к а с т р ы ч н і к а
І945 г. у Укр. Нацыянальным Тэ-
атры ў Зальцбургу /лягер №2/ быў
прачытаны для беларусаў і ўкра-
інцаў рэфарат на тэму "Шляхі разь-
віцця беларускае культуры".

""" 8-га лістапада І945 году
ў першым Украінскім лягеры ў
Зальцбургу адбыўся вечар белару-
скае паэзіі. У вечары бралі ўдзел
паэты Уладзімер Дудзіцкі і Алесь
Салавей.

"""Украінская газэта ў Зальцбу
гу "Новыя дні" у №3 ад 2.І2.45
прысьвяціла цэлую балонку пыта
ням сучаснае беларускае літара-
туры.

"""І0-га с ь н е ж н я І945 г.
Укр. Нац. Тэатры ў Зальцбургу/
гер №2/ адбыўся паўторны вечар
беларускае паэзіі.

"""І3-га с ь н е ж н я І945 г.
трэйцім Укр. лягеры быў наладж
ны вечар беларускае культуры.
сьля рэфарату пра беларускую к
льтуру выступалі паэты Ул. Ду-
дзіцкі і Алесь Салавей.

""" У с т у д з е н і месяцы
І946 г. сьпявачка беларускае о
ры Таіса Макеява мае даць нева
кі сваіх канцэртаў беларускае
народнае песьні.

"""Рыхтуецца да друку асобным
выданьнем твор беларускае эпіч-
нае літаратуры "Тарас на Парна-
се" і мае быць выдадзены у сту-
дзені І946 г.

---"--- ---"---
---"---

# З Ь М Е С Т




Л1ТАРАТУРНА-МАСТАЦК1

ЧАСАП1С

№2.



ЗАЛЬЦБУРГ
КРАСАВ1К, 1946г.

# УВАСКРЭСЬНЕМ!

1.

... Нягоднікі захлыналіся ад рогату и сыци... Зборанымя, прыкрыўшы лахманамі цела, людзі ранілі босыя ногі калючкамі жвіру. Ішлі, прыпадалі пласьмя да зямлі, кленчылі перад наплывам густых вятроў, перад тугімі далямі, у якія ўводзілі іх невядомыя чалавеку сьцежкі. Людзі шукалі Збаўеньня. А яно ішло сваімі дарогамі, таямнічымі і яшчэ зусім няходжанымі; ішло, пераадольвала пясчаныя плывуны, туманы, густыя воблакі і стоўпішчы жараў; усьцішала ірвала лютыя навальніцы, спыняла агністыя стрэлы маланак і нарэшце, выйшла ў празрысты блакіт надзем'я. Пазьней спынілася на небасхіле, загарэлася ўсімі колерамі сьвятла. Людзі ўбачылі цудоўную зорку. Людзі адчулі прыход свайго Збаўеньня...

--Сын Божы нарадзіўся!

2.

Нягоднікі сталіся найвялікшымі грэшнікамі зямлі. Зьняважылі яны людзкое Збаўеньне, абняславілі яго... Укралі... Цела Сына Божага на крыжы сьвятым расьпялі...

3.

Людзі чакалі Вялікага Дня, ішлі яму насустрач, ішлі доўга і цярпліва. И чалавек чалавека пазнаваў у бядзе і горы, бо "вандравала гора зь бядою, вандравала ня год і ня два"... У горы і бядзе пазнаваў чалавек і самога сябе, пазнаваў і тое, кім ён мусіць стацца. Пазнаўшы -- пазнаваў праўду і няпраўду, волю і цану чужацкага палону.

И ворагам быў чалавек чалавеку... А нелюдзі-суседзі і брат намаўлялі супроць брата. Але "ворага кажны за плечы браў сьмела, цемра чужынцаў ня страшна была"... Ихнаю крывёю акраплялі волю браты. Не дарэмна акраплялі і сьлязымі гарачымі родную зямлю палівалі: настаў і доўгачаканы Вялікі Дзень.

--Хрыстос Уваскрос!

4.

...Адзьвінела слава старадаўняй Беларусі. Адзьвінела рэха вялікага змаганьня. Даўно нясем усе мы цяжкі крыж зьдзеку і па-

куты. Але, як зморану няпрынёю истоту абуджае першы праблиск сонца, гэтак и нас абнадзейвае сьвятая праўда уваскрошаньня, пасьля доўгих пакутаў, найвяликшага пакутника за праўду—Исуса Хрыста— и акрыляе нязгаснай верою у няўмиручасьць жыцьця нашага...

—Хрыстос Уваскрос!

Слаўце, браты мае зямли, прыход Вяликага Дня пасьля вяликае, цёмнае начы трывожнага цярпеньня! И чым мацней сьциськаць будзе сьмяротны боль нашае цела, тым глыбей няхай сягае думка пра Уваскрошаньне расьпятага хрыстапрадаўцами шчасьця Бацькаўшчыны и тым большай няхай будзе вера у вяликае нашае Прыйсьце! Прыйдзе, яно ўжо идзе, и " николи й нидзе Беларусь не загине!" Няхай цярпливосьць душы и даличвае, здаецца, апошния удары пульсу,—прыслухайцеся да голасу сьвятога Неба:

—Хрыстос Уваскрос!

Слаўце, браты мае зямли, прыход Вяликага Дня—Вяликадня!

Уваскрэсьнем!

———

Заўвага рэдакцыи. З прычыны адсутнасьци у машынаписе "і" беларускага, падаецца тут "и" расейскае.

Алесь Салавей

## ХРЫСТОСАЎ ЛЁС

Няверцаў зрадай катаваны,
Расьпяты быў Исус Хрыстос.
Хоць меў няўгойныя Ён раны
И боль нясьцерпны, а ўваскрос!

Зьнёс мукаў шмат мой край каханы,
Сьцяў и яго Хрыстосаў лёс,—
Яму хоць цяжка, хоць балесьне,
Ён будзе жыць, ён уваскрэсьне!

—"—

## ХРЫСТОС УВАСКРОС!

...Хрыстос Уваскрос!

Зь вяликим сьвятам адвечнага аджыўленьня віншую цябе, Вялики Беларуски Народ!

Гэтай вяликай ночы страси зь сябе ўсю пагарду, увесь бруд, катогым аблепливали цябе ад вякоў. Чыста вымыйся, прыбярыся ў найлепшую вопратку, каб стаў ты роўным з усими, и идзи туды, дзе пачуеш гэтыя вяликия словы:

--Хрыстос Уваскрос!

Услухайся ў их. Якая вяликая сила, яки ўсёажыўляючы зьмест захаваны ў их. Ци ня чуеш, як радасьцю надзеи, радасьцю скорага ўваскрошаньня вее на цябе ад гэтых слоў:

--Хрыстос Уваскрос!

Радуйся, мой родны краю! Надзея як жывучая вада, льлецца ў тваю душу. Ты ўваскрэсьнеш ад доўгага мёртвага сну. Вясна прыйдзе и для цябе. Хрыстос Уваскрос!

Над Им зьдзекавалися. Яго били па твары, сьцябали бизуном. Плявали на Яго. Кпили зь Яго. У канцы расьпяли и расьпятага не пераставали мучыць. Сьпечаныя смагай вусны зьвильжвали воцтам и жоўцю. Ён памёр на крыжы памиж двух разбойникаў. Але ўсё-ж-тки:

--Хрыстос Уваскрос!

Уваскрос Хрыстос, и крыж,-- раней знак пагарды и сораму,--зрабиўся Сьвятыняй усяго сьвету. Муки Хрыстовы зьмыли ўсё зь яго. И штогоду вяликай вясеньняй ночы тысячы цэркваў и касьцёлаў сьвецяцца агнями сьвечак, льлецца радасны перазвон званоў, крыж падымаецца над тысячамі схиленых галоў и у паветры носицца радасны лэнт:

--Хрыстос Уваскрос!

Што гаворацъ табе званы, Беларуски Народ? Ци ня віншуюць яны цябе яшчэ и з тваим уласным будучым вяликим сьвятам? Ты ўваскрэсьнеш! Ад вякоў пагарджалі табой, тваёй мовай, ад вякоў мели за быдла, го-

днае тольки на цяжкую, надсильную работу. Не давали табе расьци и разьвивацца. Воцтам чужой культуры зьбильвали твае, сьпечаныя смагай сьвету вусны. Лепшых тваих синоў адрывали ад цябе, прымушали их зрабицца здраднинкамі. А пасьля пыхылися ими, называли их сваими. И яны-тки ихныя.

А хиба-ж яны ня любили цябе? Хиба лепшы жар свайго сэрца ахвяравали не табе? А дзе яны?

Их няма з табой! З самага малку адарвали ад роднае глебы, атруцили зрадай. И их, тваих дзяцей, мели за зброю супраць цябе.

Цябе катавали. Ты цярпеў муки, але не памёр. Глыбока, глыбока ты захаваў сваю душу.

Хрыстос быў з табой у тваих муках, и ён разам з табой цярпеў их. Колькі разоў расьпинали Яго разам з табой! Больш разоў, чым ёсьць пяшчынак на дне мора! Але кожнага году па ўсёй Беларускай зямли разносиўся клич:

--Хрыстос Уваскрос!

... И ты ўваскрэсьнеш, мой родны краю. Скинеш з шыи ярмо адьвечнага гора и нуды.

Ты перастанеш плакаць. Ты паднимеш свой твар. З надзеяй будзеш лавиць зыки званоў:

"Бом! бом...Идзи будаваць адваявану́ю бацькаўшчыну!

Наперад, да шчасьця! Хай злое ўсё дрогне!

Вясна ўжо на сьвеце-- Хрыстос Уваскрос!"

Я ў лятуценьнях бачу, як сьвятлее твой твар, мой родны краю! И, поўны сил и веры ў тваё уваскрошаньне, я крычу ўва ўсю моц тваим нивам, лясом и балотам, тваим панурым вёскам:

--Зь вяликим сьвятам виншую! Зь вяликим сьвятам, Вялики Беларуски Народ!

--Хрыстос Уваскрос!

--"--

Алесь САЛАВЕЙ

## ГАМОНІЦЬ ДАЎНЯЙ ПРАЎДЫ ЗВОН

Гамоніць даўняй праўды звон,
Гудзе --- ня мае зморы.
И моўкне цихи, мирны сон
За горами, за морам.

За морам, горами --- спакой
И людзи сьпяць спакойна...
А над калыбкай дум и мрой
Узьняты меч разбойны.

Няверцаў душы, як слата,
На люд, на край напали.
На'т сына Божага ---Хрыста,
Зьняславиўшы, расьпяли.

Хрыстовых праўднейшых сыноў
Аддали на згиноту.
А звон --- той слаўны звон вякоў---
Укинули ў балота.

Спалили хаты, а людзей
Па сьвеце разагнали,
Аддали прышласьць злыбядзе,
Былое растапталі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Здалося, зьнишчыли жыцьцё
Бязверники бясчэсьне.
Здалося, усё у нябыцьцё
Пайшло и не ўваскрэсьне.

Здалося, змоўк навеки звон,
Пайшоўшы на скананьне.
Нихто ня чуў, як стогне ён
У топкай вечнай твани.

Нихто ня знаў, як звону гнеў
Зьбираўся ў дужны гоман...
Звон страпянуўся, зазьвинеў,
Над сьветам грымнуў громам.

Зь сивых глыбиняў даўнины
И з ланцугоў палону
Пачули вольнасьци сыны
Клич праўды и праклёну.

Праклён — няверцам сьмерць и страх,
А праўда — золак дзяўны.
Я на выгнаньницких шляхах
Пачуў той клич прызыўны:

"Выходзь, мой сыне! Уставай,
Зирни — вакол прадвесьне!
Идзи за праўду ў бой! Твой край
Бяз праўды не ўваскрэсьне."

И з даляў -- з сьвету усяго
И ён, и я -- мильлёны--
Идзём,-- мы ведаем чаго,--
Мы йдзём на поклич звону!

Хай з даляў близким будзе край,
Хай зорыць зьнич з-за долаў!
...Журба палёў, маркотны гай,
Айчыны сумны голас...

---

Ядвигин Ш.

# Б Я Р О З К А

Дзиваўся Лявон, што ягоная пацеха——Марыська——выцягнулася ўгару як тая маладая, гладкая бярозка. Ад хлапцоў адбою ня было и, хоць сэрца кроўю абливалася, а пара надышла замуж аддаваць.

Справиў Лявон вясельле, як мае быць: каб у сэрцы дзявочым на доўгия годы добрая памятка засталася и каб перад людзьми сораму ня было ; але як давялося разьвитацца з дачушкай,—— сплакаўся, бедны, як бабёр: быццам чула сэрца нешта нядобрае. Ён и кажа ёй на апошним адвитаньни:

——Слухай, пацеха мая, адну цябе я тольки маю и адну табе тольки даю параду: кали цябе прыцисьне горкая доля, кали табе будзе вельми цяжка жыць, што и змоги ня будзе вытрымаць, ня жалься никому, никому, хиба знойдзеш такую спрыяльную верную душу, як спрыяла и верна была для цябе душа твайго бацьки; ня знойдзеш,—— идзи лепш у лес, выбяры, якое табе спадабаецца, дрэва, и яму аднаму, мае ты дзициятка, душу сваю адчыняй, жаль свой выливай.

- - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

Прайшло нямала часу. Паехаў Лявон дачки даведацца. Выбегла Марыська з хаты, кинулася бацьку да калекаў, прыпала пасьля галоўкай да грудзей бацькавых, але хутка, нибы засаромиўшыся, адскочыла, апусьцила вочки и стаиць, уся зьбялеўшая, тольки губки дрыжаць...

Доўга Лявон моўчки ўглядаўся на сваю пацеху, а пасьля памалу падыйшоў да яе и глухим, быццам ня сваим голасам, стаў дапытваць:

——Цяжка?

——Ой, цяжка, татачка!—— уздыхнуўшы адказала дачка.

——Жалилася?

——Жалилася,—— прашаптала Марыська.

——Каму?

——Бярозцы.

——А больш?

—Не знайшла чаму.

—Няси сякеру, пакажы мне гэтае дрэва, — сказаў Лявон.

- - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

Хістаючыся, як маладая адзіноры бярозка, ішла наперадзе Марыся, а за ёю, як хмара, ішоў зь сякерай Лявон...

—Вось — тая, на узгорку, — здалёку паказвала рукой Марыся. — Ой, татачка, — схамянулася яна, — якая гэта была пекная бярозка, якая гладкая! Якія пекныя былі на ёй галінкі, а на галінках паўнюсенька зялёненькіх бліскучых лісточкаў!..

Лявон маўчаў.

—...Татачка! што ёй зрабілася? Гэта-ж цяпер лета... чаму яна шчарнела? Чаму здрабнелі, пакурчыліся ейныя лісточкі? Татка!?

Лявон маўчаў.

—...Чаму жаўцеюць гэтыя лісточкі? Бачыш, татачка, лісточкі зь яе ападаюць... Чаму галінкі свае яна ўніз апусьціла, быццам яны плачуць?

Не паспела словаў кончыць Марыська, як цяжка грукнуў па дрэве абух... Як падстрэленая птушка, скокнула яна і схапіла за руку старога:

—Татачка, не чапай! Не чапай, родненькі мой! — прасіла Марыся, —балиць... балиць...

Але Лявон, нічога не кажучы, ізноў стукнуў абухом па дрэве. Рэха не адгукнулася, — стук быў глухім, нібы гэта не па дрэве, а па звяглі стукаў. Марыська стаяла воддаль, заламаўшы рукі, і глядзела быццам на нешта вельмі страшнае, толькі з вачэй ейных сыпаліся адна за адной сьлязінкі, як сыпаліся пахоўклыя лісточкі зь бярэзіны, што здрыганулася над абухом... Лявон нагнуўся, абчасаў каля пня кару, і, адагнуўшыся, з усяго размаху запусьціў сякеру ў бярозу і, паварнуўшы тапарышча на бок, адшчапіў вялікую трэску. Дрэва заскрыпела, зашыпела, нібы стала маліцца, як тое дзіця... а з-пад лявонавай сякеры трэскі ляцелі й ляцелі... Але не доўга яму давялося працаваць: нагнуўся Лявон, глянуў на падсечанае месца, ткнуў туды тапарышча і, адагнуўшыся, глыбока ўздыхнуў.

—Марыська, дзіцятка мае, — дрыжачым голасам пачаў Лявон, — бачыш? Гэта тут усяго на палец абалоні! А там парахня, адна парахня!.. А ведаеш чаму, гаротніца мая? Ведаеш: Гэта-ж твой боль,

гэта-.. твой жаль спарахнілі гэту бярозку,--- бо ты доляй сваёй жалілася ёй. Дрэва й то спалохалася гэткае долі... Памірае гэта бярозка, памірае без пары, бо кожным разам, калі ты прыходзіла жаліцца, ёй было ўтрораз цяжэй, а ты, маё гаротнае дзіця, успомні,-- ты тады мела хвіліны, падобныя да шчасьця...

І Лявон, узяўшы рукамі галоўку сваёй пацехі, моцна прыціснуў да сябе, а Марыська, тулячыся да бацькавых грудзей, прашаптала:

-- Татачка, а чаму-ж паміж людзей я не знайшла каму пажаліцца?

Лявон маўчаў.

---"---

Уладзимер ДУДЗИЦКИ

# НАЛИЦЦА ХОЧАМ НА РАДЗИМЕ
( Урывак з паэмы "Прысяга")

Калисьци соками грудзей
паила продкаў ты, зямлица,
и мы, каб род не парадзеў,
прыйшли питва твайго напицца.

З маленства сьнилася у сьне,
было магутным нам адзиным...
Яму, як сонцу и вясьне,
налицца хочам на радзиме,

ветры дзе ў песьнях галясьцяць,
а песьни — кужныя, жывыя...
Драбница кажная жыцьця
Усими вызнана навылет;

пакуты цяжкия радни,
братами вырашчаны смутак,
упехи вышитае дни
и радасьць даўняга — адчуты.

Тут нылі з посьницы бацьки,
и сами скораму ня знали...
Ішли, узяўшыся за кий,
у сьвет шляхами чэрствых даляў.

Ня год які ўжо і ня два
у край чужы ішлі нясьмела.
Сухая, гострая жарства
цяла ног струджанае цела.

Ня мелі болю чым уняць
сыны твае у дзікім сьвеце:
халоднай поўначы штодня
калечыў сэрца льдзяны вецер.

Цяпер, зірні, — перад табой
стаім на варце ганаровай;
сыны, — мы рушымся у бой
без супраціву і бяз слова.

Пакуль-жа — сокам грудзей,
як продкаў некалі, зямліца,
паной, каб род не парадзеў,
каб нішта цела не зваліцца.

Прымі да споведзі, вазьмі
прысягу шчырую! Прычасьці
не паскадуй — сваімі грудзьмі
сябе заслоніш ад напасьці.

—*—

Масей Сяднёў

## Д З Я Ц И Н С Т В А

Што колись жыло и што пела--
Яшчэ раз ты, памяць, крани!
Прайшли, як дажджы адзьвинели
Дзяцинства глыбокия дни.

Прайшли над маёй галавою,
Як сонца идзе па вясьне.
И тольки искрой залатою
Вы ў снох мильгницё безь мяне.

О, дуб, на сивым, на кургане,
И сосны адвечных палян!
Я помню, у вас закаханы,
Ад радасьци буйнай быў п'ян.

О,дзень мой, дагледжаны дзедам,
Былое вярнуцца прымусь.
Усё, што пазнаў я, што зьведаў,
Завецца цяпер Беларусь...

Я мог весялицца и плакаць ...
Ўзьвихрыся, мой горды скакун!
За рэчку  на сочную мякаць
Я зноў паганю мой табун.

У поле, у пушчы, ў высь я
Начным засьвишчу салаўём.
Нявиннасьць! Нявиннасьць! -- вярнися,
Вярнися, дзяцинства маё.

--o--

М.ГАРЭЦКИ

## СТРАШНАЯ МУЗЫКАВА ПЕСЬНЯ

Дзеялася тое за прыгонам .

Быў у нашага пана, акрутнага и злога пана, Дастаеўскага, малады музыка.

Звали яго -- Арцём Скамарох.

Затое --- Скамарох, што ўвесь род их -- Скамарохи. Бацька, дзед и прадзед умели йграць на скрыпцы и были скамарохами для усяе акруги.

Ниводнае вясельле бязь их не абыйшлося.

Спачатку дзед играў, даючы прыклады сыну. Потым бацька замяниў, водзячы з сабою па игрышчах и кирмашох, дзе трэба и ня траба, свайго малога Арцёмку.

Але, вось, памёр дзед, памёр и бацька з маткаю. Застаўся дзяцюк адзин, сирата. Тады пан Дастаеўски ўзяў яго да сябе ў двор.

Играць-жа хлапец умеў так, што бацьку й дзеда перайшоў. Ня простыя дастаў ад Бога пальцы.

Ды тольки меў и свае гонары Арцём. Бядота, наш брат-мужык, пански падданы, а ў им гонар быў зусим нянаски.

Таки ганарливы быў хлапец, што нават пан сьцярогся рабиць яму якую крыўду. Таки ганарливы: як не захоча йграць, то ци ўпрашай яго, ци пагражай яму,-- ня стане йграць ды й годзе!

И вось аднойчы прывёз пан Дастаеўски з Варшавы новую палюбоўницу-палячку.

Палячка тая вазьми ды й улюбися ў нашага музыку.

Узяла на вока простага дзяцюка.

Каб ня быў таки ганарливы, то рэч у той минулы час звычайная. Пан бавицца з палюбоўницай, а палюбоўница ячэ каго ў сэрцы мае.

Аж тут выйшла цэлая гисторыя. Арцём дзяцюк быў гэтки: як ня любиў, то й прыкидацца не хацеў...

Выедзе пан Дастаеўски да Варшавы, або ў госьци да суседзяў,або на ловы ў пушчу,-- палячка тольки таго й чакае. Гукнець мальца

да сябе и просиць, каб ёй играў.

Пакуль Арцём ня ведаў, у чым справа, іграў палячцы розныя нас-кия песьни, да якіж яна мела вялікую цікавасьць, бо нікол раней ня чула іх. Нават гаманиць панаску трохи кялася, каб, знацца, ляг-чэй апанавац яго.

Але як зразумеў музыка, што ня простым вокам глядзиць на яго панская палюбоўница, што наўмысьля распушчаець перад им свае даў-жэнныя, чарнюсенькия, быццам вугальле, косы, што не здарма хму-риць свае бровы, что не здарма ў яе на бела-румяным твары якоесь нецярпливае капрыснае ламаньне, як заўважыў усё гэта,-- страциў ахвоту игр ць ёй песьни.

А дзяўчына бачыць, што хлапец ганарливы,-- и пэўнасьць страци-ла сваю.

Вядома, як жанчына страциць пэўнасьць, то робицца, як-бы якая няпрытомная. То плача, то сьмяецца, то злуе-халярує, ничога ў сь-веце ёй тады ўжо не смакуе, и кожны лёгка заўважыць яе каханьне.

Палячка была зь людзьми абиходливая, и шмат хто шкадаваў яе, бо ведама-ж: и ў панскай палюбоўницы ёсьць чалавечае сэрца, и яна-ж на сваим хлебе -- чалавек.

Шкадуюць людзи палячку, наракаюць на Арцёма за ганарливую нату-ру.

А музыцы-нашаму да дзела тое горш за рэдзьку. И сам ён шкадаваў прыгожую палячку, ды раз на злосьць усим сказаў камусьци гэтак: "не хачу за панам надбираць... Някай яна сабе другога пашукае!"

Злыя людзи сказьми дакажи палячцы.

Ст-ж вышла гисторыя, з сим, як у сьвяты письме аб Язэпе ты Прыгожым и начальникавай жонцы.

Прыехаў пан, палячка з роспачы й нагаворыла яму на беднага му-зыку,--"Так и так,--каха,--лез гэты хамуйла да мае красы."

Але пан сьцямиў, што справа, мабыць, трохи йначай выглядае.

Гукнуў ён да сябе Арцёма, заперся зь им вока на вока ў габинэ-це и ну яго пытаць:

--Скажи, хаме, чым ты прывабиў да сябе маю палячку?

Маўчыць Арцём. И што тут сказаць?

--Хочаш ты, хаме, зь ёю ажаницца?-- зноў пытаецца ў яго пан.

--Низавошта ў сьвеце, найласкавейшы пане!-- цьвёрда адказвае Арцём.

-- Що-ж я бэндэ з вами робил?-- як-бы раицца зь им пан,-- иг-раў-ты ёй хамския песьни?

—Йграў, паночку!

— То выбірай, галгане: або жанися зь ёю й садзися на хлопскую тэй гаспадарку, або маеш играць ёй што ноцьми... адну ноч.

— Жаницца, николи не жанюся, а йграць — на тое мне й пальцы пан Бог даў.

— Добжэ мувиш, хаме, — пасьмiхнуўся пан; — памэнтай-жэ о тэм!

А за кольки дзён зьдзеялася неспадзеўнае няшчасьце: захварэла палячка й памерла...

Мабыць, паднёс атруты пан.

Прыбрали яе на той сьвет у багатыя панския ўборы, паклали ў вяликай сали на чорны стол, запалили сьвечки, адно тольки забылися — ксяндза прывесьци малитву стварыць.

Надышла ноч, кличе пан музыку з скрыпкаю.

— Памэнташ, хаме, цо мне мувил?

— Помню, найласкавейшы пане.

— Ну, то йдзи играй цэлую ночку нябожчыцы, каб яе душа ни кольки не сумавала па гэтым марным сьвеце.

Спужаўся наш музыка, думае: жартуець пан... Не!

—Йдзи, йдзи, каже — галгане, такая-ж была ў нас умова.

Пайшоў Арцём у салю, й зачынили там яго аднаго з палячкаю.

Кудасьци ахапила людзей, вяликим жаль нели да музыки й баялися, што ў той сали пры нябожчыцы прыйшла-тки на яго загуба.

Спаминали цяпер розныя страшныя пераказы: як уставали памёршыя з труны, каб загубиць таго, каго ў жыцьци дужа любили.

Стали нават шаптаць, што палячка была чараўница, старая кракаўская ведзьма, якая ўдалася прыгожай панскай палюбоўницай, каб загубиць нашага музыку.

Казали нават, што й сам пан дастаеўшы спытаўся з чартами, яким даўно марыла зьвесьци зь сьвету слаўнага музыку. Вядома, чарцям няма спакою ад добрага музыки, бо ён сваим харошым граньнем робиць людзей лепшыми, вернець их на добрыя думки.

А было ўсё гэта пад канец лета, кали з прыходам восени наступаець самая вядзьмацкая пара.

Што-ж тымчасам робиў Арцём?

Прыйшоў ён да труны, перахрысьциўся, памалиўся за ўмёршую душу и ўзяўся настройваць сваю старую скрыпку.

Тады адчыниў напята вакно и даў першы гук па струнах...

У тым, у бизуне скураты увиты,
На тым на бизуне сьлёзки палиты.

И шмат чаго играў музыка аб сваёй нядоли эмалку дзён.

А так, песьня за песьняй, сыграў усё жыцьцё сваё.

Цёмная ноч стаяла на двары, а як играў, то быццам расплывалася цямнота: то жниво перад вачами, жнеи пяюць, то ў сенажацях косы звоняць, То ў супрадках верацёнцы трынкаюць, то на игрышчы лявониху хлопцы зь дзеўками скачуць.

И никому не здавалася дзиўным, што ля труны нябожчыцы играець ён ня тольки хаўтурнае, але и штодзённае, бо ўсё пакаралася пальцам музыкавым; усё было тольки хараша, ци яно сьвятое, ци грэшнае.

Аж так и да поўначы падыйшло.

Дайшоў музыка да тае нешчасьливае часины, як играў палячцы панския песьни.

Трубиць паляўничы рог, гаўкаюць ганчаки, гэта, значыцца, выяжджае пан на ловы.

Сьмяецца палячка, як-бы званочак сярэбраны,-- гэта яна цешыцца, што Арцём да яе идзець. Пакацилася ад скрыпки смутная жниўная песьня, гэта ён пачаў играць ёй наския песьни.

Песьню за песьняй играець скрыпка, и такая жальба, такая жуда чалавечае душы была ў тым граньни, што сэрца ад болю ўсим сьцискалася. Божы сьвет нямилы рабиўся, жадалася чагось невядомага, чаму николи на сьвеце ня бываць. Разьливаецца ў сьлёзах скрыпка, плачыць аб марнасьци ўсяго сьвету, дзе адзин любиць, а други -- не. Так играў.

Але вось перабиваецца играньне на новы тон. Выплываець напаверх магутны гук, горды, неперáможны, пад яким ледзьва чуваць и тыя песьни жниўныя, и тое мучаньне палячкина. Зайграў Арцём аб сваёй гордай, адзинокай душы, зайграў аб сваёй музыцы. Грымиць няземны гимн, аж увесь сьвет ад тых гукаў дрыжыць...Па-над усим вышэй стаиць музыкаў гимн, няма той силы ў сьвеце, якая-бы яго сходала.

Раптам зарагатала з габинэту панскага нешта нялюдзкае, дзикае. Пан рагочыць, вые, сьмяецца! А музыкаў гимн, не зважаючы, плывець шырокай хваляю ў паветры цёмнае начы, як тая магутная бурливая рака ў паводку.

Сьцихла рагатаньне, и сярод музыки раптоўна: бух!--

Сьцихла й музыка, бягуць людзи да пана ў габинэт, глядзяць: аж

ён ляжыць з разьбітыми мазгамі, пісталет турэцкі пры им уронены ляжыць.

Здужала яго нячыстую силу Арцемава играньне, — застрэлиуся наш пан!

Пахавали яго з палячкаю разам, Арцема-ж болей мы ня видзели. сыйшоу ад нас, у сьвет, няведама куды.

Вось яки быу у нас музыка, вось якое-што часам дзеялася за п прыгонам.

———

Рыгор КРУШНА

## ПАЛЕСКАЯ ТАМАРА

Тану я ў моры мараў,
На сэрцы хваль прыбой.
Палеская Тамара,
О сьветлы вобраз мой!
Не мимаходзь засточыў
Я ў госьци да цябе,--
Ты васильками вочаў
Цьвила ў маёй журбе.
Твой мяккин кужаль косаў
Спавиў маю душу.
Не паглядай-жа скоса,--
Я радасьци прашу.
Ня высахне, ня зьвяне
Пялёсткаў белы цьвет.
Пад сонечнае зьзяньне
Каханьне выйдзе ў сьвет.
Я буду ў гэтым годзе
Гарэць, як у вагни.
Маўчаць пачуцьцям годзе!
--Тамара, працягни
Ты мне насустрач руки...
Я позьняю парой
Прыйшоў каб вызнаць муки
И поуны сумакой.
Аб гэтым часта мару.
И любую маю
Палескую Тамару
Пяю.

--"--

## Зь гисторыи Беларуси

А. А.

# 25-га САКАВІКА

Падняты родны сьцяг дзяржавы,
Ад даўних спаўшае вякоў,
Из дзён минуўшай продкаў сла -
вы
Адноў, живи Наш Край изноў.
( Песьня беларускіх партызанаў)

Гисторыя 25-га Сакавика сягае сваими карэньнями ў далёкую минуўшчыну нашай Бацькаўшчыны. Горда и магутна стаяла на ўсходзе Эўропы нашая дзяржава -- Вяликае Княства Литоўскае аж да XVI стагодзьдзя. У гэты час аднак яно мусила цяжка змагацца з усходняю навалай, акрамя таго, адбиваць напады туркаў на поўдни и нямецких крыжаносцаў на поўначы. Карыстаючыся з гэтага вельми цяжкага палажэньня, наш заходни сусед пачаў рознымі спосабами падкопваць нашую самастойнасьць.

Частка нашай шляхты и магнатаў, заманданая рознымі абяцанымі прывилеями, пачала зраджваць наш народ и пераходзиць на бок ворага. Наш заходни сусед, шляхам розных вуниляў, намагаўся паняволиць нашую Бацькаўшчыну. Народ, аднак, прывыкшы да самастойнага жыцьця, ня мог николи пагадзицца з накиданым яму чужою силаю парадкам, абмяжоўваючым яго духовае и матэрыяльнае жыцьцё. Идэя самастойнасьци беларускага гаспадарства ўсьцяж жыла и знейшла сваё выражэньне ў шматликих паўстаньнях, што пракацилися бурнаю хваляй па нашых землях у 1648 -- 1654 г.г.( паўстаньни: Нябабы , Няпалича, Хвэська, Крывашапки, Гаркуша и инш.). Астаўшыся верным свайму народу, крывицки князь Януш Радзивил у 1655 годзе зрабиў спробу аднаўленьня Вяликага Княства Литоўскага пры дапамозе Швэцыи. Жаль, гэтага яму не ўдалося ажыцьцёвиць , бо ён паў у

змаганьня з палякамі. Ягоныя пляны кацеў правесьці ў жыцьцё крывіцкі магнат гэтман Павал Сапега. Але і гэтая спроба не ўдалася, бо край і народ беларускі быў змучаны доўгімі войнамі і ня змог у гэты час разгарнуць шырэйшага і пераможнага змаганьня за свае ідэалы.

Гэтыя народныя паўстаньні і спробы аднаўленьня дзяржаўнага жыцьця сьветчаць аб вялікім гераізьме беларусаў і жывучасьці незалежніцкай ідэі.

Пасьля гэтых няўдачаў пачаўся запраўдны "Стурм- унд Дранг-пэрыодэ" супроць крывіцкага рэлігійнага і нацыянальнага жыцьця. Закон за законам, дэкрэт за дэкрэтам, пасыпаліся розныя пастановы, абмяжоўваючыя вольнасьці праваслаўных. Найцяжэйшым-жа ўдарам для беларускага народу, даводзячым яго да поўнага дзяржаўнага заняпаду, была забарона крывіцкай мовы ва ўрадах і судох (1697г.).

Нацыянальнае жыцьцё засталося існаваць толькі ў сялянстве.

... А вякі ішлі, мяняліся манархі, бурыліся калісьці магутныя дзяржавы, калішнія валадары сталіся падняволенымі...

Прыгнятальнікі зьмяніліся — няволя-ж засталася тая самая.

Не загінулі аднак старыя традыцыі, лягенды аб мінуўлых слаўных днёх. Жыў таксама і дух народны.

Хваля нацыянальных і сацыяльных паўстаньняў у заходняй Эўропе XIX ст. дакацілася да нас і гучным рэхам адбілася на нашых землях. Лепшыя сыны нашага народу пайшлі пад вызвольніцкія штандары Дыктатара Беларусі і Літвы К. Каліноўскага і... згінулі. Чорныя сілы мураўёўскай рэакцыі аказаліся фізычна дужэйшымі. Зломаны крыльлі паўстанцаў, але іх дух ня зломаны.

Як той дуб-волат, калісьці пышна зялёны, стаяў наш народ у змаганьні за свае правы. Пазрываў дзікі вецер красу яго — лісьце, паламаў слабейшыя галінкі, занёс іх дзесьці далёка на чужыя палеткі. Здавалася-б, што дуб замёр... Не! Ён жыве, бо яго карэньне жывое; яно разрастаецца і мацнее.

1917-ты год. Гэта быў год вялікага ўздыму і выяўленьня нашых сілаў. Да гэтага часу беларускі адраджэнцкі рух настолькі ўмацнеў, што калі заламаўся "калос вялікан на гліняных нагах" і завалілася сьцены "турмы народаў", беларускі народ адразу прыступіў да зьдзейсьненьня сьвятых сваіх ідэалаў — аднаўленьня свае дзяржаўнасьці. У с е б е л а р у с к і К а н г р э с, які ад-

быўся ў сьнежни 1917-га году ў Менску, пацьвердзиў гэтыя выкананьни абвяшчаючы Беларусь рэспубликай.

Ймала было перашкодаў, што нарастали на захадзе и ўсходзе, але беларускі народ, які прагнуў волі, не адступаў.

25-га Сакавика 1918-га году, пасьля ўсяночных абрадаў, кали першыя касулькі ўзыходзячага сонца ўварвалися ў салю пасяджаньняў, РАДА БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛИКИ 3-яй устаўной граматай абвесьцила Б Е Л А Р У С Ь Н Е З А Л Е Ж Н А Й Н А Р О Д Н А Й Р Э С П У Б Л И К А Й:

" Год таму назад народы Беларуси , разам з народами Расеи, скинули ярмо расейскага царызму, якое найцяжэй з усих прыдушыла Беларусь; ня пытаючыся народаў, ён кинуў наш край у пажар вайны, якая дашчэнту зруйнавала гарады и вёски беларуския. Цяпер мы, Рада БНР, скидаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьци, якое было накинута расейскими царызмам на наш вольны и незалежны край.

Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспублика абвяшчаецца незалежнай и вольнай дзяржавай. Сами народы Беларуси , у асобе свайго Ўстаноўчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных сувязях Беларуси..."

Гэты векапомны акт абудзиў сэрцы беларускага народу и дадаў яму яшчэ больш силы и веры ў сваю вялікую справу. Йзноў пачынаецца змаганьне за ўладу на Беларуси. Йзноў народ падае свой голас и клич , што ён жыў и жыць хоча. У чынным замацаваньне акту 25-га Сакавика выступаюць адважныя слуцчаки. Яны сваёю крывёю падписваюць Акт Незалежнасьци. Пала ахвярай и шмат каго з тых, што першыми падняли вольны сьцяг дзяржаўны. А голас аднаго зь их, Язэпа Лёсика и сяньня гучыць заклікаючым зовам:

"Вашыя сьвечки запаленыя и вы становицеся апосталами беларускае справы. Цяпер, як ясныя зоры, разыйдзецеся вы па Беларуси, каб прынесьци з сабою вялікую радасьць аб уваскрошаньни Беларуси. Вы скажаце народу беларускаму, што Айчына яго ўваскрэсла, што яно разьбила дамавину яго и далёка адкинуты камень ад грабу яго. Вы скажаце, што Беларусь жыла, жыве, жыць будзе и што недалёка ўжо "Абяцаная Зямля" яе".

—"—

А. ГРЫЦУК

# УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ

У жыцьци кажнага чалавека, кажнай сям'и и ў жыцьци кажнага иягв народу, бяручы шырэй, бываюць сьветлыя и сумныя перыяды. У непамысныя часы чалавек з прыемнасьцяй успамина светлыя часины ў сваим жыцьци и гэта надае яму силаў да вытрываласьци и да змаганьня за лепшую будучыню. Як паасобныя людзи, так и цэлыя народы, што з тае ци иншае прычыны у эпоху зьняволеньня страцили сваю самастойнасьць, з добрай думкаю ўспаминаюць сваё слаўнае минулае. На гераичных учынках продкаў новае пакаленьне вучыцца любиць сваю бацькаўшчыну, быць эхвярным для яе. У народзе выраблянцца нацыянальны гонар и нястрымнае имкненьне да воли, да паўтарэньня гераичных чынаў продкаў.

Нам, беларусам, ёсьць чым ганарыцца. Гисторыя наша багатая и мы маем на чым вучыцца и з чаго браць прыклад.

Прыкладам вялизарнай силы воли, беспараўнальнай адвагн и бязьмежнай любасьци да радзимы зьяўляецца на досьвитку нашай гисторыи князь Усяслаў, празваны яшчэ за жыцьця Чарадзеем.

Усяслаў быў унукам вяликай беларускай патрыёткн князёўны Рагнеды и киеўскага князя Уладзимера.

Любасьць да бацькаўшчыны пераняў ён ад сваих бацькоў и ад разумнай бабы Рагнеды. Пасьля сьмерци ў 1044 годзе бацьки Усяслаў абняў пасад Полацкага князя. Галоўнай ягонай мэтай было абяднаньне ўсих беларускиx плямёнаў у адну вяликую дзяржаву, якая магла-б даць належны супраціў кажнаму ворагу. А ворагаў Усяслаў меў шмат.

Усё жыцьцё сваё, як гаворыцца у летаписи, гэты адважны князь правёў у паходах. На кажны напад ворага адказваў князь нападам, на зьнишчэньне -- зьнишчэньнем. У битву заўсёды ішоў тады, кали найменш спадзявалися гэтага ворагн. Стварылася нават такая пагаворка сярод тагачасьникаў, што Усяслаў--гэта ня просты сьмяротны, а якисьци чарадзей, што ўначы воўкам бегае па дарогах ад Полацка да Тутмаракани и Киева, и загараджвае дарогу ворагу, бароначы шляхи да сваёй краины.

У баёх Усяслаў быў заўсёды там, дзе ствaралася найбольшая небясьпека. Першы кідаўся на сваім баёвым кані ў самую гушчу варагавых войнікаў, а за ім -- ягоная верная дружына.

Найбольш давялося змагацца Усяславу з кіеўскімі князямі, якія намагаліся здабыць увесь шлях з "Варагаў у Грэкі", гэта значыць гандлёвы шлях з Скандынавіі ў Візантыю. Частка гэтага шляху праходзіла праз Полацкае княства.

Дайшло да цяжкіх змаганьняў паміж Полацкім і Кіеўскім княствамі. Найбольш жорсткая бітва адбылася ў 1067 годзе пры рацэ Нямізе. Злучаным войскам кіеўскіх князёў пашчасьціла перамагчы Усяслава, але і кіеўляне мелі вялізарныя страты і не маглі далей ваяваць.

Пасьля гэтае бітвы кіеўскі князь Ізяслаў запрасіў да сябе Усяслава на мірныя перамовы, здрадным чынам забраў яго ў палон і пасадзіў у кіеўскі вастрог.

Страшэнна сумаваў Усяслаў па сваёй Полаччыне, седзячы ў чужым вастрозе. Думкі пра радзіму ня выходзілі з галавы. Якою вялікаю была туга князя-патрыёта па сваім народзе даказвае тое, што ў дзень Вялікадня Усяслаў лятуценна чуў гоман званоў полацкай царквы сьв. Сафіі.

Але пра добрага князя ведалі і кіеўляне. Яны прагналі Ізяслава з кіеўскага пасаду, вызвалілі Усяслава і абвясьцілі яго сваім князем.

Нядоўга княжыў Усяслаў у Кіеве. Думкі аб сваім народзе і аб ягоным лёсе зганялі яму сон з павекаў. Кожнага сьвята чуў ён гул званоў з далёкай Полаччыны. Якім вялікім мусіла быць сэрца князя, калі за тысячы кілёмэтраў адбівалася ў ім рэха родных званоў!

Князеў сум па радзіме ня меў межаў. Урэшце ня вытрываў князь. Пакінуў ён кіеўскі пасад і вярнуўся ў дарагую яму Полаччыну. За ім пагнаўся Ізяслаў, але свайго княства Усяслаў не аддаў яму, бо народ дружна пайшоў за сваім князем і прагнаў Ізяслава за межы княства.

Усяслаў Чарадзей памёр у 1101 годзе. Пакінуў ён свае княства магутным и здольным даць супрацiў усякаму ворагу.

Вяликия чыны слаўнага беларускага князя зьяўляюцца цяпер для нас як николи близкими. Таким-жа хвалюючым для нас зьяўляецца и апавяданьне аб вяликим князевым сэрцы, якое за тысячы килёмэтраў ад бацькаўшчыны чула гоман родных званоў. Таксама и мы на чужыне ўспаминаем бацькаўшчыну, а цяперашния вяликодныя званы яшчэ раз нагадваюць нам аб ей.

--"--

# З Ь М Е С Т

# ПАГОНЯ

ЛІТАРАТУРНА-ГІСТАРЫЧНЫ
ЧАСАПІС

№ 3

ЧЫРВЕНЬ-ЛІПЕНЬ, 1946.
ЗАЛЬЦБУРГ

З прычыны адсутнасьці ў машынапісе літары "э", замяняецца яна тут знакам "є".

Уладзімер ДУДЗІЦКІ




## ... Ізноў я тут

Ізноў я тут, каля цябе,
мой родны, любы, срэбны Нёман.
Скажы мне, колькі на гарбе
сваім дабра ты выцяг з дому?

Якія думы думаў ты,
калі твае сівыя грудзі
мільлён разоў гнялі плыты
і нець як змораныя людзі?

Якія песьні пелі тут
улетку хлопцы і дзяўчаты?
Хто суцяшаў у золь, слату
душу пакрыўджаную брата?

А колькі поту аснач...
ўлілі у глыб тваю, у хвалі?
Скажы, скажы, чаго маўчыш,
по хвалі мову пахавалі?

О, не... Я ведаю — жыве.
Памерці хто такую змусіць?
На ўсе вякі, а не на век
усім нам дадзена, клянуся!

Прызнайся, дружа мой, прашу;
як сам ты — знаць усё хачу я.
Ня бойся: чуеш, які шум? —
ніхто нас трэйці не пачуе.

Прыйшоў сюды я з-пад Дзьвіны,
з-пад Віцьбы нашае, з-пад Случы;
прыйшоў, каб цешыцца, ня ныць,
каб больш ня мець з табой разлучын.

Зірні, прыслухайся — гудуць
бары самотныя і пушчы.
Не, сорам класьці на ваду
дабро і цэла дрэва трушчыць.

Даруй, што ўзрушаным такім
прыйшоў сюды... Я шчыра раю:
як мову нашу,— на вякі
пакінь і скарбы свайго Краю.

1943 г.

## БЛІЗКІ І ТАКІ ЗНАЁМЫ

Часта чую сьлёзна-шчыры, любы
голас, блізкі і такі знаёмы...
Птушка-наймічка свайго Якуба
кліча ў хату родную, дадому.

— Ку-ку,
ку-ку,
яснавокі сокал,
ку-ку,
ку-ку,
прыляці,
прыйдзі!
Ведаю, сказалі мне, ў глыбокім
моры нейкім ты жывеш адзін.

Кінь шукаці на чужыне шчасьця,
ку-ку,
ку-ку,
кінь чужыну,
кінь!
Стрэну госьця, расчыніўшы насьцеж
шыр блакітную, вазёраў сінь.

Крыўдзіць — не пакрыўджу, дружа;
чуеш шелесты садоў, ракіт?
Хорам бацькаўскі з пялёстак, ружаў
журыцца каля ракі...

Ку-ку,
ку-ку!..
Дарагі Якубе,
вербы гнуткія ў туве, палі.
Зжалься,
зжалься, калі шчыра любіш,—
о, як сэрцайка мае баліць!..

Часта чую гэты голас любы
птушкі-наймічкі ў зялёным садзе;
кліча, бедная, свайго Якуба,
шчыра кліча страчаную радасьць.

1943 г.

## ПЛАЧА КРОПЛЯМІ ЗОЛАТА ДЗЕНЬ

Сінь дзівосная Неба, рассып
срэбра зораў на травы у поўні:
сонца выпіла кроплі расы
прагавітымі вуснамі поўдню.

Вяне, валіцца куст асакі,
млеюць нема садоў маіх ліпы;

Іхны шолест у пале такім
вецер подыхам высьмяглым выпіў.

І ня радуюць сьцежкі вачэй,
І ня цешаць, і дум не вяселяць.
Сумам русыя косы пячэ
кашміровая засень аселіц.

Сьлед на жорасьце чэрствых сьцяжын
абвуглелаю выдаўся плямай.
Неўтаймованы б'эцца, дрыжыць
у палёх гневам вдушаны лямант.

Плача кроплямі золата дзень,
жараство абняслаўленай сіні...
Мне здалося: шукаць нас вядзе
лёс ратунку на горкай асіне.

Маці родная, сёстры, браты,
Не змаўкае наструнены голас:
перамаю і лямант, і плач залаты
на абтоку сьцьвярдзеласьці голай...

Боль нясьцерпны працяў да касьцей
мае цела на змроку употай;
мае песьні на першай вярсьце
сівер раніць калючкамі дроту...

Мо' скарыцца, замоўкнуць мо?
Не!
Не замоўкне душы мае песьня!
Узьляціць у блакіт, няжывога скране
і заплача ля бацькаўскіх весьніц.

Прытулюся і я да разбураных сьцен,
ля курганаў укленчу, схілюся
і мацней запяю, каб на кожнай вярсьце
чутны голас мой быў Беларусі.

Жнівень, 1944 г.

БАЛЮЧЫМ НАКІПАМ СВАЕ КРЫВІ

Адчуў на скрыўджаным пароге пагосьце
балючым накіпам свае крыві,
што зноў зайшлася да мяне у госьці
рудая, чорная...
Прыйшла — жыві...
Мне ў хаце бацькаўскай ані ня цесна,
пакуль — падсуседкай пабудзь зіму.
Мой сум павесіцца на даўней песьні —
рукамі моцнымі яго вазьму,
шпурну, каб сэрца не тачыў начамі,
у глыб бяздонную сівых азёр.
Душа усьцешыцца: канцы адчаю...
Увесну восені спадзе рыззё
на прысак заходу, бы дзень аджыты, —
скажу:
цяпло нас не зраклося, не!
Я дні лічыў, схіліўшыся на пліты,
і пліты цалаваў,

і верыў: не кране
вясны скупая, злая восень — госьця
рудая, чорная...
Вясна, жыві!
Адчуў твой пульс на скрыўджаным пагосьце
балючым накіпам свае крыві.

1943 г.

## Я З ПЕСЬНЯЙ УПОРУЧ ПАЙДУ

Прамчаўся працяты маланкаю час
на крылах апаленых сьвету,
у далі сьсінельля ўреваўся, згас,
і песьня яго, кажуць, сьпета...
Другі, прагінаючы шэрасьць імжы,
выходзіць на ласае ўзвышша...
Шчапаецца пошчакам голас, дрыжыць,
у сполаху струны калыша.
Што дзіўнага ў гэтым?
У ходзе падзей
уцехі ёсьць кропля і болю,
і нават імкненьне адно —
маладзець —
парою істоту ўсю коле.
У часіну такую няцяжка здрадніць
удачы свае і няўдачы,
адно ня так лёгка адолець агні
і ветру кірункі зьвначыць.
О любыя думкі, скажэце, нашто
імчацца наўсуперак буры?
Мо' лепей паволі прайсьці, пехатой,
каб вецер убок не адшпурыў?
Адна прамінае, другая вярста...
На вотшыбе ў восенскім садзе
былое прабую навотлег лістаць,
каб з думкаю новай паладзіць.
Лістаюцца дні, а за імі — гады
раджаюцца ў муках і стынуць...
З руінаў сплывае, кудзеліцца дым —
імкненьні ружовыя сініць.
Прастора зьбіваецца, зябне, бы здань,
і смуткам агорнуты месяц
ня ў стане над краем жуду разгайдаць,
што волак наровіць павесіць.
Нічога...
Я з песьняй упоруч пайду,
хоць шлях будзе йсьці і над пусткай.
Ня вызвіваць, ня ўзрушаць наструнелых дум
на друзе крываўыя згусткі.
Над пушчай сівою — у шуме лясным, —
над стомай рабінавай ночы
ужо праразаецца воблік вясны,
што цемры скарыцца ня хоча.
Адна праімчалася, згасла пара,
прамчыцца у грукаце й гэта...
У небе займаюцца зоры, гараць,
вяшчуюць нам новае лета...

1943 г.

—"—"—"—

Алесь САЛАВЕЙ

# З кнігі «Сіла гневу»

" "
"

Alea acta est! --
Вырвецца вычна з грудзей.
Благаслаўленьня хрест
Дасьць мне вычлівасьць людзей.

Пераступлю Рубікон
Спраглых чужынных шляхоў.
Як усьміхнецца мне кон?
Дзе ад залогі дасьць схоў?

Поўнач схавае мяне,
Цемрадзі поцем густы;
Досьвітку промень мільгне —
Зетла прытуляць кусты.

Рушу далей — і мурог
Змые расою сьляды.
Збочу з пагрозы дарог,
Траплю ў хмызьняк малады.

Стрэне з прыхільнасьцяй лес,
Будзе высьпельваць мне плян,
Каб неўспадзеўкі пралез
Я аж да ворага ў стан.

Станаў парадак і лад
Шчэ не трапляў пад напасьць.
Сыты нягоднік і кат —
Вораг мой -- будзе 'шчэ спаць.

Будзе ён сон залаты
Бачыць у царсьцьве бярлог...
Перасятну праз драты
І праз апошні парог.

Ворагу крыкну ўсупор:
Alea acta est!
Гневу няўтрымны супор—
Помсты апошні гест.

Вобзем тырана шпурну --
Звaліцца туша, як сноп;
Скокну, як рысь, на сьпіну, --
Каб у вабоймы ня згроб.

Кіпцямі горла здушу,
Рэбры патрушчу, хрыбет
Скомсаю, вырву душу --
Гідкі анцыхрыстаў сьлед.

Неба маланкай мільгнець,
Змые ўсю пораш даждом.
З бліскаўкай -- цемры канец! --
Гулка пракоціцца гром.

Выйдуць і зь местаў, і зь сёл
Тыя, каго ня суняць,
Славы свaёй аўрэол --
Сьцяг перамогі ўзьняць.

Вольнасьць і дух даўніны --
Іхных імкненьняў зьмест.
Чуеце? Крочаць Яны!
Alea acta est!

1946 г.

## ЗЯМЛЯ Ў АГНІ

Зямля ў агні. Гарачыня.
Сусьвету -- ня дыхнуць.
Пякельнай лявы ня суняць,
Крыві струменіць муць.

Зямлі, зямлі гаспадары --
На дзьвюх, на дзьвюх нагах --
Сусьвету скарбы і дары
У пекла топчуць. Жах.

"Хадзі сюды, хадзі сюды!" --
Мне кажуць. --"У паход
Мы рушым. Вывядзем зь бяды
Радзіму і народ!"

Адзін: "Вазьмі, вазьмі -- ці меў? --
Вінтоўку -- новы стыль..."
Я ўзяў. Я ўвесь акамянеў --
Гнілы, крывы кастыль.

Другі: "Вось келіх у мяне --
Пітво ў ім змагароў.
Вазьмі!" Я ўзяў, зірнуў: на дне --
Людзкія сьлёзы, кроў.

А трэйці: "Змогся? Супачынь!
Прыляж на ложак наш."
Я лёг. Прачнуўся ўначы --
Ня ложак, а труна.

І ля мяне, і ля труны --
І века, і цьвякі...

Ідуць яны, ідуць яны —
Шкілеты... мерцьвякі...

27.6.1944 г.

" "
"

Трамвай — даўжэзная, танклявая труна —
Набіты трупамі людзей, бы селядцамі.
А ў мяккай шэрані паднебнага руна
Спадае долу дождж і ў шыбы б'е дубцамі.

Дол адчыняецца. Дарогі ў цемру. Спрут
Дратоў трамвайных, ~~[illegible], шляхі мой~~ перапутаў. [illegible] і ўсе
Няўжо [illegible], як іншыя, халодны труп? і я
Няўжо ня вырвацца мне з тагасьветных путаў?

Кенігсберг, 9.7.1944 г.

" "
"

Ахвяраў прагне сьмерць. Явік
Ад прагі ёй спуху — нямая.
У сьвет, дзе змоўк жывога зык,
Крывёю сьцёкшых нат прыймае.

Мяне цягнула — я уцёк
І да цябе прыйшоў, мой дружа.
Ты бачыш — я крывёй ня сьцёк,
На мне ня раны — кветкі ружаў.

З табою колькі ўжо гадзін —
І асалоду п'ю жывую.
Са мною ты — я не адзін,
З табою я — жыву, жыву я!

Ты бачыш сам — шчасьлівы той,
Каму шчасьце сабра рукі.
Навошта-ж гнеўнаю пятой
Нас хоча зноў таптаць разлука?

Навошта-ж так, ты мне скажы,
Мяне агортвае чужынасьць?
Быць аднаму — быць на мяжы
Прадоньня ў брыжам на трунжынах.

Тады і радасьць ня прыльне.
Сярод чужых быць — сьмерць нямая.
Я не жыву, няма мяне,
Калі я блізкага ня маю.

13.7.1944 г.

" "
"

О, людзі! Паглядзеце на мяне,
Хіба я назусім памёр, скажэце?

Правін ваш, як нябыт, не праміне,
Чака цемра й вас на вашым сьвеце.

Вы мне мячом адсеклі галаву
І гойстрым штыхам пракалолі грудзі,
Зямлёй засыпалі. А я — жыву,
Сьцігуючы цяпер вас, людзі, людзі!

Ад вас, ад вас я сьвету сьмерці — дань.
Цяпер мой зірк — прадоньне вашай згубы.
Я ўдзень — шкілет жывы, уночы—здань.
Скрыгічуць, просячы расплаты, зубы.

Гукаю ўдалеч: —"Черці й ведзьмары,
Даволі вам сядзець у нетрах крукам!
Прачнецеся, вы мне цяпер—сябры.
О, дайце, дайце мне касу у рукі!

Расплаты час прыйшоў. Шырэй пракос!
Скакаць на скошаных галовах будзем.
Пад ветру стогн, пад сьвіст і сковыт кос
Нявінных мерцьвякоў ад сну разбудзім."

Прыйшла, прыйшла чарга скакаць й мне
У князьцьве сьмерці, у пякельным сьвеце.
... Расплата вінавайцаў ня міне,
Сьмяротны танец у мяне наўвеце.

12.8.1944 г.

" "
"

Бывай, Гедеместе, бывай,
Апошні суворы прытулак!
Паеду, памчуся ў свой край —
Ніхто так, як ён, ня прытуліць.
Скарыся, шляхоў далячынь!
—"Нязваныя — чую я — госьці
У доме тваім. Супачын
Рыхтуюць табе... на пагосьце."—
—"Ня едзь!" — мне скуголяць вятры.
—"Сабакам і сукіным сынам
Назваў цябе дом твой. Утры
Сьляву,— па табе там асіны
Льюць сьлезы."—
Ізноў хтось: —Чакай!
У доме — злачынец і вораг..."—
Бывай, Гедеместе, бывай,
Апошні прытулак суворы!
Хай шлях нявыразны — пара
Ступіць на яго.
Падзямельле
Грукоча: — "Што-ж, майстра пяра,
Хістаешся, сеўшы на мелі?
Пабач! За табою — штыхі,
Зірні—сьцень пагібелі блеклы.
Забудзься на дом — і шляхі
Убачыш ты выйсьцьныя з пекла.
А потым — і рай."—
Што мне рай?
Мне ўсё, што ня дом,—ня прытулак.
Сьцякае крывёю мой край —

Цяпер нат і ён ня прытуліць...
Бывай, Гедемсоте, бывай!

Гедемсоте, [illegible]

" "
"

Плыве вадаплаў і плыве
Ад сьмерці да сьмерці у госьці.
Пагібель маёй галаве
Прарочыць бязьлітасна хтосьці.

І кажа мне, кажа: "Плыне
Цябе ненажэрны прадоньне.
А морскія камні на дне
Спакой табе вечны адзвоняць."

"Пакіньце! — прарокаў прашу —
Нялёгка ад вашага мору
Спакойна хаваць мне душу
На дне неспакойнага мора."

І цяжка маёй галаве.
Прароцтвы — калючыя восьці.
Плыве вадаплаў і плыве
Ад сьмерці да сьмерці у госьці.

Вальтыцкае мора.

" "
"

З агню вар'яцкага, з пякельнай цямрыні,
Ад дзён, што начамі зрабіў пажараў дым,
Уцёк я да палёў. Зірні, зямля, зірні,
Ці-ж быў раней такім сухім я і блядым?

Як жыў табой, ~~ня~~ тады ведаў цемры ~~места~~ я.
І быў тады, як ты, прыбраная вясной.
Цяпер-жа? Кажаш [redacted] цяпер, ~~і~~ я не твая.
А ты? Ты [redacted] месяца [redacted], чужынец мой.

Вена, Швадорф, 25.3.1945 г.

" "
"

~~І ўсе~~ А ўсё-ж мы вернемся дахаты, у айчыну,
І не заблудзімся у шляхох чужой зямлі.
А я вярнуся ~~з чалавекам новым —~~ не адзін, а з сынам, —
Нашчадкам [redacted] крывічоў і іх сям'і.

Скажу, укленчыўшы: Крывіччына сьвятая!
Хай ты насьмерць была расьпятай, а жывеш.
Тваіх дзяцей ні далі, ні імгла густая
Не абясплодзілі у чарсьцьве пустельных меж.

Жывому — жыць. Зьнішчэньню-сьмерць. ~~Усё~~ Жывое
Кідае ~~зьмену~~ па сабе жывому плод. [illegible]
Ты не памрэш, ~~моя~~ Крывіччына! З табою
[redacted] Ніколі не памрэ крывіцкі род.

12.5.1946 г.

—"—"—"—

Вольга ТАПОЛЯ




„Валька, хадзі да мяне..."

--Чаго, мамуся?

--Хадзі от. Пагутарыць з табой ахвота.

--Пасьля, родненькая. Часу няма...

--Ды хадзі, кажу! Пасьля мо' будзе позна...

Маці цяжка варочаецца на ложку і глуха, надрывіста кашляе.

Валентына, якая перад гэтым сядзела пры стале, абклаўшыся вакол цэлымі горамі паперы, парывіста ўсхапліваецца зь месца і таропка кідаецца да матчынага ложка.

--Мамусячка, родненькая...

Вальчыныя вочы поўныя затоенай трывогі і глыбокага смутку.

—Ну... ну... Ня трэба,-- шэпча маці, схуднелаю рукою пяшчотна праводзячы па ейных сьветлых хвалістых валасох.-- Чаго гэтак, устрывожылася? Ня чула, як кашляю, ці што?

Валька маўчыць, пільна ўглядаючыся у гэтак зьнячэлы, бязьмежна любы матчын твар. Божа, як яна зьмізарнела! Адны толькі вочы, цёмныя і вялізныя, блішчаць на дзіўна маленькім, нібы у дзіцяці , воскова-жоўтым твары. Але колькі у іх, у гэтых глыбака запалых вачох, абкружаных сіняватаымі западзінамі, бязьмежнае любасьці да Валькі і нязьмернае, няўказнае прагі да жыцьця.

"Ня жыліца яна на сьвеце..." -- праносіцца ў Вальчынай галаве ўжо ня новая, але тым ня менш нясьцерпна-страшная думка. Гэтая думка, нібы вострыя нож, балюча праціскае мозаг, рэхам глухога болю аддаецца ў сэрцы...

І, каб утоіць ад хворай сваю трывогу, свой боль, Валька, намагаючыся надаць свайму твару як мага больш бесклапотны выгляд, пытаецца:

--Чаго ты хацела, мамка?

--Пагутарыць... Так заўсёды ахвотна мне з табою гутарыць, і так рэдка я маю гэтую ўцеху... Усё ты занятая, усё то пішаш, то некуды сьпяшаешся, а я ўсё адна ды адна... Ляжу ды маўчу...Маўчу.. Няма з кім гаварыць. І так яно мне страшна, гэтае маўчаньне... Так страшна, Валька. Бо я-ж адчуваю, што хутка прыйдзецца змоўкнуць навек. У магіле ўжо давядзецца заўсёды маўчаць...

—Кінь ты, мамка, пра магілку казаць !

--Я-ж ня часта кажу... Я і сама ня люблю пра яе думаць, ды толькі, як вось так ляжыш ды маўчыш, дык неяк міжволі ў галаву лезе... А, ведаеш... так ня хочацца паміраць! Вось-вясна настае,сонейка сьвеціць, такое зыркае, пяшчотнае... А на зямлі... ручаёчкі гурчаць... Травіца прабіваецца з-пад сьнегу, цягнецца да сонца... Пра-

буджаюцца ровныя мошкі, казюлькі... Кожнае, самае маленькае, самае нікчэмнае стварэньне прагне жыць... А я... я мушу памерці!...

—Мамачка, не кажы так!... Ты яшчэ будзеш жыць... І яшчэ спаткаеш не адну вясну... — хмурачы тонкія бровы, кажа Валька.— Дый ня трэба так шмат гаварыць... Табе-ж гэта шкодна.

—Ет, нічога!... Дай мне хоць выгаварыцца... Вось, кажуць: страшна ад вайны памiраць, ад бомбы, прыкладам... А мне здаецца — не! Адна хвіліна страху — і ўсё! А тут ня хвіліна... Тут цэлымі днямі ляжыш у гэтых маркотлівых сьценах і чакаеш канца... А яны такія доўгія, гэтыя дні, і цягнуцца бясконца...

—Мамачка!...— з пакутай выгукнула Валька.— Дальбог, я больш не магу слухаць... Што гэта з табой сяньня? Ты заўсёды была такая бадзёрая, жыцьцярадасная, не зважаючы на сваю хваробу...

І тут-жа Валька падумала, што гэта, пэўна, эгаістычна — не даваць маці выказаць тое, што яе мучыць, толькі таму, што для дачкі гэта няпрыемна, цяжка слухаць...

—Ну... ну... больш ня буду!— вінаватым тонам шэпча хворая.— Даруй мне. От так, нейкая дурасьць на мяне сяньня найшла... А мо' яшчэ і буду жыць! Мо' яшчэ на тваім вясельлі скакаць буду...

Па матчыным твары блукае сьветлая ўсьмешка. Яна ўзьнімае вочы і лятуценна глядзіць у акно, дзе ў празрыста-блакітным, крышталёва-чыстым паветры пялёскуцца залацістыя праменьні веснавога сонца.

—Замуж я ўжо не пайду... — панура шэпча Валька.

— Нічога, пойдзеш яшчэ... На Андрэя свайго, ліхадзея, забудзешся... Толькі от шанаваць сябе больш трэба... А то кепска ты сябе даглядаеш... Вунь, схуднела... Ці ўсю ты зупу зьела, Валечка? Ці згатавала сабе хоць яечка?..

Маці, як і заўсёды, у кажную часіну гатовая забыцца аб сабе і поўная клопату аб Вальцы, штодзённага дробленага клопату, быццам Валька — маленькая дурненькая дзяўчынка, якая не патрапіць пакла- паціцца аб сабе сама.

— Ну, цяпер, мамка, я пайду працаваць!— рашуча кажа Валька, узьнімаючыся з матчынага ложка.

— Зноў пісаць? — расчаравана пытаецца маці, узьнімаючы на дачку поўны жалю і немата дакору позірк.— А я думала, ты пасядзіш яшчэ са мной!...

— Ну, добра, яшчэ пасяджу трошачкі, — згаджаецца Валька, зноў умошчваючыся каля маці на ложку.

— Пра што-ж ты цяпер пішаш? Расказала-б мне, дачушка!

— Казку пішу... Пра лесуна і русалку... Тое, што ты надоечы расказала... Дык вось я цяпер гэта запісваю... Ну, ведама, трошкі і ад сябе дадаю... Свайго стылю, сваіх вобразаў, так сказаць, падпушчаю...

— Скажы ты!... А я і ня ведала, што ты маю казку будзеш апрацоўваць... Глядзі-тка, вось ты і пісьменьніцай у мяне зрабілася... Мо' і славутая калі-небудзь станеш... Ото-ж у цябе галоўка!... Ты-ж і вершы складаеш... Ты ў мяне і паэтка...

— Што там мая галоўка!— крыху засаромленая кажа Валька.— Усё праз цябе, мамуся!... Каб не твае цудоўныя апавяданьні ды казкі, я-б, мусіць, ніколі нічога не напісала... Гэта ўсё ты... Твая ўва ўсім заслуга. Ты сама ў душы паэта. Ты гэтага і не заўважаеш, але гэта так!... Я адчуваю гэта на кажным кроку... І твая паэзія мімавольна перадаецца мне...

— Што ты там вярзеш! Які я паэта:.. Я і вершу ніводнага ніколі ў жыцьці не напісала. Я проста апавядаю табе тое, што чула яшчэ ад свайго дзеда, або што на вёсцы чула, як настаўнічала... Там сяляне мне шмат розных цікавых гісторый ды казак панаказвалі... І песень розных панапявалі... А што, калі-б ты мне што-небудзь напісала?.. Мне асабіста прысьвяціла?.. Ну, хоць што-небудзь... Разумееш?..

Голас маці просячы, нерашучы, нібы ў дзіцяці, якое просіць аб чымсьці недазволеным, або цяжка выканальным, а вочы пазіраюць

крыху засаромлена і наіўна.

— Мамка, усё, што я напісала — усё гета я прысьвячаю табе! — шчыра кажа Валька.

— Не... — яшчэ больш засаромлена пярэчыць маці.— Так, каб адразу было відаць, што гета — мне... Пра мяне самую крыху... Разумееш?

Сказаўшы гета, яна адчула сябе страшэнна няёмка і нават затуліла ў падушку твар. Яна была, нібы вялікі дзіцёнак. У яе было сэрца крышталёва-чыстае і не запсаванае праз усе 48 год ейнага жыцьця. Гады ішлі нібы паўз яго, паўз ейнае сэрца, кладучы свой адбітак толькі на твары, а яно, сэрца, увесь час заставалася нявінным, чыстым і маладым. І менавіта за гета Валька бязьмежна любіла сваю маці. Яна была Вальцы ня толькі маткаю. Яны былі найвялікшымі сябрамі.

Часамі паміж старэйшымі і маладымі бывае прорва, пакладзеная гадамі. Старэйшыя забываюцца аб тым, якімі яны былі раней, і перастаюць разумець маладых. Так ня было з Вальчынаю маткаю: ніхто так добра не разумеў Вальку, як ейная маці, ні ў кім Валька не знаходзіла такога гарачага водгуку на ўсе свае, нават самыя дробязныя, перажываньні і інтарэсы, як у ёй...

І таму Вальцы было так страшна, так нявымерна, неперахазна балюча страціць маці...

— Дык напішаш, Валечка?— зноў пытаецца хворая, нерашуча і нясьмела ўзьнімаючы на дачку позірк.

— Напішу, мамка... — адказвае Валька, зноў устаючы і скіроўваючыся да стала.

Маці тым часам засынае. Яна сьпіць, дыхаючы роўна і спакойна, нібы здаровая. І гета пакрысе супакойвае Вальку. Яна паглыбляецца ў працу, на некаторы час забываючыся аб усім.

Сонца зайшло. Цямнее. Лёгкі і празрысты безазы веснавы змрок лагодна атуляе зямлю, поўніць сабою Вальчын пакой, сьцірае абрысы прадметаў, робіць іх расплыўчастымі й цьмянымі. Дробна напісаныя літары пачынаюць зьлівацца перад Вальчынымі вачыма, зьнікаюць, губляюцца ў змроку... Валька кідае працу, адыходзіць ад стала і на пальчыках праходзіць паўз матчын ложак, баючыся патрывожыць сон хворай.

У змроку матчын твар здаецца яшчэ больш схуднелым і бледным. Вочы — нібы дзьве цёмныя ямінкі, і нос ужо завайстрыўся... "Як нябожчыца..."— мімволі паўстае ў Валькі параўнаньне. Яна таропка, нібы кудысьці сьпяшаючыся, выходзіць на двор. "Памрэ!..."— думае яна, і лядзяная непераможная роспач зялезнымі абцугамі сьціскае ёй сэрца.

На аксамітным дыване неба там і сям загараюцца блакітныя ліхтарыкі зорак. Сьветларогі маладзік самотна звісае над суседзкім дахам...

— Памрэ... — ізноў з роспаччу думае Валька, моцна, да болю сьціскаючы на грудзёх свае пальцы.—Сяньня яна яшчэ са мною, яшчэ жыве, хвалюецца, непакоіцца за мяне, чагосьці жадае, спадзяецца... А заўтра... мо' ўжо менавіта заўтра ёй ужо ня будзе патрэбна ні гэтых зорак, ні месяца, ні вясны, якую яна так бязьмежна любіла...

" " "

Кароткую веснавую ноч Валька правяла бяз сну. Яна думала пра маці, пра Андрэя, якога ёй ужо, мабыць, не давядзецца больш бачыць, пра тую страшэнную, жахлівую для яе сумоту, якая чакае яе ў блізкай будучыні. Сон бег ад яе, адмаўляючыся жыватворча зачыніць ейныя стомленыя павекі...

Назаўтра быў звычайны будзённы дзень... Як і штодня, напружаная праца за ўстанове, а пасьля — таропкая хада дадому, сьпяшаньне да маці, да хворай, якая ўжо чакае, ужо лічыць часіны і ня можа прычакаць доччынага звароту, ужо недарэчна, як заўсёды, непакоіцца і хвалюецца, што Валька так доўга ня ідзе, хоць яна бяжыць ледзь ня бегма...

Уваходзіць у хату. У маці — суседка. Дзякаваць Богу — значыць, яна была не адна і не магла аддацца сваім маркотным думкам...

— Валечка!... — радасна выгуквае маці, прыўзьнімаючыся на ложку, быццам парываючыся ўсхапіцца і бегчы насустрач дочцы. — Родненькая мая!... Сонейка мае яснае!... Як прыйдзеш ты, дык і ў хаце быццам-бы пасьвятлее...

Прывітаўшыся з маці, Валька выбягае на кухню. Яна сьпехам раскладае агонь на пліце, фарсіка гатуе абед. Няма часу аддавацца роспачы: хворай даўно ўжо час есьці.

А маці гаворыць суседцы пра дачку:

— Добрая яна ў мяне, мая Валька... Проста залатая дачка. Вось — прыбегла з працы — ні хвіліначкі не адпачнула, а хутчэй хапілася мне есьці гатаваць... Яна так аба мне клапоціцца, так даглядае... Нібы малую. Быццам ня я матка, а яна... Такое ўжо ў яе сэрца... І такая адкрытая душа... Усё ў яе па шчырасьці... Без жадных хітрыкаў... Гэта — кепска. Загіне яна. Так не пражывеш... Праз меру шчырая... і — мяккая. Сэрца ў яе надта мяккае і чулае. Без прыхільнасьці яна ня можа. А ўжо як прыхільнасьць на каго займее — душу аддасьць... Сябе не пашкадуе. Добрая яна, а для сябе — ліхадзейка...

Маці цяжка ўздыхае.

Абед гатовы. Суседка пайшла.

Сяньня Валька сумная. Хворая намагаецца яе разважыць.

— Чаго ты сяньня... такая? Мо' з-за Андрэя? Ён яшчэ прыйдзе!... Вось пабачыш... Ня сумуй!...

Яна сама ня верыць у гэта і добра разумее, што лепш-бы было Вальцы забыцца на яго, не жадаць ягонага прыходу, але разам з тым яна разумее, што цяпер яшчэ Валька ня можа гэтага, што яна аб ім марыць, што ўпотай спадзяецца яго бачыць, і хворай хочацца суцешыць дачку. Яна ідзе тут не па тым шляху, на які становяцца звычайна маткі. Яна паўтарае:

— Валечка, ён прыйдзе!...

І запраўды, у Валькі нараджаецца нейкая надзея. І хоць яна была сумная не з-за аднаго толькі Андрэя — нат куды ў большай меры з-за хваробы маці, — аднак, ёй робіцца неяк лягчэй, і вочы ўраз становяцца весялейшымі...

Маці заўсёды здолее яе разважыць, суцешыць. Нават цяпер, калі яна ў такім цяжкім стане... Але што будзе, як ня стане маці?..

" " "

Гэта здарылася хутка, вельмі хутка, нават раней, чым ся можна было спадзявацца.

Была ясная веснавая раніца. Хворай прынесьлі букецік першых блакітных кветак. Яна паднесла іх да свайго твару, пяшчотна кранала іх губамі.

— Любыя!... Мілыя!... Я яшчэ пабачыла іх... Якія яны прыгожыя, цудоўныя!... Як я іх люблю!...

Яна прыўзьнялася на ложку, каб лепш зазірнуць у вакно.

— Неба... чыстае веснавое неба... — прашаптала ціха і неяк падзіцячаму наіўна-жаласна, — Жаўранкі там... пяюць...

І раптам вочы яе напоўніся дзікім, нявыказным сполахам.

— Валька, паміраю!... — крыкнула яна надзіва моцна, звонка і чыста. — Паміраю...

Маці закідалася, заварушылася на ложку, парывалася ўстаць.

Валька паклікала суседзяў. Усе пасталі вакол ложка і маркотна глядзелі на апошнія пакуты. Ніхто нічога ня мог зрабіць...

Адна старэнькая бабуля запаліла васковую сьвечку...

Праз паўгадзіны маці ня стала...

Далей для Валькі ўсё пайшло, нібы ў гарачкавым крывавым тумане. Валька бадай што ня памятала, як маці ляжала мёртвая, прыбраная ў апошні сьмяротны ўбор, як суседзі прыносілі кветкі, улюбёныя ёю першыя кветкі вясны, як сьвятар служыў паніхіду... Бадай што ня памятала Валька і пахаваньня. Яна была, нібы ўчадзелая, нібы цяжка

хворая, няпрытомная... На адзін толькі кароткі мамент да яе нібы вярнулася прытомнасьць, і яна ўсьведаміла тое, што робіцца вакол. Гэта было на могілках. Тады яна ўбачыла перад сабой жахліва-цёмную, глыбокую дзірку, куды павінны былі вось зараз апусьціць ейную маці, апусьціць тую, якая так палка любіла жыцьцё і сьвятло. Валька міжвольна схілілася над ямінаю. На яе дыхнула адтуль холадам і вільгацьцю.. Апошні прытулак маці... Вечная ейная хата... Валька ціха ўскрыкнула і, хістаючыся, адыйшла прэч. Далей яна ізноў нічога ня памятала. Здаецца, яна нават не разьвіталася з маткаю...

" " "

Калі Валька апамяталася, яна была адна, зусім адна. Вакол былі толькі маўклівыя сьцены, нямыя сьведкі былых радасных дзён у мілай сямейцы, ля любай мамы...

Аднаго разу прыходзіў Андрэй. Ён прыйшоў выказаць ёй сваё спачуваньне з нагоды спасьціглага яе гора. Быў сумны даждлівы вечар, у Валькі на сталё нудна гарэла цьмяная капцілка. Але на мамент Вальцы раптам здалося, што вакол-хораша, радасна і сьветла. У ёй ізноў зварухнулася была надзея... Калісьці яна была шчасьлівая зь ім, з гэтым чалавекам, які цяпер трымаў у сваёй дужай, гарачай руцэ ейную халодную, схуднелую і кволую, быццам дзіцячую руку і пасяброўску цёпла зглядаў у вочы. Мо' яшчэ ёсьць у яе блізкае сэрца на зямлі, і мо' яно б'ецца менавіта ў гэтых моцных, шырокіх грудзёх калісьці бязьмежна любага ёй сябры?... Дарэмна!... Надзея на адно толькі кароткае імгненьне ўзгарэлася сьлепуча-яркаю зоркай, каб у наступную-ж часіну згаснуць і шэрым, лядзяным попелам роспачы абсыпаць сэрца...

-- Валька,— пачаў ён глуха,— мы мусім з табой разлучыцца...Гэта вырашана даўно... Ты ведаеш. Нашае каханьне ня можа працягвацца далей.

Яна вырвала ад яго сваю руку.

-- Ідзі... -- сказала ледзь чутна.-- Ідзі да тэй... другой... Я нічога не вымагаю ад цябе.Нічога... Ідзі...

Яна хацела здавацца перад ім зусім спакойнай, абыякавай, але гэта не ўдавалася ёй. Буйныя сьлёзы набеглі на ейныя, раптам пацьмянелыя вочы і часта-часта пакаціліся па шчоках, а бледныя губы пачалі сударгава крывіцца.

-- Ня плач ,Валька, ня трэба...

-- Пакінь мяне!... -- сярдзіта, праз сьлёзы праказала яна.--Ідзі ... Я плачу не па табе, а па сваёй маці. Я страціла ўсіх... Разумееш? -- Усіх!!!... Брата, сястру, найбліжэйшую сяброўку, а цяпер -- маці.. Ідзі і не перашкаджай майму гору...

-- Ня плач,— паўтарыў ён мякка, не зважаючы на ейны сярдзіты тон.-- Ня ты адна такая... Такіх шмат... Трэба быць мужнай...

Так, ён мае рацыю!... Такіх, як Валька, самотных -- шмат...Але-ж ці ён зразумее, што ейнае, Вальчына сэрца ня зносіць самоты, што яно мусіць любіць, толькі любіць, ахвяроўваць сабой дзеля блізкіх, дарагіх, аддаваць дзеля іх усё, жыць дзеля іх?..

--Ідзі.-сказала яна ізноў.-- Нам няма больш пра што гутарыць.

І ён пайшоў, пакінуўшы яе адну зь ейным горам. Яму, як і ўсім,ня было жаднае справы да ейных перажываньняў...

Чужы і далёкі, як і ўсе!... Нідзе няма роднае душы, блізкага сэрца!...

Яна села да стала і пачала пісаць. Яна пісала вершы аб сваёй маці.

Матуля любая, матуля родная,
Цябе няма ўжо са мной, няма!
І я, гаротная, як ёсьць, самотная,
На цэлы сьвет цяпер зусім адна!...

Напісала... І яшчэ напісала шмат і пра матчыны песьні, і пра ей-

ныя казкі... І раптам схамянулася: каму патрэбны цяпер яны, гэтыя вершы? Каму?... Чыё сэрца крануць яны?...

Тады, калі яна, Вальчына маці, была жывая, калі яна ўся гарэла любасьцяй да дачкі, спальваючы на вогнішчы -- мо' недарэчных, але вялікіх -- хваляваньняў за яе свае апошнія сілы, тады Валька не напісала ёй, не напісала аб ёй ніводнага радка!... Ніводнага, хоць маці так прасіла, так марыла аб гэтым!...

А цяпер?... Навошта цяпер гэтыя вершы?...

Яны разаб'юцца аб сэрцы людзкія, як хвалі прыбою аб прыбярэжныя скалы, не крануўшы іх, гэтыя сэрцы, не спарадзіўшы спачуваньня...

Позна!...

І Валька бясьсільна апусьціла галаву на свае рукі, складзеныя на стале...

У вакно мерна і аднагучна барабаніў дождж...

1943-44 гг.

--"--"--"--"--

Мікола ДВАРЭЦКІ

# Перад бурай

/Урыўак з аповесьці "Голас крыві"/

ВЫЕХАЎШЫ з двара, Палікар заўважыў, што ня відаць на калёсах торбачкі з полуднем. Можа-б ён і не заўважыў, можа і безь яго забыйшлося-б, каб ня сусед Лукаш са сваёю засьцярогаю:

— На ўвесь дзень хіба?У полудзень-жа, чуў я, будуць гэтыя самыя... каб іх ногі не насілі...

—Буду бачыць, надвор,е ўжо надта добрае, а канюшына адцьвітаць пачынае,— маўкліва адказаў Палікар. А пазьней, зірнуўшы на калёсы, дадаў: —Не пашанцуе, відаць,— забыўся от... Кажуць-жа, што за дурною галавою нагам небалазе...

—Палікар,— гукнула, даганяючы, Текля,— што ты сабе думаеш, ня еўшы будзеш, ці што? І няма таго дня, каб не забыўся чаго...

—Э, балазе маеш зачэпку. Гады-ў-рады трапіцца, а ты — "няма таго дня"!.. Сама ведаеш, чым галовы нашыя цяпер занятыя,— узяў з жончыных рук торбачку і паклаў яе на ахапак сьвежае канюшыны.— А ў хату ўсё-ж зайсьціся трэба — табака на вакне засталася,— глыбока ўдыхнуўшы паветра, неяк глуха, напеўна, згадваючы нешта далёкае,прагаварыў Палікар.

— Я-ж кажу...

— Чуў ужо, чуў,— перабіў жончыну гаворку,— клопат вялікі: у Бога днёў многа, управімся, калі жывы будзем, і памерці не памру, калі адзін раз і бяз хлеба да вечара пабуду,— лагодна пераконваў Теклю.—А табе кажу: ячмень не перастояў, не сьпяшайся; пабудзь сягоньня каля хаты і ад Віктара не адлучайся надаўга, бачыш, што яму, беднаму, не здаровіцца, гарачка якая. Заўтра жаць пачнеш, і Алеся тым часам зь места вернецца,— будзе на каго і хлапца пакінуць, і хату...—Часіну памаўчаўшы, Палікар сказаў: — Можа часам трапіцца што-якое, наказаць, глядзі, не забудзься...

— З Богам, дарэженькі, спору табе ў працы! Накажу, калі што-якое.

Каб ня гэты полудзень, Текля напеўна была-б ужо каля ячменю і ці мала-б выжала.Зборы ў яе невялікія: яна яшчэ зь вечара, перад тым, як спаць лажыцца, думае пра заўтрашні дзень і рэчы ўсе спрытоніць напашэве, а гэтым разам, як на тое,Палікар зблытаў сваёю памяцьцю дзённы разрахунак,— ізноў думай, каб дзень не прапаў дарэмна, і ня то што дзень,— ого, у Теклі не прападзе ён,— а каб і адна часіна на глум не пайшла, не змарнавалася бяз працы. Яна ня ведала пакуль такога выпадку ў сваім жыцьці, а асабліва ад таго часу, калі пабралася з Палікарам, каб разьмінуцца калі, як кажуць, улегцы з днём, насалоды ягонае не адчуўшы. Ніхто, бывала, першым расы не абаб,е за ёю. Што не, то не. За траіх выробіць. Гэта ня Прузына Нюхаўка — бібікаў біць ня будзе,бяз хлеба седзячы.

—Мамка,— азваўся, войкаючы, Віктар,— перастала балець галоўка, і я пайду з вамі...

—Німожна, сынок, ты яшчэ хворанькі. А я-ж нікуды ня йду, ля хе-

ты буду. Хутка і Алеська прыйдзе, лекаў прынясе табе. Выпʼеш, паправішся; азьму тады і цябе, і Алеську,— будзеце снапкі насіць, васількоў нарвіце. Заўтра будзе цёпленька-цёпленька, і птушачкі засьпяваюць. Засьні, Віцік, засьні, я не забаўлюся...

"Што-ж гета я сабе думаю? Ужо неяц якая пара, а я таройкаюся, тупаючы ў хаце,— спалохана падумала Текля.— Не забаўлюся, Віціку..

Узяла серп і хуценька выйшла з хаты. У гетую часіну узьлецела на плот чорная курыца / тая, што мелася быць куранятніцай, але Текля перадумала і пасадзіла іншую, белую кашлатку/ і, як пявун, засьпявала:

—Кука-реку!

—Акыш! Ліхенька на тваю галаву, яшчэ чаго не ставала...—Курыца зьлецела з плоту, схавалася пад шырокім густым лісьцем лопуху, і Текля адчула, што нешта моцна кальнула ў сэрца. Цяпер яна і сама ня ведала, з чаго пачаць і за што ўзяцца. Думала такі зажаць ячмень, а тут на табе — і рукі пацяжэлі; цела адолела нязнаная дагэтуль мляўкасьць. Палікарыха абаперлася на вароты, прыжмурыла вочы, і зь ейных вуснаў зьляцеў лёгкі скрыгат зубоў; хацелася прыдушыць тупы боль сэрца і забыцца на раптоўную слабасьць цела; хацелася ўхапіцца за адну якую-небудзь думку, забыцца пра свой гаспадарскі клопат і пра ўсё чутае. Раптам згадала вобраз нябожчыцы маці і ейныя [illegible] "Вайт о не абыйдзеш і не абʼедзеш", але і гэтая згадка мільганула стралою і зьнікла ў мешаніне густога наплыву думак. А думкі ня спыняліся: ішлі ды ішлі, нібы даючы месца новым і больш вартым увагі.

Текля чула адно, як падалі на росную мураву гумна першыя ігрушы-скарасьпелкі, чула вясёлы шчэбет птушак у сакавітым зяленіве гумна і другім нават пры[?]ры голас чорнае курыцы:

—Кука-реку!

" "

"

Буланы ішоў цяжкай ступою, і Палікар не падганяў яго. Нават ніякае ўвагі не звяртаў на язду і пра касьбу, здавалася, забыўся. Нельга сказаць, каб непамінач Лукаша пра "гэтых самых",—пра "гадзюкоў" занепакоіў чалавека. Усе Гарбы чулі і ведалі пра гэта, і яно ўжо ня было навіною. Хто-ж, як не Палікар, прынёс першую вестку людзям? На свае вочы перад гэтым бачыў як у Вішнёўцы кароў за рогі выводзілі нейкія людзі ў скуранках, а бабы покатам качаліся і валасы на сабе ірвалі. Цяжка сказаць, што спрычыніласе да абыякавасьці дагэтуль вельмі руплівага і самага гаспадарлівага ў Гарбах чалавека; ці адчуваньне страху, ці сьведамае разуменьне немінучае сьмерці бацькаўскага гнязда? А можа гэта быў той цяжкі стан раўнавагі, страшэнны стан душы, калі чалавек аднолькава прыймае і страх, і радасную надзею, і шчасьце й няшчасьце, і, стаўшы перад воблікам сьмерці, усьміхаецца і развашліва гаворыць: а ты не такая ўжо і страшная, як табе думаецца, і ня радуйся вельмі... Можа само жыцьцё ёсьць самай страшнай зьявай у сьвеце? Чалавек-жа і нараджаецца, і жыве дзеля таго толькі, каб памерці...

Палікар апынуўся ва ўладзе думак і ўспамінаў. Ён не заўважыў, як хутка даехаў і да Белага балота. І толькі тады, калі хвалі ветру данесьлі да ягоных вушэй гукі пастуховае жалейкі,— страпянуўся і ўбачыў, як высока паднялося сонца і што на торбачцы з полуднем курэла, выпаўшы з рук, ягоная, унасьледаваная ад бацькі люлька.

—co——co—

Тамара ЗАЛЕСКАЯ



# ЧУЖЫ

СЬЦЯПАН Кажура быў нядрэнны мастак. У 193... годзе ў горадзе К. ён скончыў мастацкую акадэмію. Сярод скончыўшых ён ішоў бадай што ў першых шэрагах. Ягоная дыплёмная праца заняла адно з першых месцаў і на акадэмічнай выстаўцы ўзяла на сябе агульную ўвагу.

Ад малых гадоў Сьцяпан прытрымліваўся цікавай прывычкі: ён заўсёды жыў плянамі будучага і гэных плянаў стараўся прытрымлівацца. Ня жыў, як іншыя, тым, што дзень прынясе, што само сабой прыплыве ў рукі, а стараўся пераймаць жыцьцё, чэрпаць зь яго самае найлепшае і карыснае. Яшчэ вучачыся ў гімназіі, ён упарта працаваў над сабою, удасканальваў свае мастацкія здольнасьці і няўхільна лятуцеў аб мастацкай акадэміі. Ягоныя пляны й лятуценьні зьдзейсьніліся.

Чалавекам Сьцяпан Кажура быў простым і інтэлігентным. Ён любіў прастату, захапляўся ўсім нармальным і натуральным. Сярод людзей яго можна было ўбачыць вясёлым і жыцьцярадасным, тактоўным і ветлівым. Гэткім ён быў і ў сваім асабістым жыцьці. Сьцяпан адкідаў ад сябе лішняе і занадта вычурнае. Ніколі пры сустрэчах з паважанымі людзьмі не рабіў кіслай і фальшывай усьмешкі, а шчыра глядзеў у вочы, ад сэрца ўсьміхаючыся і горача паціскаючы руку. Гэтым ён шмат каму падабаўся. А ў вачох шмат каго быў, ведама, і "нявыхаваным". Але Сьцяпан не праймаўся. Свае ўчынкі ён называў прастатой, якую ставіў вышэй за ўсё пустое, хоць напышлівае, нікчэмнае, хоць насьтырлівае. Ня любіў падлізьлівых паклонаў мала не да самай зямлі, дарэмнага выдыганьня нагамі, лішняга шматслоўя і непатрэбнай сьлюнявасьці.

Сьцяпан заўсёды быў поўны энэргіі й запалу. Ён жыў, тварыў, захапляўся, усім цікавіўся, стараўся авалодаць яшчэ недасягнутым, атрымаць яшчэ ненабытае, даваў усяму адпаведную ацэну. Гэта заўважна вылучала яго з натоўпу звычайных, шэрых людзей, замкнутых у цесныя, пагніўшыя ад даўнасьці, рамкі, ня маючых ініцыятывы і ўласнае думкі, і гэта яго рабіла чалавекам з пэўным палётам, ставіла вышэй абыякавай будзённасьці. Сьцяпану думалася, што каб ён знаходзіўся ў тым натоўпе, якога заўсёды цураўся,— тады-б ён стаўся ягонай ахвярай, задыхнуўся-б у ягонай цяжкой атмасфэры і, як мастак, загінуў...

Не, ня быў абыякавым і шэрым чалавекам Сьцяпан. Тое, што прыцягвала й захапляла,— пасьпяхова прайшоў. Наперадзе — праца й праца, вялікая ўвага, аж пакуль ён, Сьцяпан Кажура, ня стане зусім удасканаленым мастаком і будзе ведамым, для ўсіх даступным... Тымчасам Сьцяпан цьвёрда намерыўся пакінуць самотнае жыцьцё. Хацелася мець свой сямейны прытулак і, будучы атуленым ягоным цяплом, ягонай

заінтарэсаванасьцяй жыцьцём, працаваць ня толькі на карысьць сваёй сям'і, але і на карысьць... Сьцяпан не задумваўся над тым, каму ён яшчэ сваёй працай можа прынесьці карысьць. Усё-ж было ведама, што ён нядрэнны мастак і шмат чым можа спрычыніцца для народу.

Але жыцьцё ня склалася так, як Сьцяпан плянаваў. Праз два гады пасьля пабраньня памерла ад родаў жонка. Ейная сьмерць сталася для мастака вялікім няшчасьцем. Ён страціў, здавалася, непаўторнага чалавека і непаўторнага сябру ў сваім жыцьці. Мала ня цэлы год бадай нічога не маляваў. Пазьней пабраўся другі раз.

Калі Сьцяпан Кажура меў двое дзяцей — хлопчыка й дзяўчынку,— пачалася вайна. Няшчасьце ішло за няшчасьцем: не абмінала яно чалавека, які бяз творства ня мог жыць. Сьцяпан разам з сям'ёй апынуўся ў чужой краіне, далёка ад свайго любімага гораду. Давялося цяжка працаваць у нямецкім горадзе Г. Пра мастацтва ня было калі думаць. Бесчалавецкае барбарства зрабіла мастака рабом, паставіла яго ва ўмовы, у якіх можна было толькі цягнуць нікчемнае існаваньне.

Сталася новае няшчасьце. Яно падкасіла чалавека зусім. У часе бамбардыроўкі гораду, калі Сьцяпан быў на заводзе, загінулі ў лягерным бункеры жонка й дзеці...

ВЯСЁЛАЯ кампанія мужчынаў сядзела пры стале. А трохі воддаль, у другім кутку пакою, седзячы на канапцы, жвава гутарылі паміж сабою Вольга Ладуцька — гаспадыня кватэры, элегантная жанчына і Марыя Чупрык — маладая, прыгожая ейная суседка. Мужы — Тодар Ладуцька і Рыгор Чупрык — былі сярод кампаніі мужчынаў.

— Так ня люблю я гэтых мужчынаў,— гаварыла Ладуцька,—што проста не магу вам, Марыя, расказаць... Вы падумайце толькі,— яна кіўнула галавою ўбок стала,—Проста цэлымі вечарамі сядзяць над картамі. І мой Тодзік такі дурны, як і яны ўсе, гэтыя мужчыны. Гуляе і гуляе ў карты...

Марыя Чупрык, усьміхаючыся, адказвала:

—Што вы, што вы, Вольга... Вы няпраўду, памойму, кажаце... —Марыя прыжмурыла вочы — падбрытыя чорныя бровы выраўняліся ў струнку — і мяккім, грудным голасам прадаўжала: — Ёсьць, памойму, даволі мілыя і даволі сымпатычныя мужчыны... Учора я пазнаёмілася з сынам мамінай сяброўкі... Малады, прыгожы, памойму...Такі скромны, наіўны...—Марыя адкінула галаву на сьпінку канапкі.— Люблю наіўных і скромных мужчынаў. Грыша раней быў такім, але сапсаваўся... Грыша! — зрабіўшы выгляд маленькай дзяўчынкі, Марыя крыкнула да мужа.— Ты сапсаваўся, Грыша, праўда?..

Але ні Рыгор Чупрык, ні Тодар Ладуцька, ні іншыя мужчыны нічога ня чулі. Гульня была ў разгары. Раптам Тодар Ладуцька ўскочыў з месца і, узьняўшы руку з картаю ўгору, закрычаў на ўвесь голас:

—О-о! Чырва! Трапіў мне ўрэшце шанц у рукі!

Вольга, ягоная жонка, пакінула канапку і хутка падбегла да стала:

—Тодзік! — закрычала яна.—Што ты сабе думаеш?! Ты ня можаш гаварыць трошкі цішэй? Я проста больш не магу... — сказала, і вярнулася ўсхваляваная да канапкі.

—Супакойцеся, Вольга...—суцішала яе Марыя.— Вы не зьвяртайце на іх увагі... Яны дурныя, сьмешныя дзеці...

—Праўду вы кажаце,—ужо амаль спакойна падхапіла Вольга.—Проста дурныя, сьмешныя дзеці... Я даўно-б павыганяла іх з хаты, каб не адзін чалавек. Толькі праз таго чалавека я яшчэ стрымліваю сваю нянавісьць да мужчынаў. Вы ведаеце, пра каго я гавору, Марыя?

—Не, ня ведаю. А пра каго, цікава?

—Угадайце...

—Мо' пра Сьцяпана Кажуру часам?

—Так. Угадалі. Пра яго. Каб мой Тодзік быў такі, як Сьцяпан Кажура, я ніколі не крычала-б на Тодзіка. Той чалавек і ў карты гуляць умее, і меру ведае. Шкада, што сяньня чамусьці не зайшоўся. Калі ён гуляе ў карты, тады і таўкачы нашы так не гарлапаняць. Пан Кажура, гуляючы, гаворыць такім далікатным галаском—проста здаец-

це, што ня ён гаворыць, а сама карта так прыемна выгаварвае словы. Прост люба тады глядзець на такую гульню. Вы заўважылі гэта?—спыталася ў суседкі.

— А мне чамусьці Кажура не падабаецца...Памойму, ён такі паважны, хмуры...

—Не кажэце, не кажэце! — перабіла Вольга.—Гэта няпраўда.Вы прост не разумееце яго... Ці памятаеце вы, як ён вітаецца? Ён так нізка і прыгожа кланяецца, так пяшчотна цалуе руку, што проста сэрца маё трапечацца...

У дзьверы нехта пастукаў.

—Калі-ласка! —хтосьці крыкнуў з-за стала.

Увайшоў Сьцяпан Кажура. Адразу-ж, пераступіўшы парог, ён сказаў:

—Нізка кланяюся ўсім!

Амаль на пальчыках ён хутка і нячутна падыйшоў да канапкі, ледзь не да пояса схіліўся перад жанчынамі, прывітаўся, цалуючы рукі; паздароваўся з мужчынамі.

—Я не...— нешта хацеў сказаць Сьцяпан, але яго перабіла Вольга:

—Вельмі прыемна вас бачыць, пане Кажура. Сядайце, калі-ласка, шаноўны пане.Разам са сваім прыходам, пане, вы прост прыносіце радасьць у нашу хату.

—Дзякую.Шчыра дзякую за камплімент.—ізноў нізка кланяючыся, адказаў Сьцяпан...

Пасьля апошняга няшчасьця—трагічнае сьмерці жонкі й дзяцей— Сьцяпан Кажура зусім зьнячыўся. Сам ён добра заўважаў тое, што зрабіўся падобным на шэрых, нізкавокіх і абыякавых людзей...

" "
"

У парку цьвіла ліпа. Прыемны пах дрэваў і кветак поўніў паветра. Гуляючы ў прысадах парку, Сьцяпан думаў аб тым,што вось ужо скончылася вайна, а ён змушаны сланяцца па чужыне. Нічога не малюе і нават ня мае ахвоты маляваць...Успомніў сваю трагедыю... Раптам ён заўважыў жанчыну, якая, прысеўшы ля дзіцячай каляскі,штосьці майстравала. Падыйшоўшы бліжэй, убачыў,што з каляскі саскочыла колца і жанчына ніяк ня можа яго прыладзіць.

—Дазвольце вам прапанаваць маю дапамогу.—сказаў Сьцяпан.

—Калі-ласка,—прыўзьняўшыся і, нібы засаромлена зірнуўшы на Сьцяпана, адказала жанчына.

Сьцяпан хутка прыладзіў колца. Жанчына падзякавала і павезла каляску зь дзіцем у глыб парку. Сьцяпан доўга глядзеў ёй усьлед."Хлопчык ці дзяўчынка?"—мільгнула думка. І ён адразу ўспомніў, што нават не пазнаў — ці дзяўчынка была ў калясцы, ці хлопчык..

Наступнага разу, гуляючы ў парку, Сьцяпан ізноў сустрэўся з жанчынай. Прывітаўся, і доўга глядзеў ёй усьлед, пакуль яна разам з каляскай не схавалася за гушчай дрэваў. Пазьней, стоячы воддаль, бачыў,як тая самая жанчына, схіліўшыся над каляскай, спавівала дзіця. На ейным твары прачытаў і бязьмежную ўвагу, і клопат, і цяплыню,—усё тое, што ўдзялялася дзіцяці...Жанчына кранулася зь месца і скіравалася на супрацьлеглую сьцежку. Кусты схавалі яе... Сьцяпан раптам адчуў,як узбуджана забілася сэрца. На душы нібы палягчела і пасьвятлела...

У надыйшоўшую ноч Сьцяпан ня спаў. Нацягваў на рамку палатно, падрыхтоўваў фарбы... Папалудні наступнага дня быў готовы малюнак схіленай над калыскай дзіцяці маткі.

Мастак любаваўся сваім малюнкам. У ім пачынаў прабуджацца той самы Сьцяпан, які быў яшчэ на радзіме перад вайной. На месцы не сядзелася. Хацелася пайсьці да Ладуцькі, ці . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

---

З а ў в а г а р э д а к ц ы і: На гэтым перарываецца прысланае ў рэдакцыю апавяданьне "Чужы". Відаць, паважаная аўтарка ня ўклала праз памылку ў куперт апошніх балонак твору. Навязаць лучнасьць з аўтаркай нам не ўдалося. Канец, напэўна, такі: Сужонствам Ладуцькі і Чупрыка не спадабалася далейшае трыманьне Сьцяпана. Мастак, мабыць, выходзіць на вуліцу.Ён для ўсіх чужы і адзінокі сярод людзкога натоўпу.

М. Гарэцкі.

# ДІРНЫЯ СЬПЕВЫ

ЦЁМНА ў лесе глухім, як у магіле.

Неспакойна трапечуцца лісточкі на бярозах і трывожна гудуць макаўкі сасновыя. Ня рана ўжо, час апоўначы, а гэта ночка купальская...

Бліснуў агонёк каля чорнага пня. Што там? Ці грошы заклятыя на зямлю выходзяць, ці, можа, чарвячок купальскі сьвеціцца?

— Ку-га! Ку-га! Ку-га-га...— страшна раптам заскігатала нешта за болотам у гушчарніку. Ой, што там? Ці русалка на галінках бярозавых гушкаецца, ці сава лапавухая зайчыка гукае да сябе, заесьці хоча?

Вось цяжка залапатала крыльлямі нейкая птушка ў суччы і ў пушчы зьнікла. Адкуль яна ўзялася ў такую пару?

Эх, добра,— ветрык сьвежы падуў. Ківаецца ля дарогі над калюгаю лазовы куст, а там, за ім, нешта чорны выступае... Пень абгарэлы там, ці што яшчэ.

Ня рана ўжо, час апоўначы, а дарожка нябачная ўсё цягнецца без канца праз цёмны лес. Калі йшчэ тое поле Залесянскае, а страшна тут аднаму.

Карэньне па дарозе параслo, ня можна шпарка бегчы. А чорна ўсё, ані жывой душы.

— Госпадзі, памілуй! Госпадзі, памілуй! Госпадзі, памілуй! — шэпча Янка, узіраючыся ў цемень лесавую; ня хоча ён думаць аб нечысьці паўночнай, пацiху шчупае кійком дарогу перад сабою, ступае нячутна, але каб хутчэй. А валасы на ілбе мокрыя і сьцюдзёныя.

— Дай, Божачка, толькі акопы мінуць. Толькі акопы, акопы...

* * *

А тыя акопы зьнямоўшы сьпяць у чорнай цьме.

Каб ня мова людзкая, дык ніхто-б і ня ведаў, што калісьці тут слаўнае замчышча князёў Саламярэцкіх было, жыцьцё кіпела. Грымелі гарматы, курыўся дым ад пораху і лілася чалавечая кроў. А ў сьвяты вялікія хмель-віно ў чарах пеніліся, ігралі гусьлі-самагуды, пялі старэцкія ліры, стогн стаяў ад гоману людзкога і шмат чаго дзеялася, што ўжо навекі пахавана для пазьнейшых часоў.

Высока трымалі князі Саламярэцкія сьцяг зямелькі свое, сьцяг бел-чорна-чырвоны, не згіналі галовы перад цяжкаю сілай Маскоўшчыны, не хіліліся і перад хітраю прычэпкаю — Польшчаю...

А ціклі часы, трацілі сілу магутныя і нечакана ўзносіліся ўгору

няпрыкметныя, памiралi князi слаўныя, выраджаўся князёўскi род. Памёр маўклiвы сiвавусы Мсьцiслаў, i засталася на ўвесь род адна насьледнiца — дачушка яго дрыжоная, ненадзейная княжна Ганначка.

Прыгожая яна, як краска Божая, а розум — дзявоцкi. I серца мела дзявоцкае...

Молiць Бога стары поп, манах Грыгоры: "Утрымай уладу князёў маiх, прасьвятлi вочы княжны маёй на карысьць усiх радзiмiчаў..."

I гаворыць манах Грыгоры прыгожай Ганьне — княжне: "Ох, ты маё, княжна, дзiцянё, Божая служебнiца, а падданых сваiх заступнiца, слаўная ты насьледнiца слаўных князёў Саламярэцкiх, не дапускай ты да сябе панiча польскага, княжыча Уладыслава Ваябойскага, ня слухай ты салодка-атрутных прамоў спранджыстых настаўнiкаў яго, беражы пасад прадзедаўскi, i веру сваю сьвятую праваслаўную беражы..."

Слухала папа, ня гледзячы на яго, княжна маладая.

I зноў адкаву iшоў ён, стары, малiцца Богу ў цiхай царкве, пабудаванай яшчэ старым князем Лугквенем.

А княжна Ганна часьцей ды часьцей да сябе Уладыслава, княжыча Ваябойскага дапускае, часьцей ды часьцей яму у вочы маладыя пазiрае.

Ня цьвёрда стаiць пасад князёў Саламярэцкiх, у апасцы ад лацiны i вера праваслаўная. А ходзяць чуткi,— маскоўскi ўладар сваю рацъ на Лiтву Рускую паслаў пад старыя муры старога Саламярэцка.

— О, Божа наш! О, княжна мая! — стогне поп, манах Грыгоры. Няма ўжо яму на што спадзявацца.

Дарма! Усё канец мае...

Сыплецца цэгла i пыл iдзець над сьценамi замчышча, гудом-гудзiць пад кулямi маскоўскiмi Замковая Гара, заслаў дым усё поле ваеннае, равуць валы вайсковыя, iржуць конi лiтоўскiя, гудуць званы хаўтурныя, льлецца кроў...

Плачуць маткi па сынох сваiх, а дзяўчаты плачуць па любых сваiх, туга вялiкая агарнула дзяцей Саламярэцка, льлецца кроў...

А ў падземным ходзе-лазе з-пад родных муроў-скляпоў у цёмны лес нясуць княжну Ганну вусатыя, у кунтушах i з пяром на шапцы, дружыньнiкi княжыча Уладыслава. Пакiдае бацькаўскае гняздо астатняя галiнка зь вялiкага радаводнага древа Саламярэцкiх князёў.

Незабавам... Вось ужо чутны плескачы i гоман ручая сьцюдзёнага, вось i дуб векавы, а каля яго i ход-лаз падземны на зямлю выходзiць. Як самлела княжна Ганна ў замчышчы, так i цяпер няпрытомная яшчэ. Але патроху-пацiху расплюшчыла вочы дзявоцкiя, памаленьку, з нудою, усё ўцямiла. Абхапiла ручкаю белаю невялiчкай касу доўгую, чорную, што ў дарове зблыталася, прыцiснула да грудак сваiх i сьлязьмi, як каралi добрыя, буйнымi змачыла iх, шэпча сама: "Пасад мой... Уладзя, Уладзя, абаранi мяне"...

—Ге-гей! Стойце, стойце, патрывайце, ляхi!...—чутна: задыхаўшыся, бяжыць нехтаззаду. Аж гэта поп Грыгоры. Бяжыць угрунь, вочы гараць, белы сам, як сьмерць, у руцэ сьвяты крыж трымае...

— Цi... цi ня... цi ня ўнучку славутага Лугквеня, князя нашага, у стане ляхаўскiм бачу я? Цi то праўда, цi то здаецца мне, што зарана так княжна Ганна Саламярэцкая з роднага кута ў чужу-дальнюю старонку ляцiць?..

— Маўчы, манах! — прастагнала княжна.

— Ня можна маўчацi мне, што не маўчаў пад гром гармат i кульны сьвiст на маскоўскiх i польскiх палёх з князем Лугквенем i сынам яго Мсьцiславам, ня можна мне маўчаць i перад iхным дзiцёнкам...

— Куды бяжыш, княжна? Яшчэ моцны муры Саламярэцкiя, не паломаны паркан замковы, яшчэ ёсьць гарбузы i арэшкi на маскоўцаў у скляпох нашых i ня гнуцца яшчэ нашы людзi, княжна! Многа скарбаў дзядоўскiх захована ў нас, не малы шмат золата i каменьняў каштоўных у сьвятынях нашых,—адкупiмся ад Маскоўшчыны, а не пабяжым шукацi помачы ў лацiнiкаў, куды дзяды нашы ня бегалi i нам заказалi...

— Манах! Маўчы! Уладыслаў мой любы абаронiць насьледзьдзе бацькоў маiх...

— Абаронiць... Княжна, княжна! Так абаронiць, што парушацца косьцi князёў нашых у трунах i попел iх разьляцiцца. Ня хоча Польшча Русь

Літоўскую сястрой роўнай лічыць. дык ня будзе ні Літвы, ні Польшчы, а будзе магутная бяскоцная Маскоўшчына. Гора нам!

— Не бязь, княжна! Адкупіся пакуль-што ад маскоўскіх ваяводаў, а там — што Бог сьвяты дасьць. А пакінеш Саламярецк цяпер,— ня будзе ўжо, ня будзе нашага незалежнага Саламярецка...

— Не... Гей, хлопча, гукні дружыну, вядзіце коней... Ступай, Грыгоры!

Страшны стаўся поп сівы. Высака ўзьняў сьвяты крыж, падняў рукі і на калені зваліўся. Балюча паглядзеў у сьлед княжне Ганьне, і на неба зірнуў:

— Божа наш!— крыкнуў ён.— Судзі нас, судзі мяне... Канец нам. Наша княжна пакінула нас, сплутала з Польшчаю і Маскве аддала. Вунь скалычыліся ў багне валасы яе, дык няхай-жа расклычыцца іх. Няхай расплутвае, аж пакуль і мы з Масквою ды Польшчаю расплутаемся...

Задрыжэла зямля, полымя шуганула з усіх бакоў, пад грукат гарматаў і стогны байцоў шугнула ўсё аж на мілю кругом у зямлю на скровь-доньне...

" " "



Прайшло многа вякоў, і толькі акопы, старыя акопы — сьведкі старадаўшчыны—засталіся. А ў ночку таемную купальску чутны там званы глухія, жалобныя, і грукат гарматаў, і є... кі скалечаных, і сьпевы манастырскія, і дзявоцкі плач няўцешны.

Страшна тут, а яшчэ далёка Янку да поля таго Залесянскага,а вось-вось і акопы старадаўнія.

— Гру-гу-гу...— усхапіўся вецер, і захістаўся лес, завыў, застагнаў. Падгінаюцца ногі ў Янкі, і бачыць ён воддаль дарогі, каля галоўнейшага акопу, чырвонае нешта: ці маладзік усходзіць там, ці агонь гарыць, можа цяпло хто расклаў.

— І ўваскрэсьне Бог, і разьбягуцца ворагі яго... — ледзь крапаючы сухім языком, зашаптаў Янка, і цяпло згасла на вомірг. Але раптам асьвятліўся лес; зірнуў Янка — скрынка вялікая стаіць, а на ёй дзяўчына валасы чэша, ды ніяк разблытаць ня можа, а па бакох яе два чорныя сабакі на ланцугох рвуцца.

Хацеў Янка перахрысьціцца, ды загледзіўся ён на дзяўчыну — шкода яму стала яе.

Маладая, белая, прыгожая, толькі вочы хавае, а сьлёзы буйныя,як раса раньняя, па шчоках цякуць. Косы, як вужакі, абхапілі галаву і грудзі, і часам як агонь ад іх пышыць.

— Расплящі і мне, расплящі і мне... Усё, усё табе аддам, навекі шчасьліў будзеш, а сабак, слуг маіх верных, ня бойся. Ой, пашкадуй ты мяне, расплящі-ж, расплящі мне косы мае, о-о-о!...

Закалацілася серца ў Янкі, падыйшло пад горла ад жалю, і сьлёзы накруціліся.

А сабакі так і гаркочуць, так і выскаляюцца, агонь з роту пышыць а зубы, што клыкі зялевныя.

Расьперазаў Янка свой чырвоны пояс: "Няхай мацней сабак прывяжа," падумаў і кінуў княжне маладой.

Загрымела скрыня, зазьвякалі грошы ў ёй, як шалёная —"ой, балі!"— крыкнула княжна, быццам той пояс агнём пекануў яе.

— Зачапіў ты мяне, а ня вызваліў, буду я мучыцца яшчэ гетульки, — заплакала яна жалобна і злосна — Будзь-жа ты праклятым, як праклятая я!— дабавіла і зьнікла пад зямлёю са скрыняю, з сабакамі і з поясам Янкі...

Зьнямеў Янка.

А ўжо чорна наўкруг, як і раней, лес шуміць, заблішчэў хутка і прасьвіт поля Залесянскага.

" " "



Чыя ліра плакучая, чыя чутна там каля цьвінтару мураванага пад старой ліпінай дуплінастай? Што гэта за старац сьляпы сь

бельімі, як воўна белая, валасамі і мутнымі нявідушчымі вачыма, іграе там? Хто ён геты, што пяець аб княсьцьве Саламярецкім?

— То Янка Праклятьі.

Адкуль ён, хто ён,— ніхто ня ведае ў тутэйшых мясьцінах.

А калі запытаюцца ў Янкі людзі:

—Дзе-ж твая, дзед, радзіна?—

—У Бога,— сумна і паважна адкажа ён.

— А ці меў жонку, дзед, а дзеткі ці ёсьць?

— Пахаваў жонку, пагарэлі на пажары дзеткі, пагарэла дабро і хатка, і конікі, і кароўкі, і ўсё. А зямелька неўрадлівая мая...

— Які ты жалобны, дзядуля,— скажуць яму, а ён паводзіць перад сабою нявідушчымі вачыма, падтрасянець хатыль на плячох, ліру паправіць, крекне:

— Дзякуй Богу за ўсё, усё пад ім, а ён адзін бесьсьмяротна над намі,— і пад ліру сваю старэцкую запяець сумную-сумную песьню аб княжне Ганьне Саламярэцкай і аб часох Літоўскай Русі, і аб уладарсьцьве князёў Саламярэцкіх над радзімічамі.

Плача ліра, і плачуць бабулькі ўбогія, і маладухі, і прыгожыя дзяўчаткі...

„„„„„„„„„„„

В. ЛАСТОЎСКІ

# АДЗІНОКІ

Єпізод з жыцьця Ф. СКАРЫНЫ.

Пляц перад ратушам у Вільні. На мураваным падвышэньні стаіць магістрацкі ўраловец, ліцытуючы рэчы даўжнікоў. Яго абкружае гарадзкая публіка: мяшчане, мяшчанкі, купцы, духоўныя абодвых законаў, студэнты, якія вучацца ў заграчічных унівэрсытэтах, чэрнь.

Урадовец: Во гэту груду кніг, панове,
будзем прадаваці,
хто купіць ахвочы
просім агляданці!

/ Цікавыя падыходзяць да кніг, зваленых у груду на пляцы./

1. Студэнт /Разгортваючы тоўсты фаліянт, да свайго калегі/:

Старасьвецкім, роўным пісана уставам;
многа працы, добрая справа,
ды, на жаль, навейшых тут дармо шукаць ідэяў.

2. Студэнт: Усё-ж прыгожы гэты завіток са зьмеяў!
Каб ён быў у боскім стылі адраджэньня,
я-б гатоў быў даці...

3. Студэнт /сьмяючыся/ :
Скажаш чесьць свайго імэньня!...
Мала тут лаціны, — болей усе букі...
Есьць у простай мове для паспольства друкі...
Не, шукаць дарэмна тутка што жывое,
У духу гуманізму... Больш усё такое,
не для нас, асьвету знаючых замежну,
творы Алігʼеры, Гуса мысьль бунтежну...

I. Манах: Во так карае Бог рушыцеляў закону!
Яго-ж сьвятыя словы Францішк крануў рукою
ў кнігах ім самім наноўна друкаваных...

I. Мешчанін: Такіх даўней каменьнем пабівана!

2. Мешчанін: І моладзі ў навуку, рубалі гэткім руку.

2. Манах: Вось ён ідзе... Бязбожнік!

3. Мешчанін: Ён толькі навамоднік;

Бязбожнасьці няма у ім.

1. Манах : Праклятьі вы да веку, мудрачыя ў пісьме;
што анёльскай рукой накрэсьлена было!

1. Францішканец: Свае яго ня любяць, затое, бач, і губяць.

2. Францішканец: Аб што-ж у іх то ўсё пайшло?

1. Францішканец: Ён кнігі пераклаў на мову іх прыродну,
Якы-ж работу ўсю яго прызналі за нягодну.

1. Пан: Прост дзіўна: ён навукі скончыў многі
і доктарам сябе мянуе,
а сам гарнецца да паспольства
і кнігі ім друкуе?!

2. Пан: Што кнігі для мяшчан тутэйшых,
і цёмнага паспольства? Дзіўна!
Ня бачу мудрасьці я ў ім,
бо-ж гэта прост наіўна!...
Тут, дзе шляхты род з Італьскае зямлі
вядзе пачатак свой,— хоць, праўда, агрубеў
між гэтага народу,— ўсё-ж, традыцыя і кроў
павінны паказаць, што мы, ад шляхты да паноў,
к лаціне вінны павяртаць!
А гэтых, шкодных пісьмакоў паспольных
да ката даць!

Урадовец: Ацэнены на копы дзьве,
во гэты кнігі ўсе,
хто з вас, панове, болей?

Голас з тоўпы: Ня трэба іх ў народ шырыць,
а лепш бязбожныя спаліць!

Манах: Найлепш спаліць!
Разьвеяць попел зь ветрам!

2. Студэнт да калегі:
А я ўсё-ж хачу сабе купіць
адну з тых кніг, што зьмеямі
заставкі маляваны...

Мешчанін: Давайце дроў, агню!
Няхай гараць, паганы!

Францішканін: Мы пойдзем згэтуль, брат,
бо тут благая йдзе гульня!

2. Пан: Люблю прастоту нашу,
здаровага ў ёй шмат інстынкту!
Я сам ня іншы суд
даў кніжні гэтай,
якая толькі можа далей
у барбарства нас гнаць...
Нам, Крыўцам і Літве,
нашчадкам рымлянаў славетных,
к лаціне трэ'вяртаць...

Чэрнь/зносячы салому і дровы/:
— То-ж , ведама, бязбожнік!
— Яшчэ які! Каб ты умеў чытаць,

То з кнігаў гэтых, як той бунтежнік,
чарцей-бы здолеў выклікаць
сабе на ўслугі.
—І думаеш, што чорт-бы мне служыў?
—А то-ж чаму-бы не!..

Армянін: Ў даўгі улез па вушы
праз кнігі ён свае...

Мешчанін: Кідай ў яго каменьне,
бязбожніка, што губіць душы!...

Камень трапляе ў Францішка Скарыну, і ён апіраецца аб сьцяну ратушы зьлева ад таўпы. У таўпе выбухае сьмех адначасна з клубамі дыму нейдзе некім запаленай ахапкі саломы.

Скарына: Горкім пальцам шлях мой буяе,
горыч ліць ў чару жыцьцё не скупіцца,
і супакою серца ня знае...
Ох, як ўжо трудна далей так біцца!
Вечнае Праўды Духу Вячыстасьці,
ў сьветкі Цябе я корна ўзываю,
сьвотч, хоць патомным, порыў мой чысты,
шчыру ахвярнасьць клаў як для Краю!...
Ў садзе вінновым нівы ачыстай,
ў поце і зноі як я трудзіўся:
кожны расточак духам жарчыстым
грэў я, кукобіў і весяліўся
ўродзе мабытнай...
Шмат што якое
мной ўскалыхана, шмат і зярнятак,
кволых, быць можа, кінута мною:
ў шчырым імкненьні шчыра клаў датак...
Стрэў-жа ў адплату посьпік зьмяіны,
напасьць нікчемну, зайздрасьць і зраду,
стаў прад людзямі вінен бязьвінна...
Колькі балота, подласьці, яду!...
Што пражылося, трудна сьпісаці:
трудна і ўцяміць, скуль тае зносьці...
Сільі, цярпеньні, заўтра кеб ждаці
між ўсёй агідзі людакае злосьці.
Зноў-жа от жоўцю хлеб мой паліты,
дзень мой заслала чорная Марва;
крыж мой цяжкі... Сіл недастатак...
Дзе-ж Ты, я клічу, Вечная Праўда?!...

Паміж Скарынай і таўпой праходзяць доўгім радам гарадзкія кабеты, вяртаючыся з работы. Ідучы, яны пяюць складзеную Скарынам песьню:

О, Ойча наш, Уладар Нябёс!
Хай імя вечнае Тваё
Між нас сьвяціцца векавечна.

/Пад гукі песьні імгла зачыняе абраз/.

——§§§§§§§§§§§§§§——

Юрка ВІЦЬБІЧ

# Там, дзе [illegible] незабытнае Пола

Ў чарцы цёмнай і глыбокай
Плешча, пеніцца віно.
Хмелем сьветлым і халодным
Калыхаецца яно.
/Максім Багдановіч — "Вовера"/

Безьліч маляўнічых вазёраў мае цудоўнае Наддзьвіньне. Досыць толькі аднойчы пабачыць іх, каб назаўсёды пераканацца ў іхнай надзвычайнай прыгожасьці. Нельга забыць, як раве ў часе навальніцы велічнае вовера Лукамль, як адлюстроўвае ў ліпнёвыя ночы і месяц і зоры вовера Лісна, як перагукваюцца ў травеньскія вечары ў зялёных зарасьніках вакол вовера Лосьвіда салаўі, як шапоча над возерам Вымна трысьцё. Лірнікі і дудары апавядаюць, што можна пачуць, як гудуць на Вялікдзень званы гораду, затопленага вялізным возерам Няшчэрда і як сьпяваюць на Сёмуху зялёнакосыя русалкі маленькага вовера Неклач. Той, хто ведае гэтыя вазёры, адразу зразумее захапленьне пакутніка-паэта Уладзімера Хадыкі:

І цяпер мне ня верыцца ў моц гаманін, —
што ляжыць Беларусі Швайцарыя.

Безьліч маляўнічых вазёраў мае цудоўнае Наддзьвіньне, але найпрыгажэйшым зь іх будзе незабытнае Пола. Празрыстая вада ў ім нагадвае сваім блакітным колерам вочы крывічанак і ў гэтую блакіць, нібы ў люстра, дзівяцца на сябе ўзьбярэжныя гаі. А вакол, як бронзавае маніста, абымаюць яго задуменыя курганы. Тут, у перасмыках паміж вазёрамі, заўсёды адбываліся заўзятыя бойкі. І шмат што гаварыў беларускаму сэрцу старажытны помнік, які знаходзіўся на самым беразе маляўнічага вовера, каля маёнтку Сокарава. Гэта быў вялікі гранітавы крыж. На ім быў, пашкоджаны часам, надпіс славянскімі літарамі:

1569
Тут пали в поле 200 жавнир во Христу
поставил по битве по зари...

Адсюль, ад крыжу, ледзь толькі відаць працілеглы бераг вовера, зацягнуты сіняватай дымкай. І здаецца, такой-жа самай дымкай зацягнуты ад нас далёкі 1569 год.

Амаль увесь 16 век лютавалі на абшарах нашае Радзімы бязьлітасныя войны. Маскоўскія цары — Іван Трэці, Васіль Трэці, Іван Грозны імкнуцца авалодаць ёю, каб праз яе прабіцца да Бальтыцкага мора. Сінявокую Беларусь — вотчыну гордае Рагнеды — гэтыя татарскія ра-




Сокараўскі крыж.

бынічы нахабна называюць сваёй вотчынай, вотчынай сваіх продкаў. З маленькімі перапынкамі войны выбухаюць у 1500, 1508, 1513, 1516, 1518, 1534, 1536 гадох. Такія багатыя гарады, як Полацак, Магілёў, Гомель, Віцебск, Смаленск руйнуюцца па некалькі разоў. Нельга нават пералічыць колькасьць зьнішчаных за гэты час мястэчак і вёсак. Ральля зарастае лесам. Па гэтых лясох бадзяюцца працавітыя людзі, хаваючыся ад забойцаў і рабаўнікоў. У выніку войнаў, як сьветчыць тагачасная пісцовая кніга, усё, калісьці людная Наддзьвіньне, «впусте лежало» і далей мы зь яе-ж даведваемся, што:

«Михалка со всем домам, з жонкаю и з детьми з голоду вымер...Юрка двор свой покинул и сшол кормитца в стерцы и ныне двор его пуст...Два бобылишки: Лукаш и Петрок — один вымер, а други сшел»

Нарэшце у 1563 годзе на Беларусь рушыцца з 300-тысячным войскам обер-шэф апрычнікаў цар Іван Грозны, заяўляючы, што:

У Дзьвіне дно залатое, а берагі сярэбраныя.

Толькі гэтае золата і срэбра адвеку належала крывічом, а не расейцам. Пачынаюцца ўпартыя бойкі з усходнімі захопнікамі, якія канчаюцца часовай перамогай імперыялістычнай Масквы. Ад крыві пачырванелі родныя вазёры. Змаганьне было няроўным. Характэрна, што у 1566 годзе расейцы пабудавалі на нашай зямлі шэраг цьвярдыняў і сярод іх цьвярдыню Суша, у якой знаходзілася 6 тысяч стральцоў, 23 гарматы, 132 гакоўніцы, 128 доўгія рушніцы, 100 бочак пораху 14822 жалезныя ядры. Усё-ж тры гады пазьней, за пяць вёрст ад Сушы, на беразе Пола адбылася заўзятая бойка гераічнага беларускага аддзелу з расейскімі акупантамі. Яны загінулі, але ніколі ў нашым народзе ня зьнікне памяць аб іх. Вечная ім слава!

Без малага чатырыста год, да 1932 году, прастаяў сокараўскі крыж пастаўлены невядомым патрыётам над брацкай магілай 200 асілкаў-змагароў. Столькі-ж часу захоўваўся ў бліжэйшай царкве памінальны сінодзік, у якім былі іхныя слаўныя імёны. І ніхто — ні стары, ні малы — не праходзіў паўз крыж, каб не перахрысьціцца. Звычайна, ўлетку грудок зарастаў белымі рамонкамі і чырвонымі гваздзікамі, а таму зводдаль здавалася, што ляжыць на ім бел-чырвона-белы сьцяг. Звычайна сьпявалі над ім жаўрукі і салаўі, а на Дзяды прыходзілі сюды галасіць удовы-жаўнеркі, аплакваючы сваіх любых, што супакоіліся назаўсёды ў невядомых брацкіх магілах. І ў некалькіх кроках ад грудка штодзень, штоноч ціхутка шумела прыгожае незабытнае Пола.

—§—

Андрэй БАРСУОКІ

# БЕЛАВЕСКАЯ ПУШЧА



Беларускія лясы і пушчы...
Яны стаяць на старожы адвечных таямніцаў Беларусі. У іх-ных глыбінях захавалася слава вялікіх чынаў нашых продкаў, захавалася Твая слава, Беларусь. У суценях волатных дубоў на мядзьвежых шкурах адпачывалі Твае валадары. Усеведальны Крыве-Крывета варажыў ім славу, а вайдэлёты сьпявалі песьні пра няўміручасьць народу і пра ягоную ахвярнасьць свайму краю. Хуткакрылы арол трымаў дазор. А над усім — таямнічая, поўная непараўнальнай красы, Белавежа. Шмат аб чым можа яна нам сказаць.

Белавеская пушча знаходзіцца бадай у самым сэрцы Эўропы, у вярхоўях рэк Нарвы, Нараўкі, Леснай. Разьмешчана яна на нявысокай раўніне, якая ўтварае вадападзел Чорнага і Бальтыцкага мораў. Белавеская пушча — гэта астатак тых велічэзных лясоў, якія калісьці займалі ўвесь пас Вялікіх Далінаў, а на паўночным усходзе злучаліся зь непраходнай тайгой. Падзяляецца яна на тры галоўныя часткі: Пушча Белавеская, Пушча Ляцкая і Сьвіслацкая Дача. Дзьве першыя часткі былі дзяржаўныя, а Сьвіслацкая Дача — уласнасьцяй графаў Тышкевічаў. Разам велічэзны лясны абшар займае плошчу блізу 1500 кв. км.

Белавеская пушча ляжыць ва ўмеранай палосе, пад кліматычным уплывам недалёкага Бальтыцкага мора. Як бальшыня лясоў такога клімату, належыць яна да катэгорыі зьмешаных лясоў. Няма хіба нідзе такога лесу ў Эўропе, дзе-б можна было знайсьці такую разнастайнасьць расьціннага сьвету, як тут. Цікавы дасьледнік сустрэне амаль усе адмены дрэваў, якія растуць у Эўропе. Бальшыня зь іх спрадвеку мела тут сваю бацькаўшчыну, а толькі некаторыя адмены былі сюды прывезеныя і акліматызаваныя. Да галоўных мясцовых пародаў пушчы, найбольшых лікам, залічаем сасну, елку, дуб, клён, таполю, грабст /граб/, ясень, вольху, бярозу... Сваёю якасьцяй яны перавышаюць падобныя дрэвы іншых лясоў. І таму ня зьдзіўляе нас тая ўвага, якую заўсёды зьвярталі на пушчу ўсе ейныя гаспадары.

Розных гаспадароў мела старая Белавежа і пароснаму яны ўпісаліся ў баляскі ейнай гісторыі. Найбольш хіба шкоды прынесьлі ёй немцы. Заняўшы у 1915 годзе Польшчу і амаль усю Беларусь, узяліся яны зь нямецкай дакладнасьцяй эксплёатаваць занятыя землі. Белавеская пушча ў першую чаргу сталася ахвярай іхнага варварства. Праз увесь лес былі праведзеныя вузкакалейкі, з дапамогаю якіх хутчэй можна было-б вывозіць лес. Усё мыхарства было сагнанае на высяканьне. На працягу двух-трох гадоў мільлёны кубамэтраў найлепшай драўніны пайшло на бу-

даўніцтва вадаплаваў у Гамбургу, Бремене і іншых партох Нямеччыны. Але не толькі ў парты ішоў Белавескі лес. Вельмі яго была вывезена ў фабрыкі паперы, або на патрэбы хемічнага промыслу. За час гаспадараньня немцаў да 1918 году мала ня трэйцяя частка пушчы была зглумлёная. Новыя гаспадары, палякі, мала прынесьлі пацехі. Маладая дзяржава, ратуючы сваё цяжкое фінансавае і гаспадарскае палажэньне, змушаная была падпісаць з ангельскай фірмай Сэнтуры нявыгадную ўмову, на аснове якой давалася тэй фірме магчымасьць вольнага высеку лесу, што было платай за атрыманыя ад фірмы прамысловыя вырабы. Зноў паплылі мільёны кубаметраў найлепшай сыравіны, гэным разам ужо на будаўніцтва вадаплаваў у ангельскіх партох. Нашчасьце, польскі ўрад учас схамянуўся. Нявыгадная ўмова з фірмай была парваная, і лес вальней уздыхнуў.

Калі гаварыць аб гаспадарскім выкарыстоўваньні лесу, нельга ня ўзяць увагі на хемічную прамысловасьць пушчы. Сьпярша пачала яна разьвівацца пры немцах у 1916 годзе. Па ўсёй пушчы былі пабудаваныя шпігінярні /майданы/, а ў Гайнаўцы, у той час яшчэ маленькай вёсачцы, была пабудаваная вялікая хемічная фабрыка воцату, шпігінару і іншай хемічнай выпрацоўкі. Як моцна гэты промысел разьвіваўся, даказвае факт, што Гайнаўка з малой вёскі вырасла ўсьцяж двух дзясяткаў гадоў у горад з жыхарствам да 25 тысячаў.

Але ня толькі драўнінны сьвет, гаворачы аб пушчы, ёсьць вартым заўвагі. Навуковыя экспэдыцыі ў 1917 годзе выкрылі тут вялікую колькасьць карысных лекавых зёлак. Апошнія дасьледваньні, праведзеныя палякамі, паказалі, што лекавая прамысловасьць можа стацца крыніцай паважнага прыбытку дзяржавы. Ня можна абмінуць моўчкі і такога фактару прыбытку, які даюць грыбы і ягады. З году ў год перад вайной з пушчы вывозіліся тысячы тонаў гэтага прадукту ўва ўсе мясьціны Польшчы.

Найбольш, аднак, цікавым зьяўляецца жывёльны сьвет Белавескай пушчы. Тут загінуў у 18-ым стагодзьдзі астатні тур, тут жыве яшчэ апошні магікання, сваяк тура — зубар. У 1916 годзе, падчас першай сусьветнай вайны, частка зуброў была вывезена ў Нямеччыну, а частка — вынішчана. Пасьля вайны польскі ўрад дамогся звароту колькіх зуброў. Вернутыя зубры былі паселеныя на спрадвечнай радзіме. Ад гэтага часу зубры пачалі далей размнажацца. Быў адведзены для іх адмысловы абшар у 56 гектараў, дзе расьце найбольш любімая зубрамі трава зуброўка. Калі ўжо гаворыцца аб зуброх, дык варта ўспомніць адну цікавую іхную ўласьцівасьць, аб якой ніхто яшчэ амаль не ўспамінаў. Зубар мае вялікую сілу ў языку. Узімку ён можа ўвомірг зьлізаць кару з найбольш старога дуба. Апавядаюць, што аднойчы неасьцярожны лясьнік / было гэта перад першай сусьветнай вайной/ прыблізіўся да раненага зубра і хацеў яго дабіць сякерай. У перадсьмяротнай агоніі зубар так моцна лізнуў лясьнікову нагу, што разам з ботам зьлізаў усё мяса з нагі аж да касьці...

Другая сусьветная вайна была больш ласкавай, чымся першая, для зубра — гэтага валадара пушчы. Апошнія весткі з радзімы даносяць, што ў Белавескім парку захавалася 27 зуброў.

Жыве ў Белавескай пушчы і князь эўрапейскіх лясоў — рысь. Вольна разгульвае ён, пэўны ў сваёй спрыце і сілу, па гольлях каранастых дубоў ці гушчарах ельніка, не палохаючыся ніякіх перашкодаў. Бяда таму, хто стане яму насярод дарогі... Над павольна-плыгунымі ляснымі рэкамі паважны архітэктар — бабёр будуе сваё паселішча. Ніхто не парушае ягонага спакою, бо чалавеку цяжка дайсьці да тых балотаў і дрыгвы, а зьвяроў ён не баіцца ў сваіх вадзяных аблогах. Адзіны ягоны сусед — выдра — ня робіць яму шкоды. Жывуць пасуседзку. Час-ад-часу прабягаюць паўз іх прыстойны лось — і зноў ціша...

У сухіх мясьцінах пушчы, сярод бярозавых гаёў жывуць сарны і алені. Яны пераважна жвавыя і вясёлыя, але настарожаныя : заўсёды прыслухоўвавацца, каб неўспадзеўкі ня выскачыў дзе з-пад карчоў і не наскочыў на іх люты вораг — воўк... Цікавымі жыхарамі пушчы зьяўляюцца і чарапахі; іх вельмі шмат.

З птушак бярэ на сябе ўвагу чорны бусел. Наогул, птушыны сьвет

ёсьць багаты і разнастайны. Адных ястрабаў — блізу 70 пародаў.

Нічога дзіўнага, што ад найдаўнейшых часоў Белавеская пушча была лятуценьнем усіх паляўнічых Эўропы. Да апошняга часу перад 2-ой сусветнай вайной можна было тут сустрэць ня толькі вялікіх дзяржаўных мужоў, але нават каранаваныя галовы.

Экскурсія праз пушчу ўлетку зьяўляецца праўдзівай раскошай наведвальніка. Углыбіўшыся на колькісот метраў у гушчу сасновага бору, адразу губляеш арыентацыю. Агартае паўзмрок. Пушча амаль ніколі не маўчыць. Заўсёды чуецца ўгары дзіўны шепат. Прыслухаўшыся да яго, здаецца, што дрэвы расказваюць цікавыя, незразумелыя цяпер, казкі аб мінуўшчыне. Робіцца вусьцішна. Раптам штосьці зашуршыць. Падымаеш галаву ўгару і бачыш вясёлую вавёрку: яна спакойна разгрызае васеньнюю шышку — новыя яшчэ не нарасьлі. А трошкі далей дзяцел абстуквае хворую сасну, шукаючы, дзе ёй баліць. Адразу робіцца весялей. Ідзеш па компасу далей у выбраным кірунку. Праходзіш цяпер праз такі гушчар лясного маладняку, што мусіш кожную часінку адгукацца, каб не разгубіцца. Але вось даходзіць да нюху прывабны пах суніцаў. Прысьпешваеш крокі — і шпільчасты лес канчаецца... Падпімаешся трохі вышэй і апыняешся раптам у вясёлым бярозавым гайку. Сакавітае зяленіва лісьцяў, пах суніцаў заклікаюць на адпачынак. Зьбіраеш у кошык суніцы і маліны... Вось і паляна. Разьмяшчаешся на ўскраі яе. Як прыгожа вакол! Адпачываеш і задумваешся над гэтым мастацтвам, якога ніякі мастак ня здолее перадаць на палатне. Выскакваюць на палянку для ўцехі два алені. Вольна разгульваюць яны па паляне, але, пачуўшы чалавека, імгненна зьнікаюць у лясным гушчары...

... А пасьля ідзеш на вузкакалейку, каб на пляцформе вагоніка праз усю пушчу даехаць да сэрца Белавежы. Мусіш там быць, каб пабачыць ейны слаўны парк, царскі палац /зімовы замак/, прыродазнаўчы музэй. У парку пабачыш усе дрэвы, якія растуць у Эўропе, а ў музэі — усіх напханых або заспіртаваных жывёлаў.

Белавеская пушча ў найдаўнейшым часе сваёй гісторыі была бацькаўшчынай яцьвягаў. Племя гэтае было вельмі ваяўнічым. У вольны ад набегаў час займалася паляваньнем, пчалаводствам і часткова земляробствам. Найбольшая магутнасьць яцьвягаў прыпадае на пералом 12-га і 13-га стагодзьдзяў. Жылі яны ў згодзе з прусакамі і жмудзінамі. У сваіх паходах даходзілі аж пад Кракаў. Разгромленыя, аднак, польскім князем Лешкам Белым, падаліся яны назад і ўліліся ў Беларуска-Літоўскае Княства з сталіцай у Навагрудку. Па яцьвягах сяньня няма і сьледу. Назовы вёсак, як Яцьвеск, Чаремскі, даказваюць аб іхным колішнім тут існаваньні. Патомкамі слаўных яцьвягаў зьяўляюцца сяньняшнія жыхары



пушчы.

Ад часу далучэньня яцьвягаў да Вялікага Княства Белавеская пушча сталася неадрыўнай ягонай часткай. Як непраходны мур, стаяла яна на старожы Беларусі, бароначы яе ад нападаў з захаду і паўдня. На ей -ных ускраінах былі пабудаваныя вялікія ўмацаваньні Каменец Літоўскі і Берасьце Літоўскае. Вораг не адважваўся заходзіць глыбока ў лес, ве даючы, што знойдзе ў нетрах пушчы заслужаную сабе пагібель. У спакоі ны час пушча забаўляла зморaных працай вялікіх князёў. Для беларус -кіх волатаў Кейстута, Альгерда, Вітаўта пушча была ўлюбленым месцам адпачынку. Тут пад цяністымі адвечнымі дубамі насьпявалі пляны вя-лікіх паходаў, якія ўславілі нас на ўвесь сьвет.

І сяньня яшчэ, хоць моцна зьнішчаная, стаіць Белавежа, як магутны непахісны помнік нашай слаўнай мінуўшчыны. Чакае яна цярпліва таго маменту, калі ізноў у сваіх прыгожых дубровах і гаёх будуць гасьцішн праўдзівыя ейныя гаспадары.

—оо— —оо— —оо—

У.Гл.

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА У ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

Беларусы, ці Крывічы — litаstарадаўні народ, мае сваю багатую гісторыю, гісторыю зараджэньня, росквіту й заняпаду сваё дзяржаўнасьці і гісторыю свайго палітычнага й нацыянальнага адраджэньня ў пазьнейшыя часы.

Беларуская мова, як асобная, пачала складацца яшчэ ў даўныя, пакрытыя сівізной часу, эпохі. Так. ужо выразна адчуваецца беларуская арыгінальная мова ў такіх юрыдычных старадаўных помніках, як, скажам, гандлёвая ўмова 1229 году /„Смаленская Тарговая Праўда"/ паміж полацкімі й смаленскімі князямі — з аднаго боку, і немцамі — з другога, як пра гета сьветчаць досьледы Сабалеўскага — "Смоленско-Полоцкий говор".

Пра старадаўнасьць ужываньня беларускае мовы гаворыць і ведамы дыплёматычны ліст /скарга/ Рыскае рады канца 13-га стагодзьдзя, пасланы Віцебскаму князю Міхалу Канстантынавічу. Ліст гэты зьяўляецца яскравым сьветчаньнем таго, што беларуская мова карысталася ўжо за тых часоў у асьвечаных клясаў пашанай нават сярод іншых нацыянальнасьцяў, дзякуючы сваёй раньняй літаратурнасьці ва даўгі перыяд культурнага й грамадзкага разьвіцьця.

Яшчэ ў перыяд асобных гаспадарстваў-княстваў беларускі народ пачынае вылучаць з свайго асяродзьдзя дзеячоў культуры, навукі й літаратуры. Самастойнае беларускае пісьменства існавала ўжо ў адзінаццатым стагодзьдзі, а ў дванаццатым стагодзьдзі пачынаюць зьяўляцца ўжо выдатныя пісьменьнікі, як, скажам, Клімент Смаляціч у Смаленскім княсьцьве/1-ая палова 12-га стагодзьдзя/ з сваімі "Пасланьнямі", кніжнік Аўрам Смаленскі — красамоўца 2-ой паловы 12-га стагодзьдзя і пачатку 13-га стагодзьдзя зь ягонымі летапіснымі зборнікамі /1195 г./, Кірыла Тураўскі ў Тураўскім Княсьцьве /1130—1182 гг./ зь ягонымі казаньнямі, адзначанымі вялікімі паэтычнымі здольнасьцямі. На вялікі жаль, Іванам Грозным у часе Лівонскай вайны былі захопленыя багатыя сховішчы Полацкай кніжніцы разам зь летапісамі, кронікамі і розьнымі гістарычнымі дакумантамі, якія ня былі вернутыя да апошніх часоў, што не давала магчымасьці поўнасьцю аднавіць малюнак культурнага разьвіцьця і стану Беларусі тых часоў. Ня гледзячы на гэта, ведама шмат культурных і літаратурных помнікаў тэй пары. Варта назваць такі помнік 12-га стагодзьдзя, як "Жыціе Еўфрасініі Полацкай" — дачкі Георгія, малодшага сына Усяслава Брачыславіча. Афрасіньня Полацкая вядомая, як адданая працаўніца на ніве асьветы й культуры, як пашыральніца тагачаснае духоўнае асьветы праз перапісваньне й распаўсюджваньне кніжок, грошы за якія яна раздавала бедным.

Палітычнае жыцьцё Беларусі тых часоў знайшло сваё адлюстраваньне і ў ведамым творы канца 12-га стагодзьдзя "Слова аб палку Ігаравым."

Асабліва часта ўспамінаецца ў "Слове" Полацкае княства і пачыненьні да яго іншых князёў. Есьць у "Слове" мясьціны, што беспасярэдня адносяцца да гісторыі Беларусі і адлюстроўваюць падзеі на ейных абшарах, вялікія бойкі паміж князямі, крывавае змаганьне за незалежнасьць і самастойнасьць краіны:

"На Няміве снапы сьцелюць
Галавамі,
А малоцяць-жа стальнымі
Іх цапамі.
На таку жыцьцё кладзецца
Неспадзейна,
І душу ад цела веюць
Безнадзейна.
Берагі ў крыві Нямігі
Па калені,
Не дабро на іх пасеяў
Сейбіт жменяй.
А былі яны гусьценна
У процьмах вуькіх
Там засеяны касьцямі
Сыноў рускіх."

Так асуджае Сьвятаслаў у "Залатым слове" драпежніцкія набегі усходня-славянскіх князёў адзін на другога, на Полаччыну, Наваградак, Менск ды іншыя гарады Беларусі і міжвольна адзначае гераізм супраціву воінікаў слаўнага Полацкага князя Усяслава на Няміве войску кіеўскага князя Ізяслава, што напала на Полацкае княства.

Асабліва высокага ўзроўню беларуская культура дасягла ў другі перыяд гістарычнага існаваньня Беларусі — перыяд суцельнае гаспадарсьцьвеннасьці, беларускае дзяржаўнасьці, які пачаўся з сярэдзіны 13-га стагодзьдзя утварэньнем на землях Заходняй Беларусі — Наваградчыне, Слонімшчыне, Ваўкавышчыне ды Горадзеншчыне беларускага княства з начале зь Міндаўгам у Наваградку. Апошні і пачаў адгэтуль — зь беларускіх земляў — заваёўваць літоўскія землі Аукштоту і Жамойць і ператвараць іх у вялікую федэрацыйную Беларуска-Літоўскую дзяржаву з асобнымі, на першы час беларускім і літоўскім, князямі начале з першым.

Утварэньне ў сталіцы Наваградку праваслаўнай мітраполіі спрыяла ўмацаваньню пачуцьця супольнасьці рэлігійных інтарэсаў і праз гэта салідарнасьці палітычных інтарэсаў беларусаў. Усё гэта і прывяло паступова да ўтварэньня вялікае магутнае Беларускае Дзяржавы. Назоў — Вялікае Княства Літоўскае — быў толькі вонкавым, бо маленькая малакультурная Жмудзь /етнаграфічная Літва/ не магла стаць кіруючай ва ўсім унутраным жыцьці гэтае вялікае федэрацыйнае дзяржавы, дзе беларусы мелі велізарную перавагу тэрыторыяй, жыхарствам і адносна высокай культурай. Літоўцы ў той час ня мелі яшчэ свайго пісьменства і трымаліся паганскага веравызнаньня. Беларусы-ж, якія прынялі хрысьціянства і праз яго набылі пісьменства і бізантыйскую культуру, мелі выпрацаваную і ўдасканаленую літаратурную мову. Ня дзіва, што ў новай дзяржаве беларуская мова стала пануючай мовай, мовай дыпляматычных зносінаў, пісьменства, перапіскі, размоваў і, урэшце, дзяржаўнага заканадаўства /Літоўскі Статут/. Асьвечаныя і дзяржаўныя людзі, як і ўвесь беларускі народ карысталіся беларускай мовай. Трэба адзначыць, што, карыстаючыся кніжнаю моваю, нават літоўскія дзяржаўныя дзеячы бралі найболш яе вапраўдны народны элемент, бо элемент царкоўна-славянскі быў для іх болш чужы з прычыны іншага веравызнаньня.

У часы княжаньня Альгерда /1345—1377/ беларуская мова афіцыйна сьцьвярджаецца і вызнаецца за дзяржаўную ўрадавую мову. Усе дзяржаўныя акты пішуцца ў беларускай мове.

Выдатным помнікам беларускае мовы, як дзяржаўнае, выяўляецца славуты Беларускі, гэтак званы "Літоўскі Статут", пісаны ў беларускай мове тых часоў, які выдадзены ў двух рукапісных рэдакцы-

ях /1529 і 1566 г.г./ і ў адней друкаванай /1588 г./. Яшчэ старэйшым выдатным юрыдычным помнікам у беларускай мове зьяўляецца "Статут Караля Казімера" /1468 г./.

У "Літоўскім Статуце" кажны пісар абавязваецца пісаць "парускy" і "рускімі /кірылаўскімі/ літарамі". Гэта значыць пабеларуску, бо, як ведама, у тыя часы беларускія ды іншыя ўсходнія славяне паводле традыцыяў Кіеўскай дзяржавы насілі назоў рускіх, русінаў, а іхныя мовы называліся "рускімі". Не здарма і Беларуска-Літоўская Дзяржава афіцыйна, апрача назову Вялікага Княства Літоўскага, насіла яшчэ назоў Літоўска-Рускай Дзяржавы. У народзе назоў беларус, беларускі ўжываўся з даўніх часоў, а ў нямецкіх летапісах і кроніках назоў "беларусы" ўжываецца ўжо ў 14-ым стагодзьдзі.

Узмацненьне Беларуска-Літоўскае Дзяржавы і панаваньне ў ёй беларускае культуры і беларускіх элементаў /у пазьнейшай сталіцы Вільні ўжо ў 14-ым стагодзьдзі большыня жыхарства была беларуская/ робяць тое, што да дзяржавы адносна лёгка далучаюцца ўсе беларускія землі, а пры гэтым некаторыя зь іх зусім дабраахвотна, як Полацкая /1307 г./ і Віцебская, тым больш, што пагрозы зьнешніх ворагаў прымушалі да гэтага, а далучэньне было толькі зьнешне-палітычным і не адымала ў іх шырокіх правоў унутранага самаўрадаваньня. Ня дзіва, што беларуская мова пануе на ўсіх абшарах дзяржавы і ёю карыстаюцца для пісаньня дыплёматычных дакумантаў нават лівонцы ў Рызе ды іншыя. Віленскі прелат Вітэлі, адносна прычынаў паўсюднага панаваньня беларускае мовы ў дзяржаве, казаў рымскаму папу наступнае: "Літоўцы маюць уласную мову. Але дзеля таго, што русіны /чытай беларусы! —У.Г./ жывуць у пасяродку дзяржавы, усе звычайна карыстаюцца іх мовай, бо яна далікатная і больш лёгкая". Ёсьць шмат дакумантаў, што сьветчаць пра шырокі літаратурны ўжытак беларускае мовы, як літаратурнае і дзяржаўнае. Цікава будзе падаць тут адзін верш, які захаваўся у старым рукапісе "Літоўскага Статуту". Хоць ён напісаны і ня ў чыстай тагачаснай беларускай мове і мае шмат паланізмаў /пісаўся у 17-ым стагодзьдзі пасьля ўзмацненьня польскіх уплываў/, але варты ўвагі, як дакумант эпохі:

" Ян Казімір Пашкевіч рукою властною пісал: Року тысяча шестьсот двадцать перваго, августа двадцать второго дня.

Полска квітнет лаціною,
Літва квітнет русчізною,
Без той в Польше не пребудеш,
Без сей в Літве блазнем будеш;
Той лаціна езык дает,
Та без русі не вытрвает,
Ведз-же юж, русь, їж тва хвала
По всем свете юж дойврала;
Веселі-ж се ты, русіне:
Тва слава нікгды не згіне."

Скрозь тры з паловай вякі, ад паловы 14-га стагодзьдзя да канца 17-га стагодзьдзя, калі дэкрэтам 1697 г. беларуская мова была скасаваная, як дзяржаўная мова, і пісцам Вялікага Княства Літоўскага было загадана пісаць папольску, у дзяржаве панавала беларуская мова і афіцыйна прызнавалася ўсімі дзяржаўцамі за літаратурную, кніжную, дзяржаўную, урадавую мову. Фактычна да канца 18-га стагодзьдзя беларуская мова ўжывалася, як літаратурная. Гэтыя традыцыі пазьней адналяліся цэлай плеядаю беларускіх адраджэнцаў у 19-ым і 20-ым ст. ст. У народзе-ж беларуская мова заўсёды была, ёсьць і будзе ўжыванай і шанаванай мовай. Гэта — адзін з слаўных мементаў гістарычнага мінулага беларускага народу, і ім беларускі народ мае поўнае права ганарыцца.

---000------000---

А. ГРЫЦУК.

# Да пытаньня аб Крэўскай вуніі



другой палове 14-га стагодзьдзя Беларуска-Літоўскае Княства дасягнула найвялікшай сваёй магутнасьці. Князі Кейстут і Альгерд у братэрскай згодзе, адзін на Жмудзі, а другі — на Навагрудчыне, пераможна адбівалі напады ворагаў з усіх бакоў. У заваёўніцкіх паходах на ўсход Альгерд дайшоў бадай да самых муроў Масквы і, як гаворыць паданьне, зламаў, у знак перамогі, кап'ё на сьценах маскоўскіх умацаваньняў. Гэтая славутая перамога змусіла маскоўскага князя Дзімітра Іванавіча скарыцца і прасіць у Альгерда памілаваньня... Князь-жа Кейстут адважна бараніў Вялікае Княства ад нападаў з захаду.

Пасьля сьмерці Альгерда на палітычны небасхіл Вялікага Княства пачалі насоўвацца пагрозьлівыя хмары. Небясьпека наплывала з двух бакоў: з аднаго боку ёю была Маскоўшчына, якая ўжо вызвалілася ад залежнасьці, прычыненыя Альгердам, і плянавала павялічэньне сваіх межаў за кошт Беларусі, а з другога боку — яшчэ большая небясьпека, якою быў рыцарскі нямецкі ордэн мечаносцаў і крыжаносцаў, або, як іх інакш называлі, тэўтонаў. Гэтыя ордэны мелі свае аселішчы на берагох Бальтыцкага мора: крыжаносцы — у Прусіі, а мечаносцы — у Лівоніі. Падбіўшы латышоў і эстонцаў, мечаносцы заклалі там сваю апору з мэтаю нападаў на суседнюю Жмудзь, якая ўваходзіла ў склад Вялікага Княства і жыла яшчэ ў паганскацьве. Крыжаносцы-ж, запрошаныя з Вугоршчыны польскім князем Канрадам Мазавецкім для аховы ягоных паўночных межаў, пасяліліся на ніжняй Вісьле і ў кароткіх, але зацятых змаганьнях вынішчылі ўшчэнт прусакоў і, апынуўшыся над берагамі Нёмна, рыхтавалі для жмудзінаў той-жа самы лёс, які сустрэў кроўную Жмудзі Прусію.

Больш слаба ўзброеным войскам Вялікага Княства цяжка было супрацьставіцца закутым у жалеза з галавы да ног тэўтонскім рыцарам, якія мелі лепшае тэхнічнае ўзбраеньне; іхныя шэрагі няспынна папаўняліся найлепшымі воінікамі ўсяго хрысьціянскага сьвету. Пагроза яшчэ больш павялічылася, калі абодва ордэны — крыжаносцы і мечаносцы — падпісалі паміж сабой умову аб супольным змаганьні з "паганцамі".

З мэтаю падмацаваньня свайго палажэньня і больш станоўкага змаганьня з абодвума рыцарскімі ордэнамі ды Масквой, Вялікае Княства пачало шукаць сабе карыснага хаўрусьніка. Выбар выпаў на Польшчу. Апошняя таксама шукала сувязяў, бо была пад няменшай пагрозай крыжаносцаў. Умацаваўшыся на берагох Бальтыцкага мора, тэўтонскі ордэн вырас у магутную дзяржаву і ўнезалежніўся ад Польшчы. Польшча, аднак, не магла з гэтым зьмірыцца. Будучы сельскагаспадарскай краінай, яна мусіла вывозіць у заходнюю Эўропу сваю сыравіну, галоўным чынам збожжа, водным шляхам — праз Віслу ў Бальтыцкае

мора. Цяпер гэты шлях апынуўся ў варожых руках і ўнемажлівіў увесь вонкавы гандаль Польшчы.

Палітыка крыжаносцаў выявіла тыповыя імперыялістычныя мэты Нямеччыны, згодна з старой ідэяй шуканьня шчасьця на ўсходзе /Дранг нах Остэн/. Ахвяраю гэтага імперыялізму мела стацца ў першую чаргу Вялікае Княства, а за ім — Польшча. Пачалося ўпартае змаганьне Літвы і Польшчы з агрэсыўным орднам. Чым больш расла магутнасьць крыжаносцаў, тым больш пагрозьлівымі рабіліся яны для абедзьвюх дзяржаў. Гераічны Кейстут усімі сіламі бараніўся ад крыжаносцаў, якія агнём і мячом вынішчыўшы ўшчэнт прусакоў, напіралі на Жмудзь.

Вялікае Княства і Польшча дайшлі да перакананьня, што толькі ў цесным супольным хаўрусе можна знайсьці паратунак. Гэта і было самай галоўнай прычынай, якая давяла Літву і Польшчу да перамоваў з метаю паразуменьня. Важнай прычынай зьяўлялася і ўнутранае палажэньне ў Вялікім Княстве. На жаданьне Альгерда, пасьля ягонае сьмерці, вялікакняжы пасад заняў Ягайла. Жмудзіны і аўкштоты хацелі, каб за вялікага князя быў брат Альгерда Кейстут. Полацкі князь Андрэй, найстарэйшы сын Альгерда, таксама прэтэндаваў на вялікакняжы пасад. Найбольш сымпатыяў меў за сабой Кейстут, праслаўлены ўжо ў змаганьні з крыжаносцамі. На ягоным баку сталі ўсе іншыя князі Вялікага Княства. Ягайла шукаў дапамогі ў крыжаносцаў. Тыя з радасьцяй глядзелі на ўнутранае змаганьне паміж князямі і выглядалі ўжо сабе лёгкую здабычу. У змаганьні перамог Кейстут і стаў вялікім князем. Ягайла атрымаў ад Кейстута ўдзел у Крэве і Віцебску. У хуткім, аднак, часе хітры Ягайла, выкарыстаўшы змаганьні Кейстута з Псковам, заняў Вільню і Трокі. Запрасіўшы туды Кейстута з сынам Вітаўтам, падступным чынам зьнявалііў іх і пасадзіў у муры Крэўскага замку. Вітаўту пашчасьціла ўцячы з палону да крыжаносцаў, а Кейстут быў злачынна замардаваны падасланымі забойцамі. Ягайла зноў стаў вялікім князем. Палажэньне ягонае было вельмі цяжкім: апрача крыжаносцкіх нападаў, аб якіх ужо ўспаміналася, яму даводзілася змагацца яшчэ і з нападамі іншых князёў, каб застацца пры ўладзе. Польшча з свайго боку хацела адвызваліцца ад уплыву Вугоршчыны, валадары якой гаспадаравалі ў Польшчы. З гэтаю метаю паклікала на пасад маладую каралеўну, дачку Людовіка вугорскага, Ядвігу. Засталося падшукаць ёй мужа на польскага караля. Выбар выпаў на вялікага князя Ягайлу. Палякі разьлічвалі, што Ягайла будзе ім удзячны за польскую карону і прылучыць Вялікае Княства да Польшчы, гэтым самым павялічыць землі польскай дзяржавы і будзе для вяльможаў за ўсім паслухмяным. Ядвіга-ж была заручаная зь Вільгельмам — аўстрыяцкім княжычам. Апошні нават прыехаў быў у Кракаў — сталіцу Польшчы — і пабраўся зь Ядвігай. Жыў разам зь ёю, як з жонкай, у кракаўскім замку. Дайшоўшы да паразуменьня з Літвой, вялікія паны выгналі Вільгельма з Кракава і разарвалі ягоны шлюб зь Ядвігай. Было пастаноўлена, што яна выйдзе замуж за Ягайлу, а апошні прылучыць Літву да Польшчы і стане каралём абедзьвюх дзяржаў. Цяжкое палітычнае становішча Ягайлы, як зьнешняе, так і ўнутранае, а таксама вялікія амбіцыі быць за польскага караля, схілілі яго на першапачатковых перамовах з палякамі ў Ваўкавыску прыняць іхныя ўмовы, на аснове якіх Ягайла станавіўся каралём Польшчы. І гэтак дайшло да хаўрусу паміж дзьвюма дзяржавамі, наймагутнейшымі ў той час ва ўсходняй Эўропе. Хаўрус быў накіраваны ў першую чаргу супраць крыжаносцаў і мечаносцаў, а таксама супраць Масквы, якая ўсё больш магутнела.

Хаўрус быў вуніяй Вялікага Беларуска-Літоўскага княства з Польшчай, падпісанай 15 жніўня 1385 г. у Крэве.

Крэўская вунія ў сутнасьці азначала канец самастойнасьці Вялікага Княства. На падставе гэтай вуніі ўсе землі беларуска-літоўскія мелі быць далучаныя на вечныя часы да Польскай Кароны. Ягайла, выконваючы ўмовы вуніі, загадаў усім князям выдаць граматы, што яны будуць паслухмянымі і вернымі яму, ягонай каралеве і дзецям на вечныя часы і належаць да Польскага Каралеўства. Далей Ягайла забавязаўся перахрысьціць у каталіцтва Жмудзь. Князі літоўскія і украінскія / Украіна тады была часткай Вялікага Княства/, не зарыентаваўшыся ў палажэньні, выдалі патрабаваныя граматы, але хутка схамянуліся і выступілі супраць Ягайлы. Начале незадаволеных стаў стрыечны брат

Ягайлы Вітаўт, сын замардаванага Ягайлам Кейстута. Вялікі патрыёта сваёй радзімы Вітаўт выкарыстаў усе магчымасьці, каб уратаваць самастойнасьць Вялікага Княства. Упартае змаганьне давяло да таго, што Ягайла быў змушаны прызнаць Вітаўту вялікакняжы пасад, як свайму намесьніку ў Вялікім Княсьцьве. Самастойнасьць Вялікага Княства была ў асноўным уратаваная. Гэтым самым Ягайла ня выканаў пастаноў Крэўскае ўмовы і не задаволіў кракаўскіх вяльможаў. Сытуацыя склалася так, што пагражала парваньню вуніі. Да гэтага імкнуўся Вітаўт разам зь літоўскімі князямі.

Тымчасам стварылася такое палажэньне, якое падтрымала вунію. Вялікі князь Вітаўт загадаў паход супраць татараў. Палякам не хацелася, каб Вітаўт перамог татараў, бо ўважалі, што той у выніку перамогі ўзмоцніцца і адкіне ўсякія спробы аднавіць расхістаную ўжо Крэўскую згоду. Яны не паслалі Вітаўту дапамогі, і апошні атрымаў над ракой Ворскляй у 1399 годзе вялікае паражэньне. Гэтая няўдача выклікала патрэбу далейшага хаўрусу з Польшчай для больш інтэнсыўнага змаганьня на ўсходзе.

А небясьпека з захаду ўсё нарастала і нарастала. Ордэн крыжаносцаў быў ужо на вышыні сваёй магутнасьці. Умелай прапагандай яму пашчасьціла перакanаць усё заходняе рыцарства аб патрэбе арганізаваць крыжовы паход супраць "паганскай" Літвы, якая нібыта імкнулася да паганства Польшчы. Зь велічэзнымі сіламі найлепшага рыцарства захаду рушылі крыжаносцы супраць Літвы і Польшчы. У адной з найбольшых бітваў пад Грунвальдам у 1410 годзе -- адной з найбольшых бітваў таго часу -- рыцарства захаду было ўшчэнт разьбіта Вялікім Княствам у хаўрусе з Польшчай пад галоўным камандаваньнем самога Вітаўта. Бітва гэта зламала ў асноўным раз і назаўсёды магутu ордэну крыжаносцаў -- найбольшага ворага і Літвы і Польшчы. На доўгія часы была затрымана экспансыя немцаў на ўсход. Гэта перамога давяла да таго, што польскія паны і літоўскія князі зрабіліся больш уступлівымі і падпісалі паміж сабой у 1413 годзе у Гарадлі новую ўмову, якая фактычна перакрэсьліла Крэўскую вунію.

Як-жа разглядаць Крэўскую вунію у гісторыі Беларусі? Што добрае і што благое прынесла яна для Вялікага Беларуска-Літоўскага Княства? Крэўская вунія насамперш мела вялізарны ўплыў на ўсю палітыку ўсходняе Эўропы. Вялікае Княства ў хаўрусе з Польшчай было цэнтрам ва ўсіх тагачасных палітычных падзеях. Гэта вунія, аднак, прынесла Вялікаму Княству і шмат адмоўнага. Пераход Жмудзі ў каталіцтва, каталізацыя праваслаўнай часткі жыхарства Вялікага Княства, прывілеі каталікам і адсоўваньне ад урадавых становішчаў праваслаўных, палітыка каталіцкага закону езуітаў, -- усё гэта разьбіла Вялікае Княства на дзьве варожыя часткі: праваслаўную і каталіцкую. Каталіцкая частка жыхарства была ў большай, ці меншай меры ляяльнай да вуніі, прыгнечаная-ж і адсунутая ад уплываў праваслаўная шляхта пачала сымпатызаваць аднаавернай Маскве, шукаючы там дапамогі ад рэлігійнай несправядлівасьці. Еднасьць народу была падарваная. Гэта падрывала і дзяржаву. Палякам такое палажэньне было выгадным і яны ўсімі сіламі стараліся яго ўтрымаць. Рэлігійнай нэталеранцыйнасьцю яны выклікалі да сябе і зьненавіджаных езуітаў нянавісьць балдай усяго Вялікага Княства. На ўтрымаеньне хаўрусу зь Літвой Польшча затраціла так шмат сілаў, што не магла скіраваць увагі на іншыя падзеі ва ўсходняй і цэнтральнай Эўропе. Няспыннае змаганьне паміж магнатамі давяло ў рэшце рэштаў да вялікае слабасьці злучаных дзяржаваў. Нямеччына і Маскоўшчына пастараліся гэта выкарыстаць і зрабілі іх у канцы 18-га стагодзьдзя ахвярамі свайго імпэрыялізму.

----0---- ----0----

## ЗЬМЕСТ




АДРЭС РЭДАКЦЫІ: ЗАЛЬЦБУРГ, ДП ЦЭНТЭР "ЛЕГЕН".

# ПАГОНЯ

Л1ТАРАТУРНА-Г1СТАРЫЧНЫ

Ч А С А П 1 С

№ 4

Л1СТАПАД, 1946.
ЗАЛЬЦБУРГ, АЎСТРЫЯ .

ВЫДАДЗЕНА НА ПРАВОХ
РУКАПИСУ.

З прычыны адсутнасьци ў машынаписе литары "i", замяняецца яна тут знакам "и".




Як прыйдзе дзень майго збаў-
леньня,
З крывавых церняў вызваленьне, --
А веру -- прыйдзе гэтки
дзень, --
З імглы адвечнасьці паўстане
И крыжам стане на кургане
Майго жыцьця бясьсьмертны
цень.

Янка КУПАЛА.

1.

ШЛЯХ Ў ВЕЧНАСЬЦЬ .



ОМБЫ сыпалися, нибы адплатай,
на Маскву и стагнали: спалю!..
И нихто з людзей не заплакаў,
кали чалавек пакидаў зямлю.

Лепш-бы бомбы засыпали пяскамi,
чым працэсия пахавальная Масквы.
На панэли ваду дажджавую спускали
трубаў злезныя рукавы.

Яны лепей играли за мядзяныя трубы,
за бязладнае тупаценьне ног.
Найчысьцейшай сьлязою над згубай
з неба праплакаў Бог.

Не гарэли у цэрквах цихия сьвечы,
ня сплывали патокам васковых сьлёз.
Не ў маленькую вулицу -- ў вечнасьць
чорны катафалак чалавека вёз.

Разьвитальнаю хваляй плыў вецер цёплы
з Беларуси -- далёкае стараны.
Па маскоўским завулку людзи працёпкали
и ня ведали, каго пахавали яны.

--Ах, гэты дождж! Спагады ниякай!
--Пахаваньняў таких ня люблю!
И нихто з людзей не заплакаў,
кали чалавек пакинуў зямлю.

2.

НОЧ НА ПЛЯЦЫ СВАБОДЫ.



Е схавала цябе хмараў зрэб'е
и начэй трывожная имгла --
каб яшчэ вышэй узьняцца ў неба,
слава Менску друзами лягла.

Вулицами ходзяць и блукаюць
и сьвятлу ня верaць сваих воч:
непраходная и цёмная такая
распласталася над Менскам ноч.

Тут и там -- нидзе няма праходу,
вулица заваленая ўся.
На Пляцы Свабоды -- за свабоду
пасинелыя на висельнях висяць.

Над усими нашыми пляцами,
каб ня даць заняцца дню,
ходзяць зморaныя палицаи
и вартуюць цишыню.

Циха стала на Пляцы Свабоды,
циха ўсе ў руинах сьпяць.
Цени, што ня знаюць перашкодаў,
пачали сыходзицца на пляц.

З вулиц Валадарскага и з Камароўки,
и з Урыцкага, з усюль, як сны,
мастаки, рабочыя и скамарохи
папрыходзили, як з невядомай стараны.

И ў игры сьвятла, крыху нязвычнай,
выплываючы, нибы з зямли,
у сьмяртэльным танцы фантастычным
цени ожыли.

Цень:

Уланцуем, брацьця, ў нашым стыли
тых ( ён паказаў рукой
на висячых ), у яких застыли
у вачох и воля и спакой.

Палицай:

Уважаю гэта я за зраду
бацькаўшчыны, гэта -- бунт.
Вы якую радзице тут раду
и зьбираецеся ohne Grund?

Цень:

Ты ня маеш больш над нами ўлады,
паглядзи -- вунь новыя идуць.
Яны ў сэрцы нам нясуць спагаду,
разразаючы начную муць.

Циха... Хто гэта? Знаёмая фигура...
А, Купала... Вы да нас?
Надта-ж выгляд сумны и пануры,
Даминикавич, у вас.

Прамаўляйце, як и што вы?
Мы тут робим кажны год парад.
Апусьциўшы сумныя галовы,
уваходзим у зямлю назад.

Цень Янки Купалы:

Я ня ўмею гаварыць прамоваў,
пэўна-ж, ведаеце гэта й вы.
Цяжкими зрабилися мне схованы
падзямельныя Масквы.

Семсот вёрст ишоў я пехатою,
каб да Менску нашага дайсьци.
Ды пабачыў з болем я ня тое,
што хацеў пабачыць у жыцьци.

Палицай:

Weg! Зусим гэта ня гожа --
разыйшоўся дужа ты ў кляцьбе.
Хоць памёр ты, але зможам
расстралаць яшчэ цябе.

Циха стала на Пляцы Свабоды,
циха ўсе ў руинах сьпяць.
Цени, што ня знаюць перашкодаў,
сумна пакидали пляц.

3.
( працяг начы )



УЛИЦАМИ ходзяць и блукаюць
и сьвятлу ня верать сваих воч:
непраходная и цёмная такая
распласталася над Менскам ноч.

Цягнецца, як нуднае сталецьце,
краю ёй, напэўна, больш няма.
Можа доўга спали мы? Здаецца,
вечнасьць затрымалася сама.

Линии трамвайныя калеюць,
электрычны бляск ўначы пагас.
На слупох и на сьцянах расклеиў
нейкия афишы новы час.

З вулицаў пазъвезеныя друзы —
сумам вее их прабег нямы.
И ўжо нехта вапнаю замурзаў
абкусаныя вайной дамы.

И над тыми самыми пляцами
на расправу, мусиць, на ганьбу
ходзяць ўжо другия палицаи —
зорки ў их зихцяцца на илбу.

Циха стала на Пляцы Свабоды,
циха ўсе у хатах сьпяць.
Цени, што ня знаюць перашкодаў,
выплыли з начы на пляц.

Цень:

Ушануем, брацьця, ў нашым стыли
тых... ( ён паказаў рукой
на висячых ), у яких застыли
у вачох и воля и спакой.

пстым да Янки Купалы:

Прамаўляйце, як и што вы?
Мы тут ладзим кажны год парад.
Апусьциўшы сумныя галовы,
уваходзим у зямлю назад.

Цень Янки Купалы:

Тут и там — няма нидзе праходу.
Дзе падзелася сям'я уся?
На Пляцы Свабоды — за свабоду
пасинелыя на висельнях висяць.

Висельни и гордасьць палицаяў,
вецер рве шматки чужых газэт.
Тольки над усими нашыми пляцами
вяличэзьнейшы палошчацца партрэт.

Палицай:

Ах, ты контра! Знаеш ты, напэўна,—
забаронена ў нас ценям прамаўляць...

Крыкнули далёка дзесьци пеўни,
цени сумна пакидали пляц.

И над ўсими нашыми пляцами,

каб ня даць заняцца дню,
ходзяць змораныя паліцаи
и вартуюць цишыню.

---oOo---

М. Сяднёў

## Разбітае лётнішча

Калисьци сьмерць яны з сабой насили
и раздавали нам -- людзям зямли,
а сяньня задрамали у бясьсильли
паветраныя карабли.

Им ня цикава на зямли. Им трэба
нясьци на ўсе канцы жыцьцё и сьмерць...
И кажная часьцина сьниць пра неба,
и кажная часьцина хоча паляцець.

Зламанае крыло апошним ўзмахам
перамагло сябе и ўпала ў сны.
Над лётнишчам падбитым птахам
яшчэ витае дух вайны.

И думаецца мне -- калисьци раницою
прачнуся я и ўжо ня будзе их:
у неба ўзьнимуцца яны сям'ёю,
забраўшы цяжка раненых сваих.

Ды непрабудным сном яны ўжо дрэмлюць
паветраныя карабли --
глыбока ўрэзалися ў землю,
каб не падняцца болей ад зямли.

---'''---



-- --

Хведар Ільляшэвіч

# Клёны

Кожны дзень цяпер стаў гадавинай
разьвитаньняў и горких няўдач.
Я хаджу з нейкай жаласнай минай,
а ў душы накипае плач.

Ды яшчэ я умею стрымацца
и ўсьмихаюся рознай брыдзе.
Тольки-ж цяжка часами, братцы,--
адзиноты палын дадзеў.

Дзень за днём шалясьциць жаўталисьцем,
золь и морак имжыць з-за акна.
Ў родных далях -- инакш калисьци
зацьвитала мая вясна.

Залацистыя клёны ў тых далях
листапад па чупрынах б'ець.
Митульжыць у васеньних крышталях
на шляхох бурштыновая медзь...

Я хачу сягоньня быць сумным,
ня шукаю спагадливых рук.
Познай ноччу ў цяжким раздум'и
па чужых шляхох брыду.

И нихто, нихто ня бачыць,
як у сини, ў начны прасьвет,
на аконных рамах азначан
мой павешаны силуэт.

Пакуль месяц халодны искрыцца
ў стэарынавым воску шыб,
за акном чутны ўсхлипы, як быццам
плачуць клёны ў начной цишы...

Так у восени немым шале
жаўталисьцем ссыпаецца дзень
и хоць песьни нищма ўпали,
я ня зьвешу галаў нидзе.

Залажыўшы руки ў кишэни,
я пайду кантынэнты сустрэць--
пранясу праз руины и сьцени
Беларуси кляновую медзь.

# З ПАЭМЫ

УЛАДЗИМЕР=
= ДУДЗИЦКИ
xxxxxxxxxxxx

## "ЗЬВЕРДАЧНОГІ"

Ападали пялёстки маку
на далони каляных рук...
Шмат разоў чалавек аплакаў
перад сконам сваю зару;

и была яна рэдкай госьцяй
на нишчымным куце пары,
хоць малили усе да млосьци
наймудрэйшыя знахары...

Сьцигавала хаду няўдача
на пякельным жыцьця таку;
и кацилися сьлёзы плачу
на ляшчотки цяжких пакут.

Пад шчарнелаю пусткай ночы
ныли тупа суставы ног;
усьмихаўся рабинавы почат
на крутыя шляхи дарог.

А вилися яны далёка--
у нязнаны, як доля, сьвет.
Застывали глухия кроки
на калючай, як шкло, жарсьцьве.

Уплятали у песьни пушчы
балацяны спакой туги,
як нядоля на сьпинах вушчунь
зацискала вузлом тугим.

Зациокаўся, тужэў...Николи
и ни разу нидзе ня мяк...
И цяпер боль у сэрцы коле,
а прысьницца, бывае, так:

расьцьвитали пялёстки маку,
и браты на далонях рук,
каб нихто не стагнаў, ня плакаў,
падымали да зор зару...
.....................................
" " "

На скрыжаваньн -- тры крыжы.
усе ад даўнасьци сивыя.
Над ими ў сполахе дрыжыць
прамень зары... Журботны вые
вильготны подых. Ля ракі,
на камяністым плытким плёсе,

вартуе, сеўшы, сьцень ракит
сивая, згорбленая восень.
Зыбае плынь луску ляшча,
затокаў мшысты бераг мые;
и рэжа косами плюшчай
чароту выгнутыя шыи;
и плачуць мройныя кусты
калин, нячэсаныя вербы,
што неўзабаве ўбор густы —
прыпынак ценявы, дзе зьвер быў, —
аголиць руды листапад
и заяце у кут-зацишак,
або раки шумливы спад
на хвалях век их закалыша.
Хинецца, горбячы свой стан,
вятрами высмактаны блёкат.
Сьцякае з жоўтага листа
каля крыжоў бусьлины клёкат...
И шэлест гнецца у лисьцы,
пачуўшы музы гэтай гуки;
разьмяк, рашчулены, и сьцих
ад стомы мляўкае ля сука.
Над полем вораным здалёк
праз цьвиль смуги липкой аднекуль
бруицца дзён самотных клёк —
адменны пах расьлинных лекаў;
паволи сочыцца, идзе
да миражоў, дзе сьветлацени
прадуць на восенскайградзе
уток крылатых лятуценьняў...
И тольки зрэдзь яны адны,
нибы наструнены руками,
вихры — пругкия бягуны —
клубками коцяцца пад камень
и вырываюцца адтуль,
и ца крыжоў имкнуцца ближай,
кранаюць дрэва наляту
и пыл на грывы свае нижуць...
И пахне хмелива зямли,
и журавы на поўдзень з хаты
нясуць, бы тыя караблi,
на крылах клопат свой багаты;
спакой вазёрнае тугi
нясуць у край чужы и небыт;
нялёгка безьлич миль тугих
адольваць зорным шляхам неба!
Минаюць шэрыя папар
и рунь азимины из болем,
да пуху ихнага прылаў
знаёмы, родны водар поля;
минаюць гомельски блакит
и накип воблачнага цалу...
Паўдзённай сьпёки воск плаўки
плыве птушыным сьвежым сьледам.
Гавораць шэрыя чужым,

што ў нас зь вясной сябруе восень,
што па нябожчыцы мяжы -
палёў вятры цяпер галосяць...
А сьведкі даўнасьці жывой--
крыжы, бы тыя вартавыя,
стаяць маўкліва; хмар сувой
даўно цяпло над імі выеў...
.............................
" " "

Якое сьвету хараство!
На харасьцьве -- цьмяныя плямы...
Чыя-ж рука цудоўны створ
пад сонцам цурзае вуглямі?

Якія контуры на тле
сьвятла выростаюць і рысы?
Яшчэ ня ўмёр, яшчэ ня стлеў
ля сьцежак высыпаны прысак...

Жыве ён. Цепліцца апад
красы ліпнёвых дзён ля сьцежак...
Хто-ж гэта зноў сады прынад
у пень, у покат хціва рэжа?

Чые-ж віднеюцца яшчэ
і гнуцца гэтак сілуэты?
Ці не касу сваю Кашчэй
над галавой заносіць сьвету

і краем правага пляча
сьпірае збоі хмар гарбатых?
А мо' гатуе стравы чар
сваіх магутная Геката?

Ліняе сьвету хараство,
мяняе колеры і блікі.
Глядзіць вачыма зораў твор
на вобраз Януса двулікі...
.......................
" " "

Дымяцца хмары. Неба край
у нявыразным нейкім русе.
Напэўна Лысая гара
вяшчуе глум на Беларусі?

Напэўна ў нейчую душу
упіўся чорны кіпець ногця?
Кругамі хваль трывожны шум
павееў прыкрым пахам дзёгцю...

Густыя воблакі працяг
нябёс і край зары задзьмулі.
Праняты клёкатам бацян
на языку мазоль намуляў;

заплюшчыў вочы іназлом,
у пух скупы уцяўшы галаў,
упаў скамечаным вузлом
на гузякі карэньняў голых.

Рыпели тупа косьци дрэў,
а вецер липу гнуў и гушкаў.
--Скажы, дзядунька, не памрэ
ад болю скурчаная птушка?

--Ды не, унучак, аджыве,
але-ж ня добрая прыкмета...
Зирни, часами у траве
няма яго цыбатых дзетак?

--Няма, дзядунька, анидзе...
А хиба ёсьць у птушак дзеци?
--А як-жа. Мусиць у гнязьдзе
их забаўляе сьпевам вецер...

Дымяцца хмары. Неба край
у невыразным нейким русе.
Напэўна Лысая гара
вяшчуе глум на Беларуси.

" " "

На грудзе выгану рудым
акачанеў падбиты бусел.
Шчыпаюць корань лебяды
лятою зморaныя гуси.

Туга спанатрыла гусей,
и вартаўник прыжмурыў вока:
ци выган посны напасе
усих прад выраем далёким?

Ци уратуе пух густы
ад зябкай плыни цела дзичы?
А мо', як бусла, пад кусты
прыгорнуць хвали роднай Шцичы?

И мо' дарэмна ля уструг,
вазёр палескага балота
чакае -- близкая нутру --
гусей асмужаная лотаць?

И спогад точыць мозак их,
и им такое нават сьницца,
што усьмихнуцца на купи
'шчэ беларуския брусьницы;

и прыйме ветлива у стан
раднію спагадливая плойма...
Абмые Прыпяць на хвастах
ляты завильжаную пойму.

Аж тупат нейчае хады
на хвали пасьци их прымусиў.
Застаўся корань лебяды
у дзюбе шчупленькае гуси.

...............................
" " "

Галосяць роспачна вятры.
И, нема стаўшы ля дароги,
глядзиць зьняважлива на тры
сьвятыя сымбали двуноги...

Каго-ж убачыў я? Пажджы...--
згадай дагодлівая памяць,
пакуль раптоўныя дажджы
и цемра постаци ня сплямяць!

Уваги-ж вобраз гэты варт:
ў витрынах славиўся ружовых...
Але чаму ягоны твар
тупыми зморшчкамі пажован?

Мо' гэта здань? А мажа сон
на вочы скинуў вэлюм шэры?
Чаму-ж ён чорнае крысо
падняў на вузки лысы чэрап?

Кали-ж прыйшоў сюды и скуль?
Якия ў думах мае дзеи?
Пазнаў па цени на пяску
намер злачынны лихадзея...

Хавай-жа твар свой, сьцеражы...--
душа и сам ты -- у палоне:
паслухай неба як дрыжыць
ад гневу нашых Сцыпиёни...

.............................
" " "

Нябёс базырны сакатун,
здалося, хмары бичам хвошча.
Прысеў на чорную пяту
зямли зьвярэджанае пошчак;

стулиўся вузьликам тупым,
прылип -- ни слыху и ни дыху;
сьцигуе сьлед яго ступы
манок куплёнае лиха;

ачнуўся, луснуў и яшчэ
(не адпачынак-жа на пятах)
праз морак вечару шпарчэй
памчаўся сорамам праняты

туды, дзе згас ужо и шчах
спадзеў абецаны уцехи;
дзе зноў жалобная сьвяча
гарыць ля саламяных стрэхаў;

дзе людзи змораныя, сны
снуюць ружовыя карункi
пра золак раницы, вясны
на павуциньни думак струнких...

Имчыся-ж, пошчак, не маўчы!--
усьцеражы ты наша шчасьце:
скажы, што сяньня уначы
имкнецца зьвер двуноги ўкрасьци

душу з грудзей людзких; скажы
и урачы нячуты пострах:
на скрыжаваньни тры крыжы
перад лязом сякеры вострай

стаяць наўклива. Зварушы,
ускалыхни ты наваколье!
Няўжо зьвярынае душы
нашто на восьци не наколе

Няўжо абыйдзе, не кране
жывога сэрца сила гневу?
...упаў над полем и шчарнеў
у хмарах
неба зорны невад.
" " "
..............................
Апошни згас агеньчык--дагарэў.
Запахла у паветры прэлай викай.
--Якая-ж,згинь ты,цемра на двары,
ну прост' хоць вока пальцам выкаль...

И трэба-ж,выгнала якраз сюды
мяне нялёгкая да их часина.
Надвор'ем гэтаким,я чуў,заўжды
прыймаюць грэшника суки асины...

Э,думки чорныя,идзеце прэч!
Што мне да грэшника таго ци сука?
Хиба ўжо першую такую рэч
мае спрытоньваюць са сьвету руки?..

Хиба ня бачыў на сваим вяку
яшчэ мо' горшае ля ног ахвяры?
Ня я--дык иншыя паваляюць
да лазьни косьци и жывот напарыць.

А страх,абачливасьць--курыны жарт,
ня камень-жа глытаць гарачы...
Чаго,дзивак яки,разбойник варт,
кали ня верыць у сваю удачу?

А хто адважыцца--няхай кране:
маё нутро зьвярынай помстай дыша...
Шчэ-ж ня было ў жыцьци такога,не,
каб я па промысел дарэмна выйшаў;

каб я спыняўся перад чым кали,--
двуноги плюнуў и расьцёр нагою.--
Кали душу сваю крывёй абліў--
душы развагай сьмешнай не загоиш...
..............................
" " "

Па целине былых валок--
шляхи хады раскрыты насьцеж--
двуноги зьвер начы валок
на згин украдзенае шчасьце.

Згинали голаў зьбеги мар
и невыразны нейки клопат.
Вятры кацили тоўшчы хмар
па-над зьвярыным зманным тропам.

Мигнуў ля ног маланки брыж
и дождж палиўся,нибы з луба.

Герою здаўся лёгки крыж
на моцных плечах душагуба.

Гули з грымотами слупы,--
такая, знаць, удача слупа.
Адчуў двуноги боль тупы
и падазроны нейчы тупат...

Угнуўши голаў, душагуб
убок рвануўся ашалела.
--Няўжо?..Няўжо?..Перамагу
таки нязвыклы накип цела...

Перахитру ягоны нюх,
што напрастки бярэ, и збочу...
А не--сьцигуй сабе: знаю
душу и сьлед у пекла ночы.

А там--папераемся мы
з табой и силаю, и спрытам:
шпурну у твань камяк нямы--
и сьцихата, и шыта-крыта...

Ага...Ня выракся яшчэ?
Няси-ж на скрут сваю удачу!..
Няси-ж!Крывёю труп сьцячэ...
А мо' я сьмерци твар убачыў?

Хвастаў горб зьвера дождж касы,
и бег таропки дунак гнобиў;
здалося, быццам валасы
старчма на вузким стали лобе.

--Идз[illegible]зьцяк, паўзи!
Паўзи, разумник...
ближай, ближай!..
Хто-ж гэта месива грази
на кастыли крывыя нижа?

Чые-ж там скивицы жуюць
вугли чырвоныя на дроце?..
Хто-ж палыскуе гэтак муць
касой иржавою упоцем?

А там...а там!..
Сипяць вужы?
Вачэй сьмяюцца праварыны?..
Ха-ха, ха-ха!..
Крыжы...крыжы...--
зарагатаў гарляк зьвярыны.

--Вазьми-ж мяне...
Вазьми, вазьми!..
Няма ратунку и збавеньня!..
Навяз, разьятраны, грудзьми
на дзиды гострыя каменьня.
..............................




### З РАЗЬДЗЕЛУ

### „ГАМОНИЦЬ ЦАЎНЯЙ ПРАЎДЫ ЗОВ"

### КРЫЖОВЫ ШЛЯХ

Нарадзиўся Ты -- з Табою
быў Исус Хрыстос.
Змыць Цябе валвой прыбою
прагнуў бураў стос.

Дзень минаў -- разбою хвали
большали ўтрая.
У разьюшанай навале
стаў на ноги я.

Несьли разам крыж пакуты--
Ты и я з Табой,
и цягли няволю й путы
зморанай ступой.

Чорт вязаў нас ланцугами,
нашы душы трос.
Мы цярпели -- разам з нами
быў Исус Хрыстос.

А пасьля...Твой твар пахмурн...
Ты ў агни гарыш...
Разлучыли нас вихуры,
стаў цяжэйшым крыж.



Ня мину з тупой гурбою
ні адной вярсты.
Там, дзе Ты -- и я з Табою,
а дзе я -- там Ты.

Да ўваскросу ў сьвет нязнамы
дойдзе -- хто ўсё зьнёс.
Мы идзём, и разам з нами--
Сам Исус Хрыстос.

Кирхгайм, Аўстрыя,
1945.

МАЛИТВА

Як боль свой выказаць хачу я--
Твой боль з грудзей маих инкне.
Хто без Цябе мяне пачуе?
Цябе хто ўчуе безь мяне?

З Табой разлучаны, я страциў
сябе самога; ён адзин--
супольны смутак сына й Маци,
глыбокай болесьци зацин.

Да надзямнога Валадара--
у зьле разлуки--Ты ци я
малицца будзем: гушчу хмараў
мальба ня ўзбурыць ничыя.

Яна ня зрушыць засьць начную
и беспрасьветцьця ня мине.
Ён без Цябе мяне ня чуе,
Цябе ня чуе безь мяне.

Вялики цуд жыцьця, збаўленьне--
далёка ад Цябе ў глушы
адчуць Твайго благаслаўленьня
на сэрцы хрэст, цяпло ў душы;

пачаць малитвай--и ня дарам,
няхай у думках, нам, дваим,
размову з вышним Валадарам--
маим пазбаўцам и Тваим.

Малитва зрушыць засьць начную,
сустрэчы нашай днём блисьне.
Са мною Ён Цябе пачуе,
з Табой пачуе Ён мяне.

1945.

З РАЗЬДЗЕЛУ

„ЖЫВОМУ -- ЖЫЦЬ, ЗЬНИШЧЭНЬНЮ -- СЬМЕРЦЬ"

" " "

Вароты ў няведамы сьвет. У дазоры
з касою стаиць чалавечы шкилет.

Зубами ляскоча, як прагны пражора,
пытае:--„Ты йдзеш у няведамы сьвет?

„Ци маеш мандат на адвёдзины сьвету?
„Ня маеш?Дык шляху у сьвет наш няма.
„И я быў калисьци таксама паэтам,
„ды зьнишчыла фах мой Кастуся сама.

„Видаць, да Кастуси сабраўся ты ў госьци?
„Мо' ёй захапиўся, як некали я?
„Дарэмна!Шкилетам тут станеш, а косьци
„расьцягне галодная зграя зьвяр'я.

„Цяпер так, як я, ты ня трапиш у ласку,
„ня станеш на зьмену Кастуси ў дазор.
„Ня прыйдзецца нават зубами паляскаць,
„ня тольки сягаць у нябёсы да зор.

„Вяртайся назад! Кали дома и згинеш,
„дык там пахаваюць палюдзку цябе;
„там нават уславиць и Муза-багиня
„таго, хто жыцьцё прысьвяциў барацьбе.

„Увесну цябе адвитаюць дзяўчаты,
„вянки ускладуць на магилу тваю...
„А тут ня сустрэць их табе--азияты
„вакол, и шкилеты вакол -- не ўтаю.

„Высмактвали кроў з нас, выцягвали жылы,
„и годнасьць людзкую таптали, а мы
„як белыя нэгры, на белых служыли...
„Ня йдзи у сьвет гэты -- ён горай турмы."

Мо' сплю я? Не,пэўна, ня сплю. У дазоры
з касою стаиць чалавечы шкилет.
Як близкаму сябру, ён шчыра гаворыць:
--„Ня йдзи лепш, ня йдзи у няведамы сьвет!"

Кроттынген,23 липеня 1944.

## КАЗКА Й СОН

Што Азия мне и Эўропа?
Ня казка мая и ня сон.
Я еду ў Эўропу на ....
тры тыдни и гэтульки-ж дзён.

И як мне ад Азии зьехаць?
Хоць еду, а шляху -- няма.
Усих -- ци з грахом, ци бяз грэху --
мангольская косиць чума.

Капае суцьмежныя лёхи,
крывавиць зьнишчэньня зару.
У канцлягеры ў Азии здохну,
бяз хлеба ў Эўропе памру.

Таму й пасадзиў я на ....
и лёс недарэчны, и кон.
Вось Азия, вось и Эўропа--
и казка мая и мой сон.

7 жниўня 1944.

## СТАЎСЯ ЎСЮДЫ ГОСЬЦЕМ ВЫПАДКОВЫМ

Стаўся ўсюды госьцем выпадковым.
Дзе ня ступиш -- ля чужых варот.
На дарозе ўбачыў я падкову,
а ляжыць яна наадварот.

У Эўропу з Азии сабраўся,
не даехаў -- выгнали назад.
Пэўна, сьпераду яшчэ бяда ўся,
бо падкова -- перадам у зад.

Што мяне спаткае -- невядома.
Непамысныя вакол сьляды.
Ци назад, ци ўперад -- ты ня дома.
Словам -- ни туды и ни сюды.

Либава.

......

Тры вадаплавы адплыли
у далеч, далеч морскай гладзи.
А я застаўся на зямли.
Паплыць хто здолеў? Хто? Вы, б.....!

И ўдзень, и ўноч -- пры ўсим, пры ўсих --
вы грэшным целам гандлявали.
Народ, радзиму и сваих
за ... нямецки прадавали.

Цяпер-жа вам -- выгоды ўсе.
Цяпер -- и гонар вам, и слава.
Вы ўсё займели. Пакрысе
вы дапаўзьли й да вадаплава.

Куды-ж, куды ўсе паплыли?
У цэнтр культуры, у Эўропу?
. . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . !

Дзиўлюся -- можна было-б вам
застацца тут.Миж ляжак голых
„хрысьциць" умее вас „Иван"
ня тольки немца, а й мангола.

Шкада -- падонкаў ня глыне
прадоньне прагнай морскай сини...
А ты, дзивак, плыви у сьне,
чакай вяроўки на асине.

Эстония.

## УЖО ТРЫ ДНИ...

Ужо тры дни, ужо тры дни
ня меў скарынки хлеба ў роце.
Ня кормяць вершы больш ани,
няма й граша ў папернай псоце.

Дзивак паэта, ну й дзивак,
хацеў насыцицца ён вершам!
Писаў, писаў, цяпер -- жабрак,
сярод галодных -- самы першы.

Чаму, навошта, для каго
глумиў паперу, чэрняй мазаў?
Сам ни ў ваду и ни ў агонь,
ни ў муляры, ни ў вадалазы.

Няўжо таки жыцьця закон,
о Муза, срогая багиня :
Спрытнейшы -- хай бяздарны ён --
жыве, менш спрытны -- здольны-- гине.

16 жниўня 1944.

" "
"

Расцалаваў я алавик,
як той паэта -- сакратаршу.
Хай я галодны -- ён прывык
писаць... А кишки граюць марша.

Нясьмела суну за парог,
а ў думках:--Мо', и не прагоняць?
--Какраз спекли мы вам пирог!--
ламана кажа мне эстонец.

--Идите прочь!Мои сыны
на фронте б'ются, вы... вы что же?..
...О, дзе-ж вы, дзе вы,тыя дни,
кали я йшоў на стан варожы?

У лятуценьнях я ишоў
у бой за вольнасьць, за айчыну.
На яве йду...За галышоў?
Мо' за нямоту? Не! Лепш згину

у чыстым поли пад кустом
бяз лусты хлеба, без табаки.
Абмые неба хай дажджом
и пахаваюць хай... сабаки.

18 жниўня 1944.

" "
"

Лясы. Узгорки. Паплавы.
Блакит нябёсаў. Синь вазёраў...
Далёка вы, далёка вы,
радзимы близкия прасторы!

А дни сярод палёў чужых
сыплюць пасевы залатыя.
Пайдзи, прыслухайся да их:
шумяць пасевы, ды ня тыя.

Шумяць. У даль палёў зирни:
яшчэ далей -- пали радзимы.
Плывуць крывёй над ими дни
и плыць сягаюць над чужыми.

Зьнишчэньне там, дзе ихны сьлед.
Сваим, чужым -- адно. Дзе-ж дзецца?
Куды ни глянь -- вялики сьвет,
а чалавек ня мае месца.

6 верасьня 1944.

" "
"

Сьмерць цэлила ў грудзи кап'ём
и людзи ў магилу таптали...
Дабрыдзень, збавеньне маё,
дабрыдзень, прыветливы Тальлин!

Я йшоў у зьнямозе и бег
далей ад крыви, ад змаганьня.
--Ци варта табе ў барацьбе
имя чалавечае ганьбиць?--

пытаў я ў кагосьци. Нидзе
ня чуў у вадказ я ничога.
И як чалавек, да людзей
прыйшоў папрасиць дапамоги.

А сэрцы людзей, бы куп'ё,
мне мох на душу пластавали...
Дабрыдзень, збавеньне маё,
дабрыдзень, прыветливы Тальлин!

Ад пекла хачу супачыць,
да раю -- дарога цяжкая.
Дай, Божа, спакой! Уначы
хай белая здань ня блукае!

Хай чорнаю хмараю ўдзень
пагибель мяне ня трывожа.
Ратуй ад нядобрых людзей,
вялики, магутны мой Божа!

Успомниў имя я Тваё --
и сьмерци пагрозаў ня стала.
Дабрыдзень, збавеньне маё,
дабрыдзень, прыветливы Тальлин!

Тальлин (Рэваль).

" "
"

...у дзявочыя вочы, як зоры,
мне цяпер, як глядзеў, не глядзець.
М. Сяднёў.

Да жыцьця ад пагибели крочу,
а ратунку ня бачу нидзе.
Мне на вас, непаўторныя вочы,
як глядзеў я раней,-- не глядзець.

Давядзецца мне долу звалицца,
патрабуе пагибели лёс.
Будуць гэтыя вочы журыцца
и николи ня выплачуць сьлёз.

Хай яны не гаворaць аб гэтым,--
уяўляю такими я их.
Каб ня быў я у сэрцы паэтам,
дык сьпяваў-бы цяпер аб других.

Вочы шчырыя, вочы бяз жалю
я журботными змог уяўляць.
Мне яны ўсю душу ўсхвалявали--
так нихто 'шчэ ня ўмеў хвалявацъ.

И цяпер им я смутак прарочу,
не даю им на радасьць надзей;--
мне на вас, непаўторныя вочы,
як глядзеў я раней,-- не глядзець.

Санкт Пёльтэн, Аўстрыя,
8 красавика 1945.

З РАЗЬДЗЕЛУ

"ДА НАШАЙ ЯВЫ БЕРАГОЎ".

УЗЬНЯЎСЯ СОКАЛ У БЛАКИТ .

Узьняўся сокал у блакит,
здалеўшы ўзьлёту шлях цярнисты.
А дзень шматфарбны, прамянисты
са скарбаў вышних тчэ свой мит
и расьсьцилае аксамит,
никим ня сплямлены и чысты...
Узьняўся сокал у блакит,
здалеўшы ўзьлёту шлях цярнисты.

Застою -- цемень, хмуры дол,
имкненьню -- высь, харомы Фэба.
Наймизарнейшая амэба --
и тая шле пратэст вакол:
хто птаху даў на ўзьлёт дазвол?
Адказ грымиць з вышыняў неба:
бяскрылым -- низ, пахмуры дол,
крылатым -- высь, харомы Фэба.

Трусьливым -- гнибель. Дужным -- лёт,
перад никчэмствам -- непакора.
А зла и зайдрасьци дакоры --
кусьливай жоўци марны плод;
николи им з гнилых балот
ня ўзьняцца ў сьвет нязгасных зораў,
у сьвет, дзе думкам праўдным -- лёт,
дзе дух имкненьня -- непакора.

1945.

--"--

Юрка Віцьбіч

# Як сьцелемеся золата найлепшае

~ Урывак з аповесьці ~



НАЗАЎТРА пачали разьбирацъ касьцёл Марыи Магдалены. Праз адчыненыя назаўсёды дзьверы выносили вонки жырандоли, пратэсы, статуи, абразы. Скинули са шпилёў прамянистыя крыжы, спавитыя мэталёвыми лилиями и дзидами, скинули са званицаў милагучныя званы, аздобленыя визарункамі анёлаў и сьвятых. Потым зьняли з даху зялеза и пачали разьбирацъ скляпеньне.

И дзивиў спакойны твар ксяндза Яранима Вайноўскага, кали штодня па некальки разоў прыходзиў ён да касьцёлу. Хацелася зразумець -- аб чым думае ў гэтыя моманты дзед у сутане? Ци ён, як манахи сярэднявечных ордэнаў, адчувае слодыч у валасяницы и вярыгах? Ци ён, як паранены ў заўзятай бойцы, першы раз не адчувае раны, а потым звалицца ад вялікай страты крыви?

И нихто ў Грайронку не адчуваў так балюча зьнишчэньне минулага, як Стась. За апошни час у яго пасивели скрони и сям-там на твар лягла павуциньне зморшчкаў. Ён амаль ня выходзиў на вулицу и шмат чытаў, шукаючы ў книгах адказу на тыя пытаньни, што хвалявали яго. И кали ў свае гимназийныя гады ён хаваў па закутках ксяндзоўскае хаты забароненыя ў Расейскай импэрыи книги Маркса и Энгельса, дык цяпер на яго стале ляжали Эвангельле и Библия -- але нихто ня бачыў, каб ён малиўся. Стасю часам здавалася, што пражыў ён ня дваццаць пяць гадоў, а поўнае пакутных сумненьняў стагодзьдзе. И аднойчы раницай, пасьля звычайнай для сябе бяссоннай ночы, ён, падышоўшы да стала, пачаў писаць:

„Лист ад самазабойцы да сэрцам чулых.

Дваранин па паходжаньню и интэлигент па становишчу, я нарадзиўся ўчора, мадзею сёньня и ня бачу заўтра. Ва мне самим змагаюцца два балючыя пачатки и адзиная роўнадзейная линия, адзины лёгичны выник гэтых двух пачаткаў -- самазабойства. Цялесную гангрэну лячыли распаленым зялезам, душэўную трэба лячыць браўнингам. Праз некальки хвилинаў я буду трупам и, пакуль б'ецца сэрца и асацыююцца думки, трэба ў апошни раз азирнуцца вакол. Азирнуцца, каб згодна з мудрай радай Питагора, не пакинуць пасьля сябе пылу.

Никога близкага ў мяне ня было, акрамя аднэй дзяўчыны, якую забиў камандзир паўстанцкага аддзелу Галайда. Я адпомсьциў Галайдзе и забиў яго. Забиў не таму, што ён вораг са-

вецкай улады, а вылучна таму, што ён забіў маю каханую. Да забойства Галайды я прыйшоў праз забойства свайго бацькі, апырскаўшы ягонаю крывёю фотакартку маёй маці, вобраз якой тады ўбачыў упяршыню. Але ня гэтае штурхае мяне на самазабойства.

Вобраз Бостраброамскай Багамаці, пад якім мяне дзіцянём знайшоў ксёндз Вайноўскі і ў выглядзе якой я ўяўляў сабе маці, валяецца на бруку. Арганы, якія калісьці нараджалі ў касьцёле нябесныя мэлёдыі Баха і Бэтховэна, цяпер заскуголяць убогія гімны. Званы з візарункамі Матэр Долёроза, часам поўныя радасьці па душах жывых, а часам поўныя смутку па душах памёрлых разьбіты ўшчэнт. Засьценкі панцырнай шляхты, дзе жылі шчырыя патрыёты нашае Беларусі, зьнішчаны.

„Як сацьмела золата найлепшае. Каменьне
сьвятыні раскідана па ўсіх раздарожжах."

Так плакаў калісьці натхнёны Ерамія над руінамі Ерусаліму, так плачу сёньня я над руінамі ўчарашняга. Была прыгожая раніца, быў сонечны палудзень і прышоў хмуры Гётэр - дэмэрунг.

„Твой попел
грукоча мне ў сэрца,
Кляас."

Але-ж я не агністы юнак Уленшпігель, а патрыёты часоў заняпаду, і над зьняважанай Фляндрыяй маёй навісла ноч. Згублены компас, і хмары зацягваюць зоры. Жахліва і холадна.

Калі-б у мяне цяпер была граната, я-б шпурнуў яе ў тых, што разьбіраюць касьцёл Марыі Магдалены. Боль! Які вялікі боль! Праз мамэнт я пачну ўжо халадзець, і лепш аднойчы забіць сябе, чым усё жыцьцё пакутваць ад бяссільнай сваёй нянавісьці.

Станіслаў Галькевіч."

Стась устаў. Спакойна выцягнуў з кішэні браўнінг. Перавёў забясьпечнік з „сюр" на „фё". Зірнуў у вакно. Ад касьцёлу чамусьці беглі прэч тыя, што разьбіралі яго. У некальк дзесятках крокаў ад вакна падрэзваў акацыі пан Яраним Вайноўскі. Бліжэй, пад самым вакном, сядзела на лаўцы, чытаючы кнігу, ксяндзова эканомка панна Малгоржата. Адыйшоў ад стала на сярэдзіну пакою і для стойкасьці раставіў ногі і раптам хутка абедруч паднёс браўнінг да скроні і націснуў гашэтку.

Самотны стрэл зьліўся з вялізарным гулам за сьценамі хаты. Рухнула скляпеньне касьцёлу. Высока да неба паднялася белая хмара, засланіўшы потым сабою ўвесь касьцёл.

Панна Малгоржата пачула стрэл і рынулася бегам у хату. Убегшы ў пакой, яна сьпярша спынілася, а пасьля, схіліўшыся на калені каля Стася, на твары якога застыла нейкае дзіўнае неўразуменьне, загаласіла:

--Ой, Стась! Маці Божая! Ой, мой даражэнькі Стасік!

А ксёндз не пачуў стрэлу. Некальк хвілінаў ён стаяў нярухома, углядаючыся ў белую хмару, нібы нічога не ра-

зумеючы. Потым грымаса перакрывила твар ксяндза, и ён, з дзиўнай для ягоных гадоў хуткасьцю, пабег па вулицы ад касьцёлу. Ужо далёка за горадам, упаўшы ад стомы на пагорак и кидаючыся па зямли ад вялизарнага болю, дзед разь - дзираў на сабе ў шкумацьцё сутану и крычаў адзинае:

--Ай-яй-яй-яй!.. Ай-яй-яй-яй!





МИКОЛА ДВАРЭЦКИ

# ЧУЛЛОНЕ ПОЛОТЦ

/Урывак з аповесьци "ГОЛАС КРЫВИ"/



[Н]аблизу никога яшчэ ня было, и родныя, вяликия, як вокам скинуць, удаўжки и ўшырки Пяшчанки выдалися Паликару гэтым разам нейкими маўкливыми и таямничыми. И каб яшчэ ня гэтыя ўпраўныя жаваранки, каб ня ихныя песьни, што сачылися на буйныя росы начы з маўкливага и глыбокадумнага прастору надзем'я и мижвольна пераймалися чулым слыхам, каб ня пяшчотныя гуки жалейки, што абудзили ад змрочных думак, каб ня жоўта-блискучыя купалы царквы, што велична ўздымалися над Гарбами и видаць были зь Пяшчанак, дык Паликар Ярашэвич, видаць, няхутка-б вылузаўся з пачуваньня вусьцишнае адзиноты и, пэўна-ж, доўга-б яшчэ быў пад уладай сьвежага, бачанага ў Вишнёўцы разбою и розруху сялянскае насалоды и супакою...

Паликар выпраг каня, прывязаў повадам вобруци да била драбинак и палажыў перад им ахапак сьвежае канюшыны; вузей прыплюшчыў павеки вачэй и нехаця, холадна ўсьмихнуўся:

—Еж, косю, пакуль есца...еж...Хто ведае, каго будзеш вазиць ты заўтра? Хто ведае...Эт, што будзе миру, тое и бабинаму сыну,- падумаў Паликар, згадаўшы ци мала разоў чутую народную прымаўку.—А ну-ж ды и ўсё перамелецца, усё минецца...А не—хай идзе, як идзецца, кали ўжо гэтак суджана. Ён узьняў галаву и пабачыў, што густое воблака туману, якое висела над паплавами и засланяла тупы кут Грабоўскае пушчы, моцна парадзела и гублялася, прастромленае косыми праменьнями сонца, у люстраной глыбини блакиту. Здалёку пушча выглядала, як величэзная чорная пляма, якая от-от, здавалася, разгайдаецца, разбракне и папаўзе па зямли, чэрнячы ўсё жывое и няжывое; папаўзе на Гарбы, прыцисьне да зямли саламяныя стрэхи будынкаў, завалачэ чэрняю сонца, и нихто не пачуе, як недзе далёка, на поли, вязнучы ў глейким наплыве страшэннага мору, будзе прасиць ратунку адзин-аднюткi Паликар Ярашэвич...Але гэта была тольки няма-ведама чым навеяная ўява чалавека, у чыстую, нясплямленую душу якога ўкрадалися прывиды невядомага будучага. А мо' зусим падсьведама ўзмила ягоная памяць сьлед дзедавае казки пра вятры сьмерци, якия выходзили з гэтае пушчы ў далёкай даўнасьци? Мо' и гэта. Паликар никому пра тое не гаварыў...Аднак и гэтая ўява адхлынула: тая самая пушча стаяла ўжо перад ягоными вачыма, як нешта магутнае, вечнае, як нешта такое, чаго ня ўправяцца николи зламаць и расьцерци никия навалы, ниякия вятры сьмерци. И яна, и роўнядзь палёў паддарадквали ягоную ўвагу сваёй силе—силе зямли, у якую и сам Паликар, як гаварыў ён, глыбока ўрос каранями.

Ад самае сьценки да паплавоў—гоняў на пятнаццаць—ляжала палоса буйнае, зблытанае вятрами кучаравае канюшыны; паабапал,

у ейную меру,расла гэтакая и на суседзким поли.Крыху далей,у разьвилку двух сьценак,недалёка ад лесу,--жаўцели,прыгинаючы буйныя вусатыя каласы,высокия --па грудзи--ячмяни;а за ими, усьцяж гасьцинца,и нижэй,дзе клин лесу стыкаўся зь ялавинай и замыкаў балота,перакачвалася шырокими хвалями яшчэ зелянкаватае жыта.И цяпер,менавита сяньня,нагадвала яно Паликару бачанае им адзины раз на вяку далёкае,чужое мора...

Доўга и нибы ўпяршыню,седзячы на биле калёсаў и ня выпускаючы люльки з зубоў,углядаўся гэты моцны ўроджаны гаспадар у дагледжаныя руками чалавека сакавитыя палетки дабра;видаць,шукаў заспакаеньня душы,а можа и адказу на збой неразгаданых,цикавых и,дарэчы,няпрыемных пытаньняў?И тольки ледзьве пачутыя словы,якия выйшли зь ягоных вуснаў,кали ён вымаў з кишэни крэсива,каб высекчы вагню да люльки,словы "дай-жа Божа",сказали, што чалавек шукае и просиць збавеньня,што душа ягоная прачувае нешта нядобрае,благое...Разумеючы ўсё гэта,як разумеючы и няўмольную хаду зьнишчэньня,хацелася падыйсьци да Паликара Ярашэвича,узяць у руки каляныя яго далони и сказаць,паказваючы на падуладныя чалавеку пали:"Ня журыся,Паликар Ярашэвич! Чуеш,як моцна пахне зямля?Пэўна што чуеш...Хто-ж,як ня ты, араў и маеш далей араць свае Пяшчанки?Тольки ты,Паликару!У твае,а ня чые иншыя,руки аддадзены яны бацьками.Хто-ж,як ня ты,паливаў гарачым потам чорную ральлю,каб так высока ўзьнялися пад сонцам,напоеныя им,тваим потам,жыцьцядайныя травы зямли?Тольки ты,Паликару!Можа-б яно и гэтыя жаваранки,што узьлятаюць,як зглядзець,у блакит,ци,не раўнуючы,як каменьчыки, прыпадаюць да твае канюшыны,ня цешыли сэрца и не абуджали прастору,каб ня гэты во плён чалавека-валадара?Ци ня праўда, скажы,Паликару?А ўглядзься адно ў гэтыя васильки синявокия, што весела ўсьмихаюцца ў цениве жыта и сарамлива стуляюць кволыя пялёстки пад гарачыми праменьнями сонца ўпоўдзень... Видаць,и яны-б не расьли,ня ўсьмихалися,кали-б ня гэтае во сьпелива--золата каласоў ячменных,каб ня пахла хлебам и мёдам угноеная тваими руками зямля Пяшчанак?Праўда?..Усё праўда,Паликару!И яки шчасьливы той чалавек,якому доля наканавала таптаць бацькавы сьцежки-дарожки...якога не адарвала яна ад зямли и ня кинула ў вир нафарбаванага,блуднага жыцьця...якога не растаптала ўчарашняя навальница...Але-ж ты,бачу я,думаеш пра заўтрашняе?Праўда,пра заўтрашняе?Ня журыся,Паликару Ярашэвич! Ня журыся!Заўтрашняе--заўтрашним:не ўцячэ и бяз нас не абыйдзецца...каб тольки мы сами ад яго,ад заўтрашняга,не ўцякали... Чуеш,як моцна пахне зямля?".Але навошта было гаварыць?Хиба сам Паликар ня бачыў и ня ведаў усяго гэтага?Хиба и ён ня мог-бы сказаць такога иншаму ды расчулиць и без таго расчуленую днями душу?У такую часину чалавек мусиць быць сам-на-сам са сваими думками и перажываньнями.И кали ён,зирнуўшы на сонца, адчапиў мянташку и пачаў мяньциць касу,видаць было,што месца дакучливых думак заступиў гаспадарски клопат...

Гасьцинец курэў густым пылам.Можа-б яго и не заўважыў Паликар,каб не заняў уваги нязвыклы шум самаходаў,якия шпарка имчалися з-пад пушчы и,перасякаючы сьценкаю клин Пяшчанак,скироўвалися ў выган Гарбоў."Ци ня тыя,часам,што ў Вишнёўцы гаспадарыли?"--мильганула думка,и Паликар адчуў,як нешта халоднае разьлилося ў ягоных грудзях и моцна кальнула ў сэрца."Яны! Вось так и жыве чалавек...жыве и ня ведае,што яго чакае заўтра...Ня ведае и ня знае.Можа и сьмерць,и можа яна ўжо зусим блиска?"--изноў вярнулися и апанавали Паликара пердыя думки...

~~~
~~~




Ісыплецца, сыплецца мяккая пацяруха зь неба... И, здаецца,-- ня неба над галавою, а -- неабсяжны ток. Ходзиць [illegible]им гаспадар рупливы -- вецер, варушыць нязграбныя копы -- хмары, глытае трушанку ихную ў жоран сьой, круциць, варушыць у жорне и меле, и,папярхнуўшыся, сыпле -- ня зерне -- муку далоў...

Мука́ -- буйная и нязвычайная. Кажны маленьки драбочак ейны -- крышталь; пакуль даляциць да долу -- мароз-валадар у шаль, у пушок прыбярэць яго. А кольки таких драбочкаў? -- пэўна, кропляў у моры вады ня менш и ня больш...

Сыплецца... сыплецца... сыплецца...

Белы сьнег.

Па́дае, па́дае!.. Мкнецца долу; на хаты, на дрэвы па́дае,на сьнежную бель. Бель -- на бель...

Хаты -- апошни прыпынак и месца, дзе быў спачын, засталися ззаду. Наперадзе -- вялики гасьцинец,-- шыроки шлях -- стогадовыя бярозы па бакох. Дароги -- ни сьледу, ни знаку няма. Як бачна -- кольки дзён не праяжджаў тут чалавек и няступала ягоная нага. Тольки бярозы -- задумныя мрои -- знаўцаць шлях.

Цяжка рухацца гэтым шляхам, исьци наперад. Цьвёрды тор засыпаны глыбоким сьнегам. Ноги западаюць у глыб, топнуць у ёй. Нельга ступаць. Здаецца, не наперад рухаешся, а назад.

Цяжка, але трэба исьци.

Ужо чацьвёрты дзень знаходзицца ў цяжкой дарозе Алесь. Чацьвёрты дзень -- дарога, чацьвёрты дзень -- пехатой.

Тольки ўначы -- адпачынак у жытле таким-сяким, што пры дарозе...

Алесю пашчасьцила вырвацца з чужацких мясьцинаў. Цяпер-- шлях да радзимы.

И цяжки, нялёгки шлях. Чацьвёрты дзень усьцяж -- сьнег и сьнег. Здаецца, неба сыпле яго з усих засекаў, а ма́е их гэтульки, што и ня зьлічыш, и кажная жменя з кажнага засеку-- кропля ў моры...

Замоўкне, адчуўшы стому, вецер -- и кружацца ў лёгкай сугладнасьци сьняжынки, павольна и мякка кранаюцца да зямнога саяну. Вылляціць, адпачыўшы, зь недалёкае лагчыны вецер изноў -- замитусяцца, заскачуць сьняжынки, як и раней, заказычуць твар падарожника, закруцяцца ў паземцы над долам. Замахаюць галинками бярозы, страсуць цяжар, а сьнег засыпае их изноў.

И ўсё сыплецца и сыплецца...

А йсьци нялёгка. Хацелася-б легчы ў пуховую пасьцелю, адпачыць. Няшмат -- адну тольки часинку. Хай сьпявае тады свае дыфирамбы вецер. Кали супачыне трохи сэрца, вальней удыхнуць грудзи паветра, можна будзе прыслухацца да их...Хай

тады кружацца ў танцы пад іхныя гукі сьняжынкі, хай кружацца колькі хочуць; тады і можна будзе адчуць хараство іхнага лёту ў прасторы, іхнага быцця сярод жывых і няжывых...

Аднак, не... Ён на адну часінку ня трэба спыняцца. Трэба ісьці.

Да любых мясьцінаў, да блізкай з маленства хаты няшмат засталося ўжо. Яшчэ колькі кілёмэтраў -- і ўсё. Пакуль вечар -- і дома. Таму -- ісьці і ня спыняцца. Ісьці, ісьці...

Там, напэўна, і не чакаюць. Там уважаюць, напэўна, што ўжо даўно загінуў...

Усё-ж ён не загінуў, ён жыве. Ён ніколі не забываўся на блізкую сэрцу зямлю, на родных сваіх і дарагіх. Ён разам зь імі жыў у мроях і ў мроях імкнуўся да іх...

І ад самага сэрца выліваюцца словы... Не, гэта ня словы; гэта -- кроплі гарачай крыві, кроплі палымністага сэрца. Гэта -- верш, складзены, напэўна, яшчэ раней. Вусны шэпчуць словы вершу:

Думы. Думы! І ўдзень, і ўначы
не давалі вы мне супакою,
там блукаючы, там жывучы,
дзе пакінуў я дом над ракою.

Нястрымэна сягалі туды,
завірухі і холад міналі,
праз парогаў чужых невады
вы крыніцай жывой працякалі...

А сьнег не перастае, і не перастае ісьці...

Ужо пачынае сутунець. Няўжо і запраўды сутункі? Да хаты-ж было недалёка. Да сутункаў трэ' было быць там. А тут яшчэ -- чужая зямля... Можа гэта здаецца...

Але штораз -- цямней і цямней. Запраўды сутунее. Нешта і ногі адмаўляюцца далей ісьці. А паблізу -- ніводнае хаты, ніводнага жытла.

Зусім нечакана душыць кашаль. Балюча вырываецца з горла. Сэрца, маўляў, ад напружаньня вырвецца з грудзей...

А дарога, нібы наўсуперак, яшчэ больш цяжкая. Сьнег -- вышэй калена. Ніяк немагчыма ісьці.

Ужо амаль цёмна. Мацней дыхнуў вецер. Праясьняецца неба. Выглядвае зрэдку месяц -- мосяжны чарапок.

І гэтак хочацца піць! Здаецца, каб хоць адзін глынок вады было ў гэтым чарапку...

Ды не дастаць яго рукой, не зачарпнуць ім вады -- каб і было адкуль,-- не зачарпнуць...

Напэўна, сумысьля вецер не адстае цяпер, прычапіўся, прыліп. Не адстае і не адстае:

--А-лесь... А-лесь... Супачні, супачні... На пасьце... пась-це-лі...

А ён яшчэ спрабуе ісьці. Ступіць два крокі -- кашаль зноў спыняе яго, кружыцца галава. Ён хапаецца рукамі за паветра -- не адчувае ў ім апоры і -- пáдае... Напружваючы сілы ўстае, спрабуе ісьці далей. Два крокі -- і йзноў кашаль валіць з ног. Хапаючы надарванымі грудзямі паветра, пáдае...

А паблизу -- ниводнае хаты, ниводнага жытла...
Закиданая сьнегам дарога. Наперадзе -- ниводнага сьледу. Кольки дзён не праяжджаў чалавек, ня ступала ягоная нага...
Зноў звалиўся долу. Ламкнуўся ўстаць -- ня змог. Ня ўстаў...
Цяпер зусим добра. Цёпла, як у хаце. Ня страшна, што -- мароз. Няхай сабе... Затое цёпла й добра. Тольки кашаль... Кашаль. Ня могуць грудзи ўдыхнуць паветра.
И раптам... Месяц адплыў нейдзе далёка, далёка, зьник з вачэй, потым зноў наблизиўся.
"Няўжо, няўжо... гэта мой канец?..."--мильгнула думка. И зноў кашаль.
Цёплы струменчык крыви хлынуў з горла. А вусны, здаецца, нешта шэпчуць... Гэта ня вусны, гэта сами словы идуць ад думак:

О, каханы, о любы мой краю!
Дай мне силаў, жыцьцё мне вярни!
Я паблизу цябе памираю
на парозе тваёй вясны...

...Неўзабаве пачалося сьвитаньне. На асьнежаным гасьцинцы, раскинуўшы руки, ляжаў на сьпине чалавек. Струменчыки чырвонай крыви замерзьли на шчацэ, на каўняры, на белым сьнезе...
Замоўкла сэрца. Зацихла дыханьне. Спынилися думки. Анямели пачуцьци.
Памёр чалавек.
Белы сьнег... Чырвоная кроў...

10.2.1944 г.



Канстанцыя Буйла



# Сягоньняшния дзеўнейшыя

## Драма ў 3-х дзеях

АСОБЫ:

Гаспадар -- шляхциц, стары ўдавец.
Раман -- малады сын яго, скончыў школу.
Саўкович ⎫ старыя шляхты,
Панкратоўски ⎭ госьци Гаспадара.
Гануля -- сялянская дзяўчына.

---

ДЗЕЯ 1-я.

Дзея адбываецца ў двары Гаспадара. Сталовы пакой; над сталом гарыць висячая лямпа, на стале -- выпиўка и закуска. Гаспадар и госьци выпиваюць и закусваюць. Раман стаиць ля вакна. Вечар. Час летни.

---

Гаспадар (наливаючы и падымаючы чарку).

У вашы руки, паноўе!

Госьци.

Цай Божа вам на здароўе!

Панкратоўски.

Мёд ваш, видаць, ох, старэньки?
Гляк, бач, ад моху сивеньки...

Саўкович.

А яки колер! Ирдзицца,
Як тая ў маи расица.
А як нутро саграває!

Гаспадар.

О! лет за сотню ён мае...
Ды пице-ж тольки, паноўе!

(Падымаючы чарку).

За гасьцей милых здароўе!

Госьци.

Дай Божа!..

(П'юць и закусваюць).

Панкратоўски ( падмигваючы на Рамана ).

Пане Рамане,
Шак мёду хиба ўсим стане --
Гляк, бач, вялики. Хадзеце!

(Наливаючы мёду).

Ну, да мяне вось прапеце.

Раман (ад вакна).

Дзякуй! Нядобра мне нешта,--
Вып'ю -- горш будзе да рэшты:
Штось галава разбалелась...

Саўкович.

Думка якаясь засела.

(Да Рамана).

Хоць мы ўжо, брат, и старыя,--
Прайшли ўжо часы нам тыя...
Ды знаем гэта, ох, братка --
Псуюць вам дзеўки парадки
И у галоўцы, и ў сэрцы,
Пакуль ня стаў на каберцы.

(Сьмяецца. Да старых).

Скуль яны тольки умеюць?!
Проста дурманам навеюць...

(Дражнячы).

Ось, як пачне вышчарацца,
Бокам глядзець, усьмихацца
Ды лезьци мухай у вочы,--
Ад мёду горш замарочa.

(Да Рамана).

Ты, братка, их сьцеражыся,
Маладым, бач, не жанися,
Бо ўжо, як з бабай зьвязаўся,--
З жыцьцём навеки расстаўся.

Раман (насьмешлива).

Дзякуй за раду!

Гаспадар.

Жаницца?!
Э, трэ' йшчэ жыць павучыцца,
А то ўсё тольки па книжцы...

Так стравы збракне у мисцы;
За бацькам век не пражыци:
Мне ўжо пара адпачыци.

(Наливае).

Ну, паны, йлчэ во па чарцы!..

П а н к р а т о ў с к и (з усьмешкай да Рамана).

За поступ ваш ў гаспадарцы!
Ды тольки, пане Рамане,
Вас книжка болей, бач, мане,
Як валы, кони й кароўки.
Ну, за здароўе галоўки!

(П'е).

Р а м а н (горка).

Дзякуй! Ды тольки, мой пане,
Мяне ўжо й книжка ня мане.

С а ў к о в и ч.

Пажджы, як дзеўка якая
Ў галоўцы думки зблытае,
Залатым путам акруце,—
Пойдзеш, як конь у хамуце.
Выйдуць "идэи" з галоўки,
Будуць валы и кароўки,
Будзе и грошыкаў многа;
Ўсим гэта сама дарога.

Г а с п а д а р.

Дай Божа! Гэтак и трэба.
Зямли досьць будзе и хлеба...
Ну, пеце, ежце, паноўе!

П а н к р а т о ў с к и.

За ўсих дзевак здароўе!

(П'юць. Раман паглядае ў вакно, урэшце выходзиць у дзьверы).

П а н к р а т о ў с к и (да гаспадара).

Дык вашы, милы суседзе,
Так недалёка заедзе;
Яму ня быць гаспадарам,
Тольки — якимсьци писарам.
Якиясь новы идэи
Яму там горад навеяў:
Ён з мужыком за пан-браты,
Ходзе ў мужыцкия хаты —
Наўкол гаворацъ так людзи.

С а ў к о в и ч:

Ён гаспадарам ня будзе,
То гэта болей як пэўне;
Маёнтак страциць дарэмне.

Кажуць, што ён з мужыками
Вось так, як быццам и з нами:
Руку им, бач, падавае --
Гэта-ж прыкмета благая.

Г а с п а д а р.
Я гэта й сам, братки, бачу,
Ды якжа-ж зробиш иначай?
Са мною дзиўне ён скрыты.

С а ў к о в и ч.
Ды ци-ж у цемя ён биты?!
Маёнтак ваш ешчэ, пане.
Як гаспадарыць ён стане,
Тады лад нозы пакажа.

П а н к р а т о ў с к и.
Ось я вам, браце, параджу:
Вы яго лепш ня трымайце,
А ў сэминар'ю аддайце --
Гэта хлеб лёгки и пэўны.

С а ў к о в и ч.
Там ксёндз-прафэсар -- мой крэўны,--
Вось и пратэкцыя будзе.

Г а с п а д а р.
Дайце-ж падумаць мне, людзи.
Мо' гэта й добра?

П а н к р а т о ў с к и.
Вядома!
Малодшы хай будзе дома,
Ды яму книжнай навуки
Ня шмат даваць трэ' ў руки;
Нашто памешчыку трэба
Зоры личыць сярод неба,--
Ён не на зорах хлеб сее;
Лепш гаспадарыць хай ўмее.

С а ў к о в и ч.
Гэта -- найлепшая штука.
Нашто им гэта навука?
Тольки ў галовах мароча.

Г а с п а д а р.
А як Раман не захоча?

Саўкович (хутка).
Ну, а вы-ж, браце,--ня бацька?
Тольки вазьмецеся хвацка...

П а н к р а т о ў с к и.
Бачыце, справы такия:
Ён нам парадки старыя
Псуе. Сышоўся з хамами,
Якбы зь якими сябрами,
На поли зь ими гукае...
Ци-ж пану так выпадае?

Так скора жаднай пашаны
Хам мець ня будзе для пана.
Ксёндз -- гэта иншая штука:
Век будзе з хамам ён гукаць,
А той ў им бача паў-бога.
Раману гэта дарога
Ў жыцьци найлепш надаецца.
Дык ци-ж тут слухаць дзицяци?
Яго няма й што пытаци
Ци хоча ён, ци няхоча.
Тут бацьки роднага вочы
Ўбачыли шчасьце для сына --
Вось и ўся гвалту прычына.

С а ў к о в и ч.

Пэўне!.. Сын бискупам будзе,
Вось и ты выйдзеш у людзи,
Ци-ж не?.. Ён мусиць паддацца,--
Мудра трэ' тольки узяцца
Хитрыць.

Г а с п а д а р (горача).

Сьвет цэлы парушу,
А бацьки слухаць прымушу:
Ксяндзом ён будзе!

З а с л о н а.

--оОо--

Д З Е Я 2-я.

Стары сад пански. Пад дрэвам лаўка. На небе сьвецицьмесяц. З-за кустоў паказваецца Ганула.

Г а н у л я (азираючыся).

Няма йшчэ! Што-ж гэта такое?
Мо' здарылася штосьци благое?
Сягоньня мяне стара маци
Трымала так доўга ў хаци;
Ўжо думала тут ён -- чакае,
Аж не -- наша лаўка пустая...

(Паўза).

Ды прыйдзе Раман мой миленьки,
Саколичак мой даражэньки;
Ён знае, што жджэ тут Ганула,
Уцёкшы тайком ад матули.
Мо' ён ў кустох дзе схаваўся?..
( Прыслухоўваецца).
Во шорах якисьци раздаўся.

(Падыходзиць да кустоў и вяртаецца назад).

Не, пуста -- няма там никога!

(Сядае на лаўку.Задумваецца).

Вось зьвёў Бог ў адно дзьве дарогі,--
Ніколи и ў сьне ня прысьнила,
Ды вось панича палюбила,
Раманку майго дарагога...
Вось дзіўная доли дарога!

(Паўза).

Ды дзіва-ж было пакахаци!
Такога з лучынкай шукаци:
Як гляне -- што мёдам памажа,
Бы сонцам сагрэе -- як скажа,
Бось слухаць и слухаць здаецца--
Так гутарка складна лиецца.

(Паўза)

Якраз год таму мы спаткались:
Я помню -- ў двары жита жала,--
Гукаў ён са мной и сьмяяўся...
Таким мне у сэрцы й астаўся,
Заўсёды таким яго бачу,--
Ды якжа-ж быць можа иначай,
Кали ў сьне, на яве, дзень з ночай
Стаяць мне ў вачох яго вочы.

( З боку двара выходзіць панич. Ганула зрываецца).

О йдзе ўжо, идзе мой Раманка!
Ня дарма чакала тут Ганка.

(Падбягае да яго).

Даўно ўжо, мой милы, чакаю...

Р а м а н ( вочы ягоныя сьвецяць каханьнем; прыцягвае да сябе Ганулю).
Выбач мне, мая дарагая,..
Ды к бацьку прыехали госьци,
Сядзели там доўга чагосьци,
Ци можа мне ўжо не цярпелась--
К табе исьци, Ганя, хацелась.

(Цалуе яе).

**Мая ты сьвятляная зорка!..**

(Паўза; уздыхаючы).

Ох, мучыць мяне их гаворка!

Г а н у л я.
Мой милы!..

(Сядаюць на лаўцы. Ганула апирае галаву на грудзёх Рамана. Месяц сьвециць праз галины).

Р а м а н.
Ганулька! Кахаеш?..

Г а н у л я.
А ты йшчэ аб гэтым пытаеш,

Мой милы саколик! Мой Божа,
Ци больш хто кахаци ўжо можа?!
Ци зо сну ўстаю, ци кладуся,--
Табе так, як Богу,малюся;
Ци тку, ци праду лёну жменьки,--
Стаиш ты ў вачох, як жывеньки,--
Забудуся што и рабила.
На сэрцы так лёгка, так мила,--
Аж дзивицца часам матуля:
--"Што гэта з табою, Ганула?
"Што тут за такая прычына?
"Дурэеш чагосьци, дзяўчына".
А я памаўчу, засьмяюся,
Ды зноў за работу бяруся.
А ты йшчэ пытаць, ци кахаю?..

Раман ( зь дзиўным смуткам и каханьнем у голасе ).
Ганула мая дарагая,
Мой сьветлы праменейчык сонца
Ў жыцьця майго цёмным ваконцы!

(Паўза. Горка).

Пракляты той дзень и гадзина,
Як пана радзиўся я сынам,
Як зводнай навуки туманы
Заціьмили мой сьвет шчараваны,
Даўнейшую веру забрали,
А новай -- ни ў вошта ня дали!..
Бывала, шаптали мне зорки
Знаёмыя сэрцу гаворки,
И сьниўся ў гары мне дом Бога
З праменнай малочнай дарогай,
Палёў шыр, луговы каберцы--
Наўкол ўсё так близкае сэрцу...
Сягоньня усё ўжо иначай--
Ў иншых калёрах ўсё бачу.

Ганула.

Чаму гэта, милы?

Раман.

Бо были,
Бач, людзи, што думаць вучыли,
Мне веру старую забрали,
А ў замен ничога ня дали.

Ганула.

Ты, милы Раманка, сын пана,
Разумны ты, адукаваны,--
Ня ўсё я пайму, што учую,
Ды, бачыш, я гэтак мяркую:
У Бога лиш верыць нам трэба,
Што мае свой дом сярод неба,
Што месячык даў залаценьки,
Каб нам ён сьвяциў наймиленьки;

Даў сонца праменьни, каб грэли,
Даў птушки, каб песьни нам пели;
И зоры што-ноч запаляе
Рука яго ў небе сьвятая,
Каб дзе ня блудзиў падарожны...
Глянь: кожную траўку, куст кожны --
Ўсё гэта даў добры Бог зь неба,
За тое кахаць яго трэба.

Р а м а н ( цалуе галаву Ганули ).
Мая ты галубка малая,
Ганусе мая дарагая,
Чаму-ж я ня маю тэй веры?
Чаму-ж мой сьвет гэтаки шэры?
Як гляну я розуму вокам--
Там неба ня бачу высока,
Абшар там, як сажа, так чорны
Раскинуў хтось дзика-праворны,
А зоры у гэтым абшары
Палаюць адвечным пажарам;
Их хтось запалиў там адвеку,
Нашто?--знаць ня даў чалавеку.
И дарма на загадки сьвету
Даём мы разгадки ўсё гэты,
Бо мром, не згадаўшы ничога...
Там блудная вельми дарога.

Г а н у л я.
Ды як-жа гаворыш ты, милы?--
Ўсё гэта нам боская сила
Дала, што на сьвеце мы маем.

Р а м а н.
Не, Ганка мая дарагая!
Ўсё гэта ўжо быўшы ад векаў
Зрадзила з сябе чалавека.

Г а н у л я (абдымаючы яго).
Ты дзиўне гаворыш, Раманка,--
Ня пойме цябе твая Ганка...

Р а м а н.
Хай, Ганю, душа маладая
Твая лепш аб гэтым ня знае;
Ўсё гэта ня дасьць нам ничога,
Лиш будзиць у думках трывогу...
Я часам хачу так забыцца
Ўсяго, чаго мусиў вучыцца,
И жыць, як той люд наш вясковы,
Спакойны, вясёлы, здаровы,--
Ниводная думка благая
Яму сну з вачэй не зганяе;
Хоць гора часами акруціць,
Хоць голад, хоць холад дакучаць,--
Яго дух, як тая крыница,
Бурливай вадой ня бурлицца.

Яго боль -- то верхния хвали
На рэчки спакойным крышталі;
Як хвали -- і ён так праміне,
Ня змуцйўшы вод на глыбіне,--
Ды йзноў з цихай моцай струицца...
А инши ёсьць дух, як крыница:
З нутра яго бурны патоки
Лятуць, грымяць хваляй высока,
Пакуль у нутры сил хапае;
Няма их -- і ўсё замирае,
И гине жыцьцё чалавека...
Так ёсьць и так было адвеку.
(Паўза.Спакайней).
Мяне да вясковага люду
Дух цягне их -- вольны ад жуды;
Яны ня цикуюць ничога--
Им простая ўсюды дарога:
"Усё даў нам добры Бог зь неба,
"Затое кахаць яго трэба".
Им сьвет аб сабе сам гавора.

Ганулі.

Ты кажаш: няма у их гора,
Раманка миленьки. Дарэмне:
Яны больш паноў церпяць -- пэўне.
Ци ёсьць горшы боль, кали ў хаце
Няма куска хлеба дзицяци;
Кали ў вачох чахне дзицятка,
Ци-ж мала цярпиць тады матка?
Раманка! ты тольки ня бачыў:
Сьлязьми яны горкими плачуць.
Паны?.. им усяго хапае,
Зь их голаду жадзен ня знае.

Р а м а н.

Бач, Ганю: ёсьць голад дваяки.
Адзин -- яго знае усяки,
Хто хлеба у хаце ня мае,
Други -- яго той тольки знае,
Хто духам з зямли адарваўся--
Да неба-ж высот не дастаўся.
Ды знай, хто раз неба убачыў--
К зямли не паверне иначай,
Як з голадам страшным у душы,
Што мозг, душу, сэрца ўсё ссуша.

Г а н у л я .

Ты сумны чагось, даражэньки!
Чаго, мой саколик миленьки?
Чаго?--Раскажы ўсё Ганули.
Ци госьци так думки папсули?...
Лепш кинем мы гутарку гэту;
Што нам да людзей, што да сьвету:
У цябе,мой миленьки, ёсьць Ганка,
У мяне-ж мой саколик, Раманка,--
Ци-ж гэтага нам не хапае?

Р А М А Н (горача тулячы яе да сябе).
Ты зорка мая залатая!
(цалуе яе).

З а с л о н а.

ДЗЕЯ 3-я.

Дом вясковай плябании. У габинэце на софе ляжыць Раман-- ксёндз-- з книжкай у руках. На твары яго чырвоныя плямы сухотаў. Кашаль раз-у-раз прарывае цишыню; вочы блишчаць гарачкай. Разлёгаецца званок -- уваходзиць доктар.

Д о к т а р (жартаблива).
Як маемся!
(Падаé руку).
Ўжо вы адзеты?
Ня надта, каб добра нам гэта;
Каб сьмела ўжо можна устаци,
Даўжэй трэ' было-б паляжаци.

Р а м а н (неахвотна).
Скажэце мне, пане, нашто вы
Мне силай кладзеце аковы
Жыцьця?-- Шак яно дагарае.
(З раздражненьнем).
И сам ты надзеи ня маеш,
Каб быў я здаровы.

Д о к т а р (з силай).
Маўчэце!
Ось лепей мне пульс пакажэце.

(Бярэць руку Рамана и глядзиць на гадзиньник; твар доктара пахмурнее).

Р а м а н (з усьмешкай).
Ну што -- няцикавыя весьци?

Д о к т а р (нехаця).
Не-е-е!
(жыва).
Болей трэ' тольки вам есьци:
И сьвежага воздуху многа.

Р а м а н (горка).
Ха-ха-ха! Й болей ня трэба ничога?
И гэта здароўе даць можа!
(Шчапляе руки).
Эх, Божа, ты, милы мой Божа!..
(Да доктара).
А што-ж мне дасьць ваша навука?
На хворай душы маёй -- мука...
Боль сэрца... Тут хиба ўжо, пане,
И вашай навуки ня стане!..
Дзе-ж леки, ўняць каб мучанину

Душы ўсёй, хваробы прычыну,
Што зводзіць жыцьцё да астатка!..
(Горача).
Ты лечыш з канца, не з пачатку...
(Бясьсільна апускаецца на софу).

Д о к т а р ( спакойна, ня слухаючы).
На станцыю высланы коні:
Сястра міласэрдзя сягоньня
Прыедзе. Вам трэба дагляду,--
Яна тут вам скора дасьць раду.
( Раман махае рукой і адварочваецца).

Д о к т а р.
Ну, мне ўжо пара!--там чакаюць:
Сягоньня работы шмат маю.
Вы лішне ня мучцеся мовай,--
Больш ежце.--Ну, будзьце здаровы!
(Падае руку і выходзіць. Раман устае і зволына пачынае ха -
дзіць па пакоі).

Р а м а н (адзін).
Разьбіўшы жыцьцё -- й з тых астаткаў
Жыцьця стварыць хочуць пачаткі.
(Сьмяецца горка, пасьля шчапляе ў роспачы рукі).
Сам болей нічога ня маю,--
Чаго-ж ім яшчэ не хапае?
Жыцьцё толькі-толькі што тлее;
Ўсе чыста разьбіты надзеі,
Ўсё згасла -- яны-ж на тым зглішчы
Раскласьці йшчэ хочуць вагнішча.
Шак дроў там няма ўжо, эх, людзі!
Шак попел гарэці ня будзе...
А бацька ў сьмяротнай гадзіне
Хацеў бачыць біскупа ў сыне,--
Ды ўбачыў ліш плямы во гэты.
(Паказвае на твар).
Мест біскупскіх строяў, ф'ёлетаў,--
Сканаў, як-бы жоўці напіўся,--
Так твар пачарнеў, выкрывіўся.
Няшчасны, сваімі рукамі
Скапаў сыну роднаму яму,
І сам, бедны, лёг у магілу:--
Крыж стаў уканцы не пад сілу--
І сэрца ў грудзёх разарвалась,--
Зашмат, відаць, сьлёз там набралась!..
Бяздольны!..
(Ходзіць нэрвова па пакоі; у вачох зьяўляюцца няпрытомныя
бліскі).
Татуля! Ўраз сына
Ў жалобнай убачыш краіне.
На гэтай бяздольнай зямліцы,
Стаючы ў парозе грабніцы,
З табой прымірыцца ён хоча;
За ўсё -- за бяссонныя ночы,
За душу маю катавану,

За муки Ганули каханай,
За сьлёзы жаўцёвай гарычы,
Каторых сам Бог не палича,
За моладасьць ўжо разьбитую,--
Татуля, за ўсё я дарую!
Судзьдзёй табе сын твой ня будзе,
Хай лёгка Хрыстос цябе судзе.

(Апускаецца бяз силаў на софу з глухим стогнам. Чуецца званок,--уваходзиць сястра миласэрдзя--Гануля. Раман падымаецца з софы и адкидаецца да сьцяны, гледзячы на кабету няпрытомными вачыма).

Г а н у л я (падыходзячы, дрыжачым голасам).

Ня бойся, мой милы,
Ня труп я з магилы,
Хоць белы мои твар, як мука;
Хоць вочныя ямы шчарнели,
Хоць вочы у глыб паўпадали--
Цябе, бач, усё выглядали--
Хоць раз яшчэ ўбачыць хацели;
А чым ты адходзиў далей--
Яны западали глыбей,
Пакуль не запали у глуб.
(Працягвае руки).
Даткнися,--мая вось рука
Хай скажа табе, што ня труп
Прыйшоў да цябе из магилы...
Ня бойся, мой милы!
(Падыходзиць).
Чаго-ж ты увесь пабялеў?
Дрыжыш, як у поли асина.
(Раман зпираецца аб сьцяну).

Г а н у л я (да сябе).

Хистаецца--ён абамлеў...
О Божа! ўсяму я прычынай.
(Да Рамана).
И ты, ты баишся мяне?!

Р а м а н (няпрытомна).

Га! прошласьци труп--белы труп!..

Г а н у л я (горка).

Я -- труп? О не, милы мой, не!
А труп мо', дык иншы -- ня з тых,
Што ў маци-зямельцы ляжаць,
А иншы--из трупаў жывых,--
Нярэдка их можна спаткаць.
Яны не ў магилах жывуць,
А носяць магилы ў сабе,
Схаваны ў грудзей ўласных глуб...

Р а м а н (таксама).

Цябе-ж гэта бачу, цябе?!
Мест словаў -- атрута струицца
З глыбокай-глыбокай крыницы
Душы...

Г а н у л я.

О! ў глуб тэй душы
Палохаися ты заглядаць:
Там енки, там стогны чуваць;
Яны -- горш магильнай цишы,
Там сэрца, запёкшысь ў крыви,
Шчарнела горш гробаў цямни.
Над векам--пакрыўкаи труны--
Сто раз дух ачнецца жывы
И сто раз сканае изноў,
Ня вынясшы болю свайго.

Р а м а н (таксама).
Чые-ж гэта словы, каго?..
Кроў брызгае гэтак балюча
И палиць пажарам пякучым
Душу маю... Хтосьци гавора,
А словы агнёў цэлым морам
Лиюцца...

Г а н у л я (апрытомнеўшы).
Раманка!
(Бярэ якись пузырок зь леками и, кидаючыся да Рамана з плачам, стараецца апрытомниць яго).
Р а м а н (таксама).
Хтось плача?..
(Гледзечы на яе).
Гануля, цябе-ж гэта бачу?
Ах, помню... Слоў страшная сила
Бужакаю дух акруцила...

Г а н у л я (падтрымливаючы яго, з роспаччу).
Раманка!..

Р а м а н.
Труп прошласьци смутнай, труп белы
Устаў из магилы сплясьнелай;
Мест словаў атрута струицца
З глыбокае сэрца крыницы,--
Агнями мозг палиць... гарыць...
(Падае и млее).

Г а н у л я.
О Божа!.. Карае... Раманка,
Ачнися! То я, твая Ганка!..
Ачнися! Га...
(Валицца на грудзи яго).

З а с л о н а.

("Курганная кветка", Вильня, 1914.).




"У родным краи ёсьць крыница
Жывой вады.
Там тольки я магу пазбыцца
Сваёй нуды."

( Максим БАГДАНОВИЧ ).

НАПОЎНАЧ ад Вицебску, там, дзе ў рэчку Гаражанку ўцякае рэчка Няшчэдра, знаходзицца маленьки павятовы гарадок. Узимку тут глыбокия сьняги, улетку — шумяць магутныя дубы. Тут вакол безьлич задуменных курганаў и нямых крыжоў. Тут, кали засьпяваюць дзяўчаты:

"Ой ляцели гуси",

дык рэха им адразу адкажа:

"Ды з Белае Руси".

Тут сапраўдная Беларусь — нашая синявокая Маци.

Маленьки пабятовы гарадок. Гисторыки ўпяршыню заўважыли яго тольки ў 1650 годзе, скупа зазначыўшы ў крониках, што з Божае ласки кароль Ян Казимер загадаў вуниятам вярнуць праваслаўным адабраную ў их гвалтам старадаўнюю царкву ва имя сьвятога прарока Ильли. Вось и ўсё. Але нашыя продки звычайна будавали Ильлинския цэрквы на тым месцы, дзе калисьци стаяли бажницы Пяруну. Гэта значыцца, што гарадок иснуе ня менш 1000 год. И аб ягонай старадаўнасьци моўчки сьветчыць гистарычны помник, яки часткова захаваўся да нашых дзён.

На правым беразе цихай Гаражанки, у гарадзким садзе Липках можна заўважыць рэштки даўнишняга ўмацаваньня. Ад яго засталися тольки зарослыя крапивой рэштки, якия абмяжоўваюць сабой чатырохкутовую пляцоўку. Такия ўмацаваньни звычайна называюць гарадками. Адсюль маленьки гарадок мае ад-

паведную сабе назву — Гарадок.

Насупраць, на левым беразе рэчки, видаць рэштки замкавага муру. Самае сьцяны ўжо няма и застаўся тольки падмурак, яки нагадвае пабудаваную волатами дамбу. Ён складзены з вяликага чырванаватага каменьня. Таму зводдаль гэты старадаўны мур здаецца крывавым.

Ничога не засталося ў гисторыи аб гэтым замку. Мы ня ведаем хто и кали яго збудаваў, хто и кали яго разбурыў. Але адно не падлягае ниякаму сумненьню, што тут пралилося шмат нашае беларускае крыви. Магчыма таму и шэры мур набыў крывавы колер. И з-пад самага крывавага муру б'е крыница з чыстай, як сьляза, вадой.

Адгрымели гарматы, адраўли пишчали. Некальки стагодзь дзяў на ўзьбярэжнай над самым мурам стаяў вялики чорны крыж. Яго паставили, каб ушанаваць усих тых невядомых героў, што загинули тут у бойцы за Радзиму. Побач з крыжам пабудавали сьциплую драўляную каплицу ва имя сьвятое вяликамучаницы Параскевы. Штогод на дзясятую пятницу пасьля Вяликадня, сюды сходзилися з усяго Наддзьвиньня тысячы багамольцаў. Яны кланялися да сырой зямли крываваму муру и набирали ў свае пляшки з крыницы сьвятой вады.

На нашых вачох прайшли тры апошния дзесяцигодзьдзи. Сьпярша зьникнуў чорны крыж. Пасьля зруйнавали каплицу сьвятой Параскевы. Потым часткова разабрали крывавы мур и ягоным каменьнем забрукавали блйжэйшую вулицу. Нарэшце, пачали зьверху скидаць да крыницы сьмецьце.

Што з табой сталася, маленьки беларуски навятовы гарадок? Дзе грамады простых и шчырых людзей, што прыходзили з вяликай пашанай и глыбокай верай да твае сьвятыни?

Б'е з-пад крывавага муру сьвятая крыница. Плача па сваих сынох Маци-Беларусь.



А. Бароўскі

# Трокі

АДНЭЙ з прыгажэйшых мясьцинаў на Беларуси зьяуляюцца Троки и ихная ваколица. Прыгажосьць гэтай беларускай Швайцарыи брала на сябе ўвагу шмат яких турыстых, якия штогоду ахвотна цикавилися цудоўными мясьцинами сярод прыгожых вазёраў Троччыны.

Троки, як и Горадзеншчына з Друскениками, и Аўгустоўския вазёры, и ваколицы Вильни, и Браслаўшчына, и инш. ничым ня ўступаюць найпрыгажэйшым мясьцинам сьвету. Шкада, што гэта аздоба й краса беларускай зямли была ў чужых, не беларуских руках и ничым не спрычынилася ни да адпачынку, ни да ўцехи, ни да лекаў беларуса. И ўсё, пра што гаворыцца далей, зьяўляецца тольки скупыми успаминами прайшоўшага минулага, ня зусим радаснага и ўцешнага для нашага чалавека.

...Выходзячы ў Ляндварове з цягника з найлепшыми выгадами, што курсуе зь Вильни ў Варшаву, адразу адчуваем сябе нибы ў иншым сьвеце. Сваеасабливa ўбраны прадстаўник плямя Израэля ветлива прапануе балагольнай хурманкай давезьци нас да Трокаў, якия знаходзяцца близу 10-ци килёмэтраў ад станцыи. Падарожжа виленскими шляхами "балаголам" не належыць да прыемнасьци, а таму мы падрыхтоўваемся да яго физычна й маральна ў заспанай буфэтчыцы на вакзале. Пад'еўшы мясных прысмакаў, задаволёныя, скироўваемся ў дарогу. Каб шлях ня выдаўся дакучливым и даўгим, спрытны хурман забаўляе нас апавяданьнем мясцовых "важных падзеяў" и анэкдотаў. Неўзабаве трапляем у край цудоўных вазёраў. Найбольшае зь их — Ґалве. Яно мае асабливую вагу ў вачох мясцоваго жыхарства. Пашана да гэтага возера паходзиць з часоў паганства. Жыхары апавядаюць, што за якиясь грахи людзи мусяць плациць возеру штогоду данину. И штогоду Ґалве забирае аднаго маладога хлапца, або дзяўчыну ў свае шэра-зялёныя воды...Няма ад гэтага ратунку, и народ ужо прывык да гэтага ўсьцяж даўгих гадоў. Ён ня крыўдзицца на возера и ўважае гэта за зусим нармальную й справядливую зьяву, хоць ня ведае добра, за што на яго ўскладзена гэтая данина. Часам Ґалве бярэ ў год больш аднае ахвяры, але гэта не таму, што яно несправядливае, але, напэўна, таму, што хтосьци з жыхароў больш правиниўся... Дзиўнае возера...

Апыняемся ў самым мястэчку. Троки — тыповае беларускае старое мястэчка. Мае яно каля паўтары тысячы жыхароў. Апрача беларусаў жывуць там паляки, лицьвины, жыды й татары. Жыхарства займаецца пераважна рыбалоўствам и землярobствам.

Думай Трокаў зьняўлялася настаўницкая жаноцкая сэминарыя. Пэўна-ж, гэта была не беларуская настаўницкая сэминарыя — и мала каму зь беларусаў даводзилася вучыцца ў ей... Навука беларускаму селянину была, казаў той, не па кишэни...

Дарэчы, на цудоўным фоне беларускай зямли, у Троках, была караимская бажница — мячэт, як яе там называли. Караимы — адна з жыдоўских рэлигийных сэктаў. Да не належыли жыды, як[illegible]ся [illegible] рыдоў Майсеявага веравызнаньня и ставилися, наагул, да их варожа.

...На адным з шматликих астокаў троцких вазёраў, паблизу мястэчка, паважна ўздымаюцца ўгору муры магутнага калисьци арлинага гнязда Гедымнавичаў. Гэта — замак Кейстута. Даўгия гады стаяў ён на старожы сьвятое Жмудзи, Аўкштотаў и Вяликай Литвы, бароначы их ад зьнишчальных нападаў злавесных тэўтонаў. Шмат чаго могуць нам сказаць гэтыя парослыя сяньня мохам муры. Няраз яны абмывалися варожай крывёй и ци адзин рыцар захаду гинуў тут ад литоўскага мяча. Замак злучаны праз падземны лёх з сухазем'ем. Празь лёх перацавалися на [illegible] вяртки аб стане ў сярэдзине замку.

Троки были сталицай и найбольш улюбленым месцам аднаго з **найвяликшых Гедыминавичаў, ва[illegible] гения й волата духу — Кейстута.** На ягоную долю выпала вяликае заданьне — абарона Вяликага Княства ад наймагутнейшай у той час военнай силы — крыжаносцаў. Тольки Кейстут мог справицца з гэтым заданьнем. И ён справиўся зь им, зразумела. Шумела хвала Пэркуну ў сьвятых гаёх. Стары Дэвацис спакойна панаваў над пушчай. Вораг не пасьмеў парушыць ихнага спакою.

Пасьля трагичнае сьмерци Кейстута Троки страцили сваё палитычнае значаньне. Яны трапили пад валаданьне Вяликага князя, сталицай якога была Вильня. Апошними часами троцки замак зьняўляўся цикавым помникам минулага, яки прыцягваў увагу иншаземных турыстых. И невяличкай, зусим невяличкай колькасьци школьнай моладзи, беларускай школьнай моладзи, дазволили абставины пабачыць гэты слаўны помник минулага...

Гаворачы сяньня пра беларуския Троки, мимволна задаеш сабе пытаньне: а ци мала таких, як яны, [illegible] цудоўных мясьцинаў на Беларуси? Вельми шмат. Да вялики жаль, пераважная бальшыня их яшчэ мала ведамая нашаму чалавеку и тольки таму, што ня сам беларус гаспадарыў над ими. Усе чужынцы: и турыстыя, и падарожники-вандроўники, а часам нават и письменьники заўсёды гаварыли тольки пра красу гэе ци иншае мясьцины, пра багацьце, але николи не гаварыли пра их, як пра мясьцины беларуския, самабытныя, пра ихнае значаньне з гледзишча палитычна-эканамичнага стану нашае бацькаўшчыны.

Чым жывуць сяньняшния Троки — цяжка сказаць. Падзеи апошних гадоў пакинули свой глыбоки сьлед: абабили красу вазёрных берагоў и патрушчыли целявыя парасьли даўна-думных прысадаў... И ня ступае, видаць, нага беларуса-земляроба, и, пэўна-ж, "Бэня-балагол", не дачакаўшыся даўних турыстых, не спадзяецца больш на лёгки заробак.

Журботна гойдаюцца чаўны на вазёрных хвалях, моўчки плачуць, абнятыя тустым туманам, старыя вербы...

ж ж ж ж ж

У. Глыбінны.

# ЗАЛАТЫ ВЕК

Пятнаццатае и асабливa шаснаццатае стагодзьдзи у гисторыи беларускай культуры уважаюцца за "залаты век", и гэта зусим слушна, бо знайшло сваё адбицьцё у шэрагу дакумэнтаў эпохи. Збор беларуских законаў гэтага часу, выдадзены пад назовам "Литоўскага статуту", адлюстроўвае росквит беларускай мовы, беларускага права й культуры наагул. Статутам карысталися з пэўными перапынками аж да 40-х гадоў дзевятнаццатага стагодзьдзя, кали ён быў заменены "Сводом законов Российской империи".

Шаснаццатае стагодзьдзе на Беларуси запраўды зьяўляецца векам найбольшага росквиту беларускае дзяржаўнасьци и, разам з гэтым, беларускай культуры, литаратуры, асьветы. Гэта быў век адраджэньня беларускага народу, адраджэньня вяликих традыцыяў Полаччыны — гэтай калыски беларушчыны у дзяржаўна-палитычных и культурных праявах яе. Рэфармацыя, якая прыйшла на Беларусь з Захаду, узварушыла грамадзкую дзейнасьць и думку. Шырацца заходнe-эўрапэйския культурныя уплывы й сувязи. Магдэбурскае права, якое начало давацца беларуским гарадом з канца чатырнаццатага веку на нямецка-эўрапэйски узор, спрыяла вольнасьци гарадзких людзей, гандлю, разьвицьцю рамёстваў и г.д., а праз гэта — росквиту асьветы й культуры. "Литоўски статут" (1566 г.) людзям усих станаў дазваляе выяжджаць за межы для набыцьця асьветы и у мэтах лекаў: "Няжата і панове хоруговные, шляхты і кождый человек рыцерскій і всякого стану", мае "вольнасьць и моц выехаті і выйті" з зямель свае дзяржавы "для наук у пісьме, цвіченя (практыкаваньня), учінков рыцерскіх і лепшого счастья своего, і теж будучы неспособного здоровья своего для лекарств". ж/

У вынику такога законадаўства шмат людзей Беларуси таго часу вучыцца за межами ува унивэрсытэтах Прагi, Балоны, Вэнэцыи, Ляйпцыгу, Кракава ды иншых гарадоў.

Адным з таких слаўных сыноў Беларуси, што атрымали асьвету за межами и аддали свае веды на карысьць роднаму народу, зьяўляецца Францишак Скарына з Полацку — краса и гонар беларускага народу, што сымбализуе сабою силу, талент, неабмежаваныя интэлектуальныя, навуковыя й культурныя магчымасьци беларусаў, як нацыи.

У той час, кали Беларуска-Литоўская дзяржава мацнела и начала аб'ядноўваць шмат яких усходних славянаў, ператварыўшыся у магутную культурную дзяржаву, Масква тольки-тольки пачынала сваё дзяржаўнае жыцьцё. Гэта першы факт адставаньня Маскоўшчыны ад Беларуси. Францишак Скарына дадаў

---

ж/ З увагi на адсутнасьць першакрыницы, дакладнасьць цытатаў не запэўняецца. Рэд.

други, вельми истотны факт, яки сьветчыць, што Беларусь, як краина заходняя ў параўнаньни з Маскоўшчынай, была и больш культурнай, бо першая ўводзила ў жыцьцё шмат якия культурныя здабытки Заходняе Эўропы. Так было и з друкаваньнем книжок. Першы беларуски друкар Францишак Скарына ўжо ў 1517 годзе, 6-га жниўня, у Празе Чэскай выдаў першую друкаваную книжку ў беларускай мове -- "Псалтыр". Каб зразумець вяликае асьветницкае значаньне выданьня "Псалтыра", варта ўспомниць, што па им вучылися грамаце. Таму, як видаць з прадмовы, Скарына прызначае гэтае выданьне "детям малым", як "початок всякое доброе науки, грамоты, еже добре чести и мовить учить". Праз гады 1517-1519 у Празе ён выдрукаваў яшчэ 22 книги "Библии". У гисторыи сусьветнай друкаванай книги пасьля нямецкай (1) и чэскай (2) "Библия" Скарыны займае першае месца.


Францишак Скарына.

Пачынаючы друкаваць книги ў беларускай мове, Францишак Скарына перш за ўсё кираваўся народными интарэсами, зацикаўленасьцяй наблизиць книжную мову да народных масаў "асы бо рацiя мая Русь, людзi i паспалiтыя чтучы маглi лясьней разуменi". Будучы верным сынам свайго краю и народу, ён пацягнуўся да радзимы, бо, як пиша ён, "людi iкде зродiлiся, к тому месту велiкую ласку iмають". Каб наблизиць сваю асьветницкую и друкарскую справу да свайго народу, Францишак Скарына пераяжджае ў Вильню и тут, заклаўшы пры дапамозе сына мястовага радцы Багдана Онькава и виленскага бурмистра Якуба Бабича ў доме апошняга друкарню, распачаў друкаваньне книжок ужо на роднай зямли. У сакавику 1525 году ён выпусьциў у сьвет друкаваную книгу "Апостол", пасьля яшчэ "Малую падарожную книжыцу". Книги, выдрукаваныя Скарынаю, были першыми друкаваными книгами ва ўсёй Усходняй Эўропе; яны ишли ў Маскоўшчыну, Украину, Галицыю, паўдзённым славянам и нават на заходне-эўрапэйския рынки, пашыраючы асьвету й культуру, праслаўляючы гэтым беларускую мову. У Маскве ў той час аб друкарскай справе нихто ня дбаў.

Практыку беларуских друкароў пачали пазьней пераймаць шмат якия усходния славяне, у тым лику и Маскоўшчына. Ведама, што першыя расейския друкары Иван Фёдараў и Пётра Мсьциславец (беларус паводля паходжаньня), прыступаючы да друкаваньня книжок у Маскве, беспасярэдня киравалися нашай практыкай и ў гэтым проста прызнавалися: "начах друкавати... книги у горадзе Маскве, як Белай Руси..." Таким чынам друкарскую тэхнику Беларуси брали сабе за ўзор и шмат якия ўсходния славяне. Першая друкаваная книга ў Расеи зьявилася тольки ў 1564 годзе. И кали Беларусь адсьвяткавала чатырохсотлецьце свайго друку яшчэ ў сакавику 1917 году, дык Расея будзе яго

сьвяткавацъ ящчэ амаль праз [illegible] гадоў -- у 1964 годзе.

Искры, запаленыя Ф.Скарынаю, ня згасьли и ў наступныя гады пасьля ягонае дзейнасьци.

Письменьницкую и перакладчыцкую дзейнасьць Ф.Скарыны працягвали такия беларуския письменьники шаснаццатага стагодзьдзя, як Сымон Будны, што выдаў пратэстанцки "Катэхизис" у 1562 годзе и "О оправдании грешнаго человека пред Богом" у 1562 годзе ў Нясьвижы, або Василь Цяпински-Амельянович (1540--1603) з Полаччыны, яки зрабиў пераклад у беларускую мову "Эвагельля". Апошни зьяўляўся змагаром за адраджэньне беларускага народу, ставячы ў прыклад "нам недалеских влохов, немцев, поляков, французов, гангликов, гишпанов".

Василь Цяпински горача жадаў, каб народ наш, ягоныя "земляки" трымалися "языка своего прирожоного". Ён моцна верыў у вяликае минулае свайго народу, яки, паводля ягоных словаў, раней быў "зацный, славный, острий, достипный народ".

Иснаваньне таких письменьникаў сьветчыць, што у народзе моцна жыла нацыянальная сьвядамасьць, патрэбу ў прабуджэньни и ўзьняцьци якое адчували и выяўляли ў свайй дзейнасьци гэтыя перадавыя прадстаўники народу, якими апошни павинен ганарыцца и трымаць их у памяци з пачуцьцём пашаны и ўдзячнасьци.

Друкарская справа, распачатая Ф. Скарынаю и падтрыманая и працягнутая Будным и Цяпинским, з канца шаснаццатага стагодзьдзя и праз усё сямнаццатае стагодзьдзе шырыцца и разьвиваецца, знаходзиць сабе шмат прыхильникаў и памагатых у вассбе асьвечаных и багатых людзей таго часу накшталт таких паноў и князёў, як Слуцкия, Радзивилы,Хадкевичы, Сапеги, у дварох якиx адчыняюцца друкарни для друкаваньня книгаў. Праўда, да гэтага часта прымушали ихныя интарэсы рэлигийнага змаганьня памиж кальвинистыми,каталиками, праваслаўем, сацыниянствам и г.д.Гэтае змаганьне адымала шмат силаў народу, займала многа адароных прадстаўникоў интэлигентнай адукаванай частки яго. Але тое, што яна спрыяла разьвицьцю друкарства и, гэтым самым,пашырэньню друкаванае книги, рабила сваю добрую прагрэсыўную справу.

З 1574 году ў Вильни робицца ведамай друкарня беларуских культурных дзеячоў шаснаццатага стагодзьдзя -- братоў Мамоничаў, родам з Магилеву. Кузьма Мамонич быў за Виленскага бурмистра, а ягоны брат Лукаш -- за скарбника Беларуска-Литоўскай дзяржавы. Закладзеная ими друкарня ў Вильни дзейничала да другой паловы сямнаццатага стагодзьдзя.

Друкары Иван Фёдараў и Пётра Мсьциславец, якия ўцякли з Масквы пасьля разбурэньня маскоўскай чэрняй першае расейскае друкарни, дзякуючы апецы Рыгора Хадкевича, закладаюць друкарню ў Заблудаве, Беластоцкага павету. З гэтае пары дзейнасьць Ивана Фёдарава часова, а Пётры Мсьцислаўца назаўсёды зьвязваецца з нашым краем, бо Маскоўшчына не дала магчымасьци разгарнуць усе мажливасьци гэтых культурных дзеячоў, и их гасьцинна прыняла Беларусь, як краина больш культурная. У Заблудаве яны выдаюць некальки книжок. У1569 годзе Мсьциславец едзе ў Вильню, дзе и распачынае сваю друкарскую дзейнасьць у Мамоничаў и з дапамогай братоў Зарэцких друкуе шмат книжок, у прыватнасьци "Четвероевангелие".

У 1576 годзе Кузьма Мамонич, навучыўшыся сам друкаваць, пачаў абыходзицца и бяз Мсьцислаўца, пра якога ўжо ад гэтага часу няма нияких вестках.

Пасьля сьмерци Лукаша Мамонича -- скарбнага Вяликага Княст-

ва̄й ягонага брата Кузьмы за гаспадара друкарни даўги час быў Кузьмоў сын -- Лявон Мамонич, яки ўжо афицыйна, дзяржаўным указам 1576 году иманаваўся каралеўским друкаром и тольки адзин меў права друкаваць и прадаваць книги. Гэты прывилей быў пацьверджаны Сьцяпанам Батурам у 1586 годзе. Больш за 53 книги надрукавана было ў друкарни братоў Мамоничаў, у тым лику и Литоўски статут 1588 году.Канкурэнтами Мамоничаў были брацкая друкарня пры манастыры Сьвятога Духу, радзивилаўская друкарня ды иншыя, што пачали працаваць у 1596 годзе.У мэтах пашырэньня свайго веравызнаньня закладали свае друкарни Тышкевичы,Кишки,Радзивилы,Валовичы,Сапеги ды иншыя.Гэтак Микалай Радзивил Чорны ў 1558 годзе ва ўласнай друкарни ў Берасьци выдаў званую пасьля Радзивилаўскай, ци Берасьцейскай, "Библию".Узьникли друкарни ў Супрасьли , Гарадзеншчыне, Еўи (друкарня Багдана Агинскага), Дзярэчыне, Крошыне, Слониме, Гарадку ды иншых мясьцинах.

На канец шаснаццатага и пачатак сямнаццатага стагодзь - дзяў прыпадае найбольш старадаўних беларуских книжок.Сярод их варта адзначыць школьныя падручники, лемантары,навуковую литаратуру, як, напрыклад, граматыки Лаўрэна Зизания (Вильня,1596 г.) и Малета(Максима) Сматрыцкага,што выйшла ў Еўи у 1616 г., слоўник Палевы Барынды, ведамы ў 1627 г. и перадрукаваны ў 1653 годзе ў Куцеинскай друкарни Собаля на Магилеўшчыне, "як патрэбны и пажытэчны многим".

Асаблива варта нагадаць и з нацыянальнай пашанаю ўспомниць тут выдатны помник беларускай литаратурнай мовы 16--га стагодзьдзя и найстарэйшую спробу беларускае лексикаграфии-- слоўник Лаўрэна Зизания, яки быў надрукаваны пад назовам "Лексис", як дадатак да ягонае "Граматыки словенскай", што выйшла з друку ў Вильни ў 1596 годзе (у гэтым-жа годзе выйшла книга таго-ж аўтара -- "Навука до читаньня").Выдатны беларуски дзеяч тагачаснай Беларуси, яки жыў у Вильни,Берасьци ды иншых мясцох свайго краю, ведамы разам са сваим братам С.Зизанием, як змагар супроць палянизацыи беларусаў, Лаўрэн Зизани цаканала ведаў жывыя народныя гаворки, народную мову. У сваим "Лексисе" ён сабраў больш тысячы старас - лавянских словаў и пераклаў их у сучасную яму беларускую мову, вытлумачваючы часам адно стара-славянскае слова колькими беларускими словами, чэрпаючы са слоўнага сынанимнага багацьця беларускае мовы. Пераважная бальшыня пададзеных Лаўрэнам Зизанием беларуских словаў спатыкаецца и ў сучаснай беларускай мове, што сьветчыць пра навуковую вартасьць працы гэтага даўняга беларускага мовазнаўцы, яки чакае яшчэ свайго дасьледника (гл. кароткае аписаньне слоўника Л.Зизания, яки стаў библиаграфичнай рэдкасьцяй, у артыкуле О.В.Боўк-Левановича "Кароткия заўваги на некаторыя помники беларускае мовы"--записки клясы филялёгии Беларускай Акадэмии Навук, т.2-ги,бал.146--147).

"Лексис" Зизания яшчэ раз гаворыць аб тым высоким узроўни, на яки ў сваим бязупынным удасканаленьни так рана ўзьнялася была беларуская мова ў тыя часы и яки стаўляе яе ў шэраг культурных зьяваў, якими народ мае падставы ганарыцца. Тым больш, што расейская литаратурная мова стварылася значна пазьней, тольки ў восемнаццатым и пачатку дзевятнаццатага стагодзьдзя, и моцныя падвалины да яе заклаў ведамы вучоны

й письменьник сямнаццатага стагодзьдзя, зноў-такі беларус , родам з Полацку, гадунец Киева-Магилянскай Акадэмии -- Сымон Полацки ( Пятроўски-Ситнянович ), што жыў з 1629 да 1680 году и быў запрошаны з Полацку ў Маскву царом Аляксеем пашырыць асьвету. Сымон Полацки праз свае творы увёў у расейскую мову шмат беларуских словаў, якия пасьля, прывиўшыся ў ёй, давали расейским вяликадзяржаўникам ад мовазнаўства лишния"падставы" ўважаць беларускую мову за"дыялект" расейскай мовы, памылковасьць чаго зусим зразумелая чалавеку, яки хоць трохи знаёмы зь гисторыяй усходня-славянских моваў, гисторыяй беларускай и расейскай моваў у прыватнасьци.

= = = = = = = = =
= = = = = = = =
= = = = = = =
= = = = = =
= = = =
= = =
= =
=

XXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXX
XXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXX

А. Грыцук

# БЕЛАРУСЬ і польска-швэдзкая вайна (1655 - 1660)



ЯСПРЫЯЛЬНЫЯ палітычныя абставіны для Вялікага Княства Літоўскага ў шаснаццатым стагодзьдзі, выкліканыя хуткім ростам Маскоўскай дзяржавы з аднаго боку й інтрыгамі Польшчы з другога, а таксама згоднасьць украінскіх вяльможаў злучыцца з Польшчай, спрычыніліся да таго, што Вялікае Княства Літоўскае змушанае было падпісаць у 1569 годзе нявыгадную для яго Люблінскую вунію. Акт гэты быў вынікам цэлага шэрагу дыплёматычных дамаганьняў Польшчы ўсьцяж пятнаццатага й паловы шаснаццатага стагодзьдзяў. Польшча мела цяпер адчыненыя насьцеж дзьверы для генэральнага наступу на Вялікае Княства Літоўскае. Экспансія пачалася адначасна з рэлігійнага й палітычнага боку.

Аднэй зь вельмі важных пастановаў Люблінскай вуніі было тое, што беларуская праваслаўная шляхта й беларускае духавенства ня мелі тых правоў, якія атрымалі каталікі. Гэта разьбіла беларускі народ на дзьве варожыя сабе часткі. Варожасьць гэту паглыбляў яшчэ насланы сюды каталіцкі ордэн езуітаў, які праводзіў выразную каталіцка-польскую палітыку. Рэлігійная нецярпімасьць каталіцкага духавенства й насланых польскіх паноў зрабіла тое, што беларускае праваслаўнае насельніцтва пачало выразна схіляцца ў бок аднавернае Масквы, якая ўжо тады пачала лічыць сябе абаронцай праваслаўнае веры, беларусы-ж каталікі больш сымпатызавалі палякам. Бачачы гэты разлом, беларускія дзяржаўныя мужы пачалі думаць аб ратунку загрожанай бацькаўшчыны.

Вунія праваслаўнай і каталіцкай цэркваў, падпісаная ў Берасьці у 1595 годзе, дала надзею на ўтварэньне адзінай беларускай нацыянальнай царквы і прыпыненьня рэлігійнага раздваеньня ў народзе. Аднак, калі палякі пачалі выкарыстоўваць вунію, як прыладзьдзе да яшчэ большай палянізацыі, беларусы адкінуліся ад яе. Паўстала яшчэ большая рэлігійная неразьбярыха. На месца дзьвюх былі на Беларусі ўжо тры рэлігіі, што паміж сабой вялі заўзятую барацьбу.

Тымчасам на сцэне палітычных разгрывак у Вялікім Княсьцьве Літоўскім зьявіўся новы чыньнік, які адыграў у нашай гісторыі даволі важную ролю. Чыньнікам гэтым была рэфармацыя.

Рэфармацыя філязофічнай думкі на Захадзе стрэсла пазд ром з заскарупелых схалястычных мазгоў і паставіла яго на новыя рэйкі. Ахапіла яна ўсе галіны тагачаснага жыцьця, а

таксама рэлигию.Ейны новы сьвежы подых даляцеў и да Беларуси. Беларуская моладзь, што студыявала на замежных унивэрсытэтах, прывозила да краю гэтыя "рэлигийныя навинки" и з запалам их распаўсюджвала.У хутким часе большасьць интэлигенцыи, пераважна са шляхты, прыняла новую рэлигию.Была нават сярод патрыётаў думка стварыць з пратэстантызму беларускую нацыянальную рэлигию, якая ня мела-б ничога супольнага ни з Масквой, ни з Польшчай. Гэтага, аднак, не пашчасьцила ажыцьцёвиць и пратэстантызм надалей застаўся рэлигияй людзей асьвечаных.

Тымчасам рэлигийны перасьлед праваслаўных з боку польских каталицких фанатыкаў на Беларуси ня спыняўся,и зрушане з цярпливасьци мяшчанства ды сялянства пачали штоаразу часьцей зрывацца да збройных паўстаньняў. Были яны,аднак, крывава здушаныя. Але и Польшча трапила ў цяжкое становишча. Прычынай гэтаму быў бунт Хмяльницкага, вайна з "абаронцам" праваслаўных беларусаў маскоўским царом и найцяжэйшая вайна са Швэдыяй. Для лепшага ўяўленьня сытуацыи мусим успомниць пра агульнае тадышняе становишча ў Эўропе.

Рэфармацыя на рэлигийным поли падзялила ўсю заходнюю Эўропу на два варожыя сабе лягеры, якия зь вяликим фанатызмам змагалися памиж сабою. Барацьба гэтая давяла да варфаламееўских ночаў у Францыи и трыццацигадовых цяжких змаганьняў на тэрыторыи Нямеччыны. Начале каталикоў стаяла Францыя. За правадыра пратэстантаў была Швэдыя. Польшча была на баку каталикоў.

У часе, кали ў Швэдыи адбываўся рэлигийны бяскрывавы пераварот, у аб'яднанай Польска-Литоўскай дзяржаве памёр астатни кароль з роду Ягельлёнаў Зыгмунт.Пасьля няўдалага выбару на караля францускага Генрыка, пасад злучанай дзяржавы абняў швэдзки Зыгмунт 3-ци з роду Ваза, зацяты каталик и выхаванец езуитаў. Рэлигийны разлад яшчэ больш павяличыўся. Гэта канчаткова адсунула беларуских магнатаў и шляхту, якия были тады ў большасьци ўжо пратэстантами ад Польшчы,и змусила их шукаць сабе иншага моцнага хаўрусьника. Выбар выпаў на Швэдыю, якая мела разрахункі з Вазами за тое, што яны нияк не хацели зрачыся прэтэнзияў да швэдзкага [illegible]. Начале незадаволеных беларуских паноў стаяў пра- вадыр пратэстантаў вялики Князь Януш Радзивил.Гэты князь , патомак Гедымина паводля крыви, ня мог раўнаважна глядзець на заняпад свае слаўнае калисьци бацькаўшчыны, што дасталася ў руки чужынцам, якия яўна стаpалися замяниць калисьци гордую Литву на звычайную правинцыю дзяржавы, нядаўна яшчэ ня вельми вяликай. Януш Радзивил, як гистарычна ўпраўнены да пасаду Вяликага Литоўскага Князя, пачуваў сябе за абавязанага стаць на абарону сваёй дзяржавы и вярнуць ёй сувэрэннасьць и даўнейшую славу. Ён ня мог абминуць ниводнае нагоды, якая магла-б дапамагчы яму ўрэчаисьниць ягоныя пляны. А нагода была.

На швэдзки каралеўски пасад прыйшоў новы малады и энэргичны кароль Карл 10-ы. Ён захацеў раз назаўсёды разьличыцца з Вазами, якия были пры польским пасадз абаронцами каталицызму ў сярэдняй Эўропе. Каб стукнуць на Польшчу з усих бакоў, ён падписаў хаўрус зь Юрым Ракочым, князем Семигародзким, и з царом Маскоўским, и пачаў перамовы з Хмяльниц -

кім, які на той час паддаўся Маскве. Здавалася, што дзяржава Вазаў будзе канчаткова разьбітая і на ейных друзах вырастуць новыя дзяржаўныя арганізмы: Украіна і адроджанае Вялікае Літоўскае Княства -- Беларусь. Гэтакай нагоды ня мог ня выкарыстаць Януш Радзівіл. Ён, як Вялікі Гетман Літоўскі, маючы пад сваім загадам найлепшае войска Рэчы Паспалітай -- літоўскія палкі, мог свaёй паставай перахіліць у значнай меры шальку перамогі ў той ці іншы бок. Такі хаўрусьнік патрэбен быў і Швэдам. Скіраваны да Радзівіла ўвесну 1655 г. швэдзкі пасланьнік падпісаў зь ім у Кэйданах на Жмудзі ўмову ад імя Карла 10-га Густава, на падставе якой Вялікае Княства зракалася на карысьць Швэдыі Лівоніі ( Інфлянтаў ) і прызнавала анэксію Швэдамі польскага памор'я. Таксама была прызнана незалежнасьць Украіны. Узамен за гэта Вялікае Літоўскае Княства прызнавалася, як самастойная дзяржава ў цесным хаўрусе са Швэдыяй. Януш Радзівіл думаў быць за караля Літвы(Беларусі). Падляшша мела адыйсьці да Вялікага Княства.

Быў выпрацаваны плян нападу на Польшчу. Швэдзкія войскі мелі перайсьці граніцу Рэчы Паспалітай з трох бакоў: адна армія -- на Літву, другая з боку швэдзкага памор'я -- на Пазнаншчыну, трэйцяя з мора -- на Прусію і Данцыг. Адначасна Хмяльніцкі меў пачаць наступ з Надднепраншчыны, а Юры Ракочы -- з паўдня... Плян быў добра складзены і меў пэўныя падставы на хуткае выкананьне. Аднак, ня ўсё выйшла паводля пляну. Хмяльніцкі быў зьвязаны хаўрусам з Маскоўшчынай і ня мог адразу выступіць супроць Польшчы, а Ракочы меў даволі клопатаў з Турэччынай і ня быў падрыхтаваны да вайны, ды яшчэ, апрача гэтага, і Хмяльніцкі, і Ракочы чакалі выніку першых ваенных падзеяў.

Па падпісаньні ўмовы зь Янушам Радзівілам, паўночная група швэдзкіх войскаў увайшла ў межы Рэчы Паспалітай і, не спаткаўшы апоры, рушыла на Варшаву. Літоўскае войска, што было пад камандаваньнем Януша Радзівіла і ягонага брата Багуслава, перайшло, за выняткам невялікай колькасьці асобаў, на бок Карла 10-га. Амаль гэткі-ж самы посьпех мела і заходняя група швэдзкіх войскаў. Паспалітае выступленьне Пазнаншчыны, непрызвычаенае да вайны, вырашыла лепш паддацца Швэдыі, чым ся страціць надыходзячае жніво.

Дарога ў сэрца Польшчы была адчыненая. Усьцяж 1655 г. і пачатку 1656 -га амаль уся Польшча дасталася Швэдам. Кароль Польшчы Ян Казімер Ваза змушаны быў уцякаць на Сілезію.

Пазьней, аднак, шчасьце пачало адыходзіць ад Швэдаў. Палякам пашчасьціла дыплёматычным шляхам адцягнуць ад хаўрусу з Карлам 10-ым маскоўскага цара. Палякі яму абяцалі польскую карону і згаджаліся на злучэньне Вялікага Княства Маскоўскага ў адну дзяржаву з Рэчай Паспалітай (Літвой і Каронай). Цару Аляксею падабаўся гэты праект і ён ахвотна пагадзіўся на яго. Занепакоеная ваеннымі посьпехамі Швэдыі, Масква пачала яе баяцца. У выпадку разгрому Польшчы і ўтварэньня цеснага Літоўска-Швэдзкага хаўрусу, Масква мусіла-б разьвітацца з думкаю стаць моцнай ступой на берагох Бальтыцкага мора. Швэдыя таксама ведала, што Масква -- ненадзейны хаўрусьнік для яе і дзеля гэтага націскала на Хмяльніцкага, каб той хутчэй пакідаў Маскву і разам з сямігародзкім князем Ракочым стукнуў па Польшчы. Увесну 1657 году пачаўся генэраль-

ны канцэнтрычны наступ на Варшаву. Аднак, было ўжо позна. Паляки мели цяпер моцныя сувязи з Масквой, татарами и Прусияй. Супольна з татарами паляки разьбили Ракочыя и прагнали яго за Карпаты. Хмяльницки таксама ня быў страшны. Сам ён быў хворы, и выслаў тольки ў Галицыю палкоўника Ждановича з трыма казацкими палками. Нязгода памиж камандзирами давяла да таго, што Жданович адступиў назад, ничога не зрабиўшы. И гэтак увесь цяжар вайны лёг цяпер на плечы Карла 10-га и Януша Радзивила. У трохдзённай бицьве пад Варшавай супольныя швэдзка-литоўския войски были разьбитыя и Карл 10-ы з часткай швэдзких войскаў адступаў на Прусию, а Януш Радзивил начале астаткаў швэдзких войскаў и литоўских палкоў адступаў на Литву.

Тымчасам сярод литоўских паноў [illegible] незадавальненьне да швэдаў. Каталицкия и праваслаўныя вяльможы не хацели [illegible] ци са Швэдыяй; им думалася, што Карл 10-ты не абяцаў Лицьве поўнае незалежнасьци, а тольки браў пад свой пратэктарат [illegible] ны пачали адзин па другим пакидаць Януша Радзивила и пер[illegible] ходзиць на бок Польшчы, якая абяцала им новыя прывилеи. А просты народ таксама паўставаў супроць швэдаў, якия [illegible] грабунки мирнага жыхарства. Сытуацыя Радзивила абцяжарвалася. Польския войски, што адступали, асадзили пагранichныя литоўския гарады Тыкацин и Беласток. Януш Радзивил не перажыў ужо капитуляцыи гэтых гарадоў. Хворы и вычарпаны нэрвова ён памёр у Тыкацинским замку ў часе аблоги яго палякамi. Пасьля ягонай сьмерци астатки войскаў перайшли на бок палякаў и разам зь ими дабивали ўжо швэдаў.

Карл 10-ты вайну прайграў. У 1660 годзе быў падписаны ў горадзе Оливе каля Данцыгу мир. На падставе яго памиж Польшчай и Швэдыяй фактычна ўстанавиўся стан, яки быў перад вайной. Польския карали зракалися праваў да швэдзкага пасаду, а Швэдыя ня мела больш прэтэнзияў да Инфлянтаў.

Гисторыки парознаму ацэньваюць Януша Радзивила. Паляки ўважаюць яго за зрадника. Ничога дзиўнага. Яны глядзели ўжо тады на Рэч Паспалитую, як на адну непадзельную польскую дзяржаву, и той, хто падымаўся супроць ейнай цэласьци, быў у ейным уяўленьни ворагам и зрадникам. З нашага гледзишча Радзивил зьяўляецца вяликай асобай, якая выяўляла незалежницкия имкненьни беларускага народу и змагалася за ягоныя правы. Нажаль, беларуская шляхта и магнаты не зразумели гэтага. За ихную недалёкабачнасьць беларуски народ заплациў и яшчэ плациць даўгими гадами няволи.

ж ж ж ж ж ж ж ж ж ж ж ж ж ж ж ж ж ж

М. Дварэцкі

# Янка Купала

/1882 — 1943/



1905 годзе на балонках расейскае газэты "Северо-Западный Край" (гэтак расейскае самаўладзтва афицыйна называла Беларусь), што выдавалася ў Менску, зьявіўся ў беларускай мове верш "Мужык". Аўтарам вершу быў Янка Купала, сын никому няведамага дробнага беларускага шляхцица, арандатара Даминика Луцэвича — Иван Луцэвич. Верш не вызначаўся ни асабливаю формаю, ни сьвежасьцю тэмы, и цяжка было што-небудзь сказаць пра посьпех будучага паэты на беларускай литаратурнай ниве, бяручы на ўвагу абставины часу и палитыку расейскага самаўладзтва. Аднак, моцна памылилися выдаўцы газэты, думаючы, што верш "Мужык" абнижае годнасьць мужыка-селянина, беларуса, и што ён написаны па пацеху людзям гэтак званае "вышэйшае пробы"... Зусим инакш сустрэла зьяўленьне новага, маладога паэты ў асобе Янки Купалы ды инакш зразумела зьмест ягонага "Мужыка" нацыянальна-рэвалюцыйная беларуская интэлигенцыя. У першым голасе паэты пачула яна голас горкае праўды беларуса, знаёмы голас ведамай нашаму народу "Мужыцкае праўды" вяликага народнага змагара за незалежнасьць Беларуси Кастуся Калиноўскага. Пазнаў и мужык самога сябе, разумеючы, што месца цярпливасьци и галечы мусиць заступиць ягоная сила и права ў змаганьни за права на жыцьцё, за права быць гаспадаром сваёй роднай зямли, за права "чалавекам звацца".

Гэтакия-ж багатыя зьместам, тольки розныя формаю, але простыя и близкия да народнае беларускае творчасьци, высокамастацкия вершы Янки Купалы ўсё часьцей и часьцей пачали зьяўляцца ў пэрыядычным друку и неўзабаве заняли яны паважнае месца ў тагачасных беларуских газэтах "Наша доля" и "Наша нива" (супрацоўникам апошняе з 1908 году быў и сам паэта). И трэба адзначыць, што неўзабаве и сам Купала, як паэта, займае сваё асобнае, апрычонае месца ў беларускай литаратуры. Кожны новы верш адразу браў на сябе ўвагу беларуских чытачоў и аб'ектыўных крытыкаў, прыхильникаў и варожа настаўленых да друкаванага беларускага слова людзей, абываталяў и носьбитаў русыфикацыи на беларуских землях. Для адных вершы Купалы станавили настольную книгу ихнага жыцьця и ўспрыймалися, як зброя ў барацьбе з доляю прыгнёту за свае правы, а для других станавили яны небясьпеку и ўспрыймалися, як абвинаваўчы акт доли ў палитыцы прыгнёту беларуса; адных творчасьць Янки Купалы выхоўвала ў духу справядливасьци и нацыянальнае сьведамасьци, а других папярэджвала и пераймала ў варожых намерах, выкрываючы сутнасьць замаскаванага

паходу супраць усяго беларускага на шляху паходу
за вызваленьне Беларуси.

Янка Купала-паэта рэалисти.Уся ягоная творчасьць,пачынаючы тым самым "Мужиком",поўнасьцю абумоўлена запраўдным станам свайго народу и сваё бацькаўшчины.И таму ня дзива,што ягоныя вершы, асаблива ў першыя гади творчасьци, были сумными и,як кажуць,"цяжкими".Хиба-ж можна было шукаць у их радасьци и сьмеху,кали цяжким и сумным било само жыцьцё?Нельга било.У тым суме и той цяжыни якраз и палягала сила Янки Купалы.Хто-ж,як ня ён,найлепш,найпаўней паказаў глыбиню трагизму абяздоленага беларускага народу?Хто-ж,як ня ён,прыйшоўшы ад зямли ў сьвет,не адарваўшыся ад зямли, найлепш и найглыбей разумеў исилу зямли,и цяжкасьць узьлёту ў надзем'е?И сапраўди,лепш горкая праўда,як фальшывая,беспадстаўная ўцеха.Часта гаварыў пра гэта и сам паэта ў сваих вершах,а асаблива ў тых,у якиих даваў адказ на зробленыя яму закиды пра [illegible] тугу и сум у першыя гады творчасьци.Аднак,ёсьць у вершах Янки Купалы и сьмех,але гэта горки сьмех беларуса,сьмех над скупой доляй-мачахай, гираничны сьмех,спадарожник гневу,яки нават у самыя цяжкия часы жыцьця,жыбы той сонечны прамень над скутаю ильдами зямлёю,сьлизгане па змрочным твары и чалавеку хочацца сказаць,гледзячи ў вочы крывапиўца:"Пажджы,будзе яшчэ кирмаш и на нашай вулицы!..И вось гэты чалавек,селянин, з вуснаў якога выходзиў горки сьмех душы,быў и найлепшым крытыкам Купалавага слова.Яки-б верш мы ни ўзяли и ни прачытали яго простаму,нават [illegible]пісьменнаму селянину,як адразу,не чакаючы,пачуем высновак:"Што праўда,то праўда:якраз як у нас,от як тут и быў гэты письменьник..."Так яно было, так яно и ёсьць!И даўно ўжо пара сказаць,што слава да Купалы прыйшла ня зь верху,не ад прафэсыйнае крытыки,не ад литаратараў,а зь низоў--ад селянина,ад народу;ня голас крытыки ишоў у низы,у народ,а голас низоў,голас народу ишоў да крытыкаў и перайм[illegible]ўся крытыкай.

Сила мастацкага слова и голасу паэты расла и мацнела з кожным днём.И кали ад паказу характэрных зьяў,пад'ярэмнага жыцьця беларуса,сапраўднага стану рэчаў,раскрыцьця ў меру творчых и [illegible]рных магчымасьцяў вершу сацыяльна-эканамичнага и нацыянальна-палитычнага прыгнёту пераходзиў да рэвалюцыйнага заклику,у асобе паэты--"пана сахи и касы"--уставаў вобраз Купалы-трыбуна.Аднак и ў вершах абуджэньня гневу,у вершах заклику--веўсёды и ўсюды--паэта заставаўся разважливым и глыбокадумным лирыкам,паэтам душы и сэрца.[illegible] ня было [illegible] ў той [illegible], чым жыў працоўны,прыгнечаны жыцьцём чалавек.Вось чаму кожны новы твор Янки Купалы сустракаўся зь вялікай цикавасьцяй и заставаўся ў памяци ягонага чытача.А гэта ўжо гаворыць пра многае и гаворыць,безумоўна,у карысьць паэты.И кали шмат якия вершы перакладалися близу не на ўсе мовы славянских народаў,а часам и на мовы иншых народаў, далёких,дык гэта якраз и гаварыла пра вартасьць и

значэньне творчасьци Янки Купалы, пра тое, што яна блізка прападуляла и да сэрца иншых паняволеных самауладзтвам народаў. А калі голас Купалы выходзіў за межы "Северо-Западного Края"-- Беларусі, рабіў уплыў и знаходзіў гарачы водгук иншых творцаў, дык гэта, у сваю чаргу, гаварыла ўжо, што паэта стаяў на вышыні зацаньняў свайго часу, жыў перадавыми идэями и змагаўся за гэтыя перадавыя идэи часу, што паэта быў глыбока нацыянальным, народным паэтам Беларусі.

Нацыянальна-вызвольны рух беларускага народу, які пад уплывам эўрапэйских рэформаў и свабодаў набраў сілаў и вылиўся ў стыхийную рэвалюцыю у 1905 годзе, знайшоў свае вы разнае адлюстраваньне у невяликим, але надзвычайна моцным вершы бурны дыялягу--"А хто там идзе?". Паэта пытаецца:

"А хто там идзе, а хто там идзе
У вагромнистай такой грамадзе?
--Беларусы!"

-- Гэтаки адказ даваў гэты народ, нясучы "на сьвет цэлы" на руках у крыви "крыўду ўсю", а пабудзили яго--20-ци мильлённы народ-- и навучыли несьци крыўду напаказ сьвету-- "бяда, гора."

"А чаго, чаго захацелася им,
Пагарджаным век, им сьляпым, глухим?
--Людзьми звацца!"

Якая-ж вяликая сила захована ў гэтым простым и, адначасна, лёканичным адказе народу! Тут и найвялікшы трагизм людзей, якия хочуць "людзьми звацца" и набалелы крык душы людзкой, што за душу людзкую не ўважаецца...Першым у гисторыи беларускае литаратуры гэтак--разам са сваим народам и голасам самога народу--загаварыў Янка Купала.Элемэнты Марцынкевичавай прымирливасьци мужыка и пана шляхам маральнага ўзьдзеяньня и спасылак на прыклады гуманнасьци амаль што не займали месца ў творчасьци Купалы;а зварот--"пажалей ты яго,сираты",не становиць ни просьбы да пана-экспләататара и расейскага самаўладзтва,ни ўгавору,гэта--патрабаваньне, ультыматум,бо инакш беларуски народ

..."за крыўду сваю адамсьциць,--
Сьвиньням будзе крыви не пабраць,
Адамсьциць,аж зямля задрыжыць,
Аж вихры зашумяць,загудзяць!"
"Пажалей"

...у 1908 годзе Янка Купала выдаў сваю першую книжку вершаў пад назовам "Жалейка".Таким парадкам,нядаўны "мужык-беларус,пан сахи и касы",цяпер ужо ведамы шыроким беларуским и иншаславянским колам паэта,узбагачае скарбницу беларускае нацыянальнае литаратуры плодам свае трохгадовае творчае працы.Аўтар,гаворачы пра самога сябе,писаў:

"Я не паэта,а крый мяне Божа,
Ня рвуся я к славе гэткай ня мала,
Хоць песеньку-думку и высную можа,
Завуся я тольки Янка Купала"...

И гэта была шчырая праўда,Купала,становячыся на литаратурны шлях,не спацяшаў сябе словам "паэта",а стаўшы,и нават зрабиўшы моцны сьлед,--выдаючы "Жалейку",не ўважаў сябе за паэту ў литаральным разуменьни гэтага значэньня,ня думаў аб славе,и слава не спакушала яго,бо ён--"тольки Янка Купа-

ла",а не паэта вечных тэмаў,не паэта насалоды и уцехи;ён--сын свайго народу,зь яким разам падзяляе и гора,и бяду,и вокамгненную радасьць;ён--паэта-пясьняр,паэта жыцьця--вяликага,складанага,скурбога жыцьця беларускага народу;яго-ная лира--шматструнная,глыбокагучная лира народу.И ў гэтым няцяжка пераканацца;варта адно перачытаць яшчэ раз усё створанае им да 1930 году,як мы адчуем и ўбачым усе пера-пэтыи душы:и сьпеўна-сумную,и сьпеўна-гнеўную,и сьпеўна-запальную,баёвую лиру.А гэта-ж усё разам узятае и гаворыць якраз за тое,што Янка Купала--перадавы творца беларускага народу.И трэба сказаць,што "Жалейка" якраз и была першым атэстатам сьпеласьци паэты.Аднак,бяручы ў руки гэты "атэстат",нельга забывацца,што ён быў плодам-выникам першага творчага гарэньня маладое ўспрыймальнае душы и плодам-выникам творчых шуканьняў паэты.Гэтая акаличнасьць,як кажуць, ставиць нас на шлях аб'ектыўнага вызначэньня гэнэзису и значэньня "Жалейки"и мы выразьней бачым аснову асноў зьмешчаных у "Жалейцы" твораў--агульналюдзкия и нацыянальна-вызвольныя матывы,што,думаецца нам,ближэй да сутнасьци и мае большае значэньне,чым "значны крок наперад у разьвицьци народницкага натурализму Мацея Бурачка",як гаварыли некаторыя крытыки пра вершы,зьмешчаныя ў "Жалейцы".А кали ўзяць яшчэ на ўвагу няўдачу рэвалюцыи 1905 году и ўявиць пазбаўленую роднага имя нашу Бацькаўшчыну,якой гвалтам быў накинены назоў "Северо-Западный Край",дык зразумелыми становяцца и перапевы асобных тэмаў,и прамежны пэсымизм, и глыбоки трагизм у таких вершах,як "Над свайй айчызнай", дзе паэта пытаецца:

"Дзе-ж мой дом,дзе-ж мой люд,
Дзе-ж айчызна мая?".

Тэма ўкрадзенага дому и запаспенелае айчызны парушалася не ў адным вершы--парушалася и ў вершах, и ў асобных паэмах, и ў гэтым ня было ни пэсымизму, ни ўпадництва, гэта быў плач разгневанае душы, што пераклікаўся з плачами даўних беларуских старцаў аб лёсе свае бацькаўшчыны.

Другая кніжка вершаў Купалы--"Гусляр"--выйшла ў 1910 годзе. У гэты час паэта вучыўся на чатырохгадовых агульна-асьветных курсах у Пецярбургу. У "Гуслары", як и у "Жалейцы", знаходзим и "натурализм Мацея Бурачка", и элементы суму, и элементы "безнадзейнасьци", як мели моду ужываць гэты тэрмин крытыки на землях нашае бацькаўшчыны. И чуем мы плач гусьляра, той унутраны плач, кали плача тобьи душа, а вочы глыбокадумна глядзяць на скрываўленую зямлю и па-арлинаму ўпиваюцца ў затуманеную далеч часу... Вочы ня плачуць, бо "хацеў-бы заплакаць, ды ня выцисьнеш сьлёз", як гаварыў перад гэтым сам паэта. И мы добра разумеем гэтаки стан. Гэта крытычны, выпрабавальны мамэнт, мамэнт тае крайницы, кали, звычайна, вырашаецца вытрываласьць душы, вагаючыся памиж безнадзейнай роспаччу и змогай далейшае барацьбы за иснаваньне, барацьбы за зьдзяйсьненьне пэўных идэалаў. У гэтаким стане апынуўся быў Купала пасьля няудалае спробы рэвалюцыи 1905 году. Аднак, безнадзейная роспач не спрычынилася да творчасьци паэты,--яна была пераможнай змогай барацьбы за иснаваньне, за зьдзяйсьненьне идэлаў свайго беларускага народу. Верш "За годам год" бадай што

и быў самым характэрным вершам згаданае нами крайницы:

"За годам год, за родам род,
Што хвали хмар, што плесьни вод,
Па зьменах зьмен, на ўсход на сход
Идзе-брыдзе на быт, на звод"...

Але ни цяжкия гады палитычнай рэакцыи, ни спад нацыянальна-рэвалюцыйнага змаганьня ня зьбили са шляху Янки Купалы; ня згубиў ён ни меры алчуваньня сьвету,ни сэнсу жыцьця;ён жыве надзеяй на прыйсьце сьветлае будучыни,верыць,што ў братних сэрцах яшча "разгарацца агни", што "думы новай пальлюцца крыницай". А пра гэта сьведчыць верш "Адгукнися,душа!".

"Адгукнися, душа, песьняй звонкай грымни!
Няхай песьня зь вихрами памчыцца;
Ў братних сэрцах няхай разгарацца агни,
Думы новай пальлюцца крыницай."

Мели месца, казаў той, и спады и перапады, але не спадала и не перападала идэя нацыянальнага беларускага адраджэньня. Яна была той рухаючай силай сэрца , якая будзила, узымала и вяла паэту на шлях няўтомнага змаганьня за вольную и незалежную Беларусь. И паэта-адраджэнец, паэта-барацьбит, моцна удараючи па струнах-званах свае лиры, валадарна паказвае народу "к сонцу зорны шлях", паказвае, клича и пануе над масами силаю чароўнае музыки свайго несьмяротнага "Гусьляра". Шкада што зь нястачы фактычнага матар'ялу ня маем мы змоги апэраваць адпаведными прыкладами и ўдавацца ў шыроки разгляд и анализ творчасьци.

У трэцяй книжцы твораў "Шляхам жыцьця" ўва ўсёй величы выявилася творчая сила паэты, сила голасу вяликага трыбуна-патрыёта Янки Купалы. У творах--вершах и паэмах--на гистарычныя тэмы Купала паказаў сучасьникам усю сваю силу, славу и велич нашае минуўшчыны. А была яна вось якой;

"Буйным жыцьцём усё чыста кипела,
Слава далёка за мора ишла.
Ворага кожны за плечы брау сьмела,
Цемра чужынцаў ня страшна была".

Вось яна, нашая даўнина--гады залатога беларускага веку! Вось якой была яна--адвага беларуса! Вось якой вяликай была яна--слава народу! Нибы тыя сьветла-блакитныя воды Нёману, кацилася яна з нашых земляў за моры и горы ў далёки бел-сьвет. И не выпадкова, видаць, выказваў Купала думы гэтыя ў верши "Над Нёманам".

Асабливае ўваги заслугоўвае пад гэтым поглядам паэма "На куцьцю", якае мае ў сабе 12 невяликих часьцин. Усё, пададзенае ў паэме, адбываецца не ў гады слаўнай беларускай дзяржаўнасьци, не ў гады "залатога веку",а значна пазьней, тады, кали "другия наш пасад заняли", кали другия баги /земныя/ брали верх и вяли суды над нашым краем. И хоць "глуш абнялася з цишынёй", хоць "заныла ўсё, замёрла ўсё", але ня спала адвечнае замчышча, и там, "у вагнях старога папялишча", пачыналася жыцьцё.

..."На бел-сьвет дзивы выпраўляць
Плянецца ночка-чараўница"..

Гэта сьвяты вечар, вечар згадак, успаминаў, мрояў и сардэчных пажаданьняў, гэта той вечар, кали

"Духи минуўшчыны куцьцю
На старасьвецки лад спраўляюць.

Даўно бываламу жыцьцю
Дары належныя складаюць."

И от на пасад усходзиць князь и княжна.
Агни брыльлянтаў, як зарниц,
Зияюць з княжескай кароны,--
Краса б'е з князеўных зраниц,
Як блеск маланак развуглёны."

За ими--пачэсны рад слугаў. Князь абводзиць усих "саколим вокам", выпивае да дна "коўш соладка вина" и трымае прамову. Потым загадвае паклликаць ганцоў "ад нашых стоптаных капцоў", каб ганцы расказали, што там чуваць. Ўваходзяць ганцы, кланяюцца князю и княжне.

"А першы гэтки сьветлы быў,
Як небам сланыя праменьни:
Ў руцэ меў сьветач, што на зьдзиў
Усе усюдах зводзиў цени.
А быў други и з ног, и з рук,
Як гром з жывыми перунами:
У руцэ меў стрэл жалезных пук
И лук стальны меў за плячами.
А трэци быў и раб, и цар,
И слаб, и дуж ўва усяким дзеле,
Як вечнасьць, молад быў и стар;
Меў гусьли--на грудзёх висели."

Першы ганец апавядае, што ен абыйшоў усих тры разы и бачыў, што яны ўсе жывы, але наўкола--цемра. "А як ишоў миж их з сьвятлом",--кажа ганец,--

"За мною ўсьцяж и тут, и там
"Их вусны бледныя шаптали:
"Аддайце сонца наша нам!
"Нашто схавали--расхватали?"

"Я абыйшоў их тройчы раз", --кажа други ганец, -- "И бачыў, што яны ўсе жывы", але яны "топчуць тольки ўсё той сьлед, валочуць ёрмы за сабой... А як чапнуў стралой аб лук, яны скранулися ў прасоньни" и--

"За мной усьцяж и тут, и там
"Их вусны бледныя шаптали:
"Аддайце славу нашу нам!
"Нашто схавали--расхватали?"

Сказаў и трэци ганец, што "абыйшоў их тройчы раз и бачыў, што яны ўсе жывы," але "тольки торг усё идзе над их душою патаптанай... А як ударыў па струне, замитусилися, як пчолы", и--

"За мною ўсьцяж и тут, и там
"Их вусны бледныя шаптали:
"Аддайце песьню нашу нам!
"Нашто схавали--расхватали?"

Змоўкли ганцы. Маўчаў з часину и князь, а потым загаварыў:

"Ня ўмруць, ня ўмруць ужо яны,
"Раз хочуць сонца, славы, песьни;
"Заб'юць им зычныя званы
"Прабудным звонам на прадвесьни.
"Сваёй забранай старане,
"Скаванай мучаницы-княжне,
"Ўзьнясуць пасад на кургане
"На панаваньне недасяжне.

"На дзеле--кажны йшчэ слугой,
"У думках--вольныя ўжо людзі;
"Над сэрцам іх, над іх душой
"Наш дух вітаці вечна будзе."

Як бачым, не ўважаючы на стагодзьдзі чужацкае няволі, на страшэнны нацыянальна-палітычны ўціск, на жорсткае вы - караненьне ўсяго беларускага: мовы і культуры, звычаяў і традыцыяў, народ ня страціў сьвайго нацыянальнага "я", ня зрокся даўніны і ня выракся памяці вялікіх продкаў, бо ня ўмерла яшчэ душа народу, і дух колішняе славы, цеплячыся глыбока ў сэрцы, прачынаўся і загараўся пры першым звоне струны, падымаючы на заклік духовага праваддыра мільлённыя масы народу. І Купала, разумеючы гэта, не пакідае свайго народу--абуджае і кліча яго да сонца, да зораў і ў іншых творах, "покі сэрца б'ецца, рвецца на прастор."

Бадай ці не самым вялікім творам Янкі Купалы зьяўляецца паэма "Курган", паэма пра дні сівое даўніны, пра нязломную сілу духу беларускага народу.Галоўнымі вобразамі-пэрсанажамі паэмы зьяўляюцца князь і гусьляр.І калі ў паэме "На куцьцю",і князь, і ганцы--князевы "другі верныя", і "дружына вольная" станавілі адно цэлае--нацыянальны арганізм, дык у "Кургане" якраз наадварот: князь--"недаступны і грозны, як хорам," гусьляр -- "шалёны стары", думка якога "сонцу, зорам, арлом толькі роўна", князева дружына--знатныя госьці з-за паўсьвету і князева дворня...

Тэму да паэмы дала Купалу наймудрэйшая кніга народу--сама зямля.Гартаючы бялоны гэтае найвялікшае мудрасьці, паэта спыніў увагу на самых не-разгаданых і дасюль мясьцінах--на курганах беларускае зямлі, бо "курганы шмат чаго нам гавораць".І от адзін зь іх--"памятка дзён, што ў нябыт уцяклі"--раскрыў перад паэтам вялікую таямніцу нашае даўнасьці...Курган-жа той не абы-дзе ляжаў, а "паміж пустак, балот беларускае зямлі, на ўзьбярэжы ракі шумнацечнай"--у самым, маўляў, "сэрцы" самабытнае Беларусі, на ўлоньні беларускае экзотыкі.А зь якім замілаваньнем, зь якой цяплынёй гаворыць Купала пра гэту "памятку дзён"--"курган векавечны." І сама зямля, здаецца, спрычынілася, каб "гэта паняць людзцкая, паказ"...уцалела і захавалася на паказ будучыні, якая скажа сваё аб'ектыўнае слова; само неба вартавала "ўдзірванелы курган векавечны":

"Дуб гальлё распусьціў каранасты над ім;
Сухазельле у грудзі ўпілося;
Вецер стогне над ім уздыханьнем глухім,--
Аб мінуўшчыне ў жальбах галасе.

На купальле там птушка садзіцца, пяе,
У Піліпаўку воўк нема вые;
Сонца днём распускае там косы свае,
Ночкай зоры глядзяць залатыя.

Хмары неба ўсьцілалі мо' тысячу раз,
Пяруны білі з краю да краю,--
Ён стаіць--гэта памяць людзкая, паказ...
Толькі гутарка ходзіць такая:"

У белым хораме, што " недаступнай сьцяной грозна, думна глядзеў на прывольле", жыў князь "недаступны і грозны, як хорам"... Усе --хацелі ці не хацелі--білі яму паклоны, а ён /князь/ ня знаў ні спуску, ні ласкі:

"Зьняважаў, катаваў ён з дружнай свайй,
Стражы князевы--ў полі і дома:
Толькі модлы расьлі небу ў сэрцах людзей
І праклянцце расло пакрыёма."

У князёўскім хараме была вялікая бяседа: "на пасад дачку-княжну садзілі." І каго, і чаго толькі ні было на той бяседзе-вясельлі! І госьці знатныя з-за паўсьвету, і "він заморскіх крыніца цякла", і "бегла музыка ўкруг на паўмілі"... Але гэтага яшчэ мала было князю. Не ставала нечага новага, арыгінальнага і больш пацешнага, не ставала, каб "сонных вёсак шары", выгнуліся перад гасьцямі ў хараме, не ставала хвалы і вымушанае весялосьці "хат амшалых, як мар, хат з сям'ёй душ падданых, пакорных." А госьці-ж мусілі ўбачыць і сілу, і славу князеву... І князь загадаў пазваць гусьляра, але гусьляра не абы-якога, а "гусьляра з яго ведамай славай", гусьляра, чый "песьня-дума за сэрца хапала" і пра якога "казак дзіўных злажылась нямала." Вось якім ведаў народ свайго гусьляра:

"Кажуць--толькі як выйдзе і ўдарыць як ён
Па струнах з недаступнаю песьняй,--
Сон зьлятае з павек, болю цішыцца стогн,
Ня шумяць ясакары, чарэшні;

Пушча-лес ня шуміць, белка, лось не бяжыць,
Салавей-птушка ў той час сьціхае;
Паміж вольхаў рака, як штодзён, ня бурліць,
Паплаўкі рыба-плотка хавае.

Прытаіцца да моху русалка, лясун,
Каня вечнага "ніць" не заводзіць;
Пад звон-песьню жывучых гусьляровых струн
Для ўсіх папараць-кветка ўзыходзіць."

Вось якое сілы гусьляра прыняла "дворня князева ў харам багаты." Ня было ў гусьляра ні скарбаў, ні брыльлянтаў, ні саетаў; на плячох--сялянская сьвітка, а на каленях--гусьлі-бааі. Стары, сівы і "барада, як сьнег белы--такая", а ў вачах-нязвычайнае сілы вагонь. Дык ціж ня слава князю перад гасьцямі, маючы пад рукамі й валадарна саджаючы на цагляным парозе гэтакага асілка духу? І яшчэ якая слава! І ахмялелы князь грозна папярэдзіў гусьляра, што калі той запяе па душы і дасьць уцехі гасьцям, дык ён /князь/ поўныя гусьлі насыпле дукатаў, а калі не пад мысьль каму зь іх будзе песьня ягоная--канапляную возьме заплату... Гусьляр шмат ведаў і чуў пра князя, і добра ведаў што азначае "канапляная заплата," але не падаў пра гэта і знаку--зьнгараваў князеву гаворку і ня вымавіў ані слова. А як толькі скончыў князь сваю гаворку-- "заіскрыліся вочы сівыя, патануў у скляпеньнях адзін, другі ўдар, і заплакалі струны жывыя." Не спакусілі гусьляра поўныя гусьлі дукатаў, бо "не дае гусьлярам сказу золата цьвет, белых харамаў п'яныя шумы"; не спалохала яго і "канапляная заплата", бо князь сілен быў караць, сілен быў і галаву нават зьняць, але ніяк ня мог скаваць ланцугамі дум, [illegible] тое [illegible] сонцу, арлом да зорам, да і сам [illegible] пакорны толькі сіле зямлі, пакорны загонам, [illegible] да сенажацці. І гусьляр, думаючы пра ўсё гэта, засьпяваў такое, пра што князь і ду-

мацЬ на думаў никели ...

"Глянь у лёхи свае, ў падзямельли глянь, князь,
Што настроиў пад хорамам гэтым:
Брацьци корчацца там, табой кинуты ў гразь,
Чэрви точаць живых их, разьдзетых.

Ты ўсё золатам хочаш прыцьмиць, загациць...
Ци-ж прыглядзеўся, хорамны княжа?
Кроў на золаце гэтым людзкая блишчыць,
Кроў, якой и твая моц ня зьмажа.

Ты брыльлянтами ўсыпаў атласы и шоўк--
Гэта цёртая сталь ад кайданаў,
Гэта висельни пятлю разьвиты шнурок,
Гэта, княжа, твае саматканы."

Сказаў гусьляр свае моцнае, праўдзивае слова и пра "вясельле-разгул":

"Стол ты ўставиў ядой, касьцей шмат пад сталом--
Гэта косьци бядноты рабочай;
Пацяшаешся белым, чырвоным вином,--
Гэта--сьлёзы нядоли сирочай."

А канчаючи сваю песьню, сказаў гусьляр и пра самае асноўнае--пра адносини народу да князя-валадара:

"Люба чуци табе скочнай музыки звон:
Ты, дружына п'яцё асалоду,--
А ци ўслухаўся ты, як плыве зь яе стогн,
Стогн праклицьця табе, твайму роду?"

Князь, бязумоўна, не спадзяваўся такога ад гусьляра. Ён зьбялеў ад нечаканасьци, и тольки дзесьци ў глыбини ягонага сэрца навивалася адплата за неспадзяваную песьню гусьляра. Амянели и зглухли и гульни, и жарты. Гэтая мясьцина и становиць якраз кульминацыйны пункт паэмы. Дзе-ж гэта видна, каб стары белабароды старац ды адважыўся на таким гульбишчы гэтак зганьбиць перад гасьцями князя-валадара! Пасьля такога выпадку далейшае разьвицьцё падзеяў мусила, бясспрэчна, рэзка зьмяницца. И яно зьмянилася. На загад князя, гусьляра разам з гусьлями закапали живым у зямлю. И гэта была плата за песьню... Паўстае питаньне: чаму гусьляр прамяняў дукаты на канапляную зиплату? Дзеля гатага мусим зьвярнуць спачатку увагу на паўныя асабливасьци дадзенага твору. Па-першае, паэма "Курган" не зьяўляецца гистарычным творам и падзея, аписаная ў паэме не становиць сабою фактычнай, гистарычна дадзенай падзеи, и, разумеецца, сами вобразы-пэрсанажы--гусьляр и князь--не зьяўляюцца гистарычна дадзеными вобразами-пэрсанажами, пра што, дарэчы, гаворыць и ихная бязымяннасьць; па-другое, паэма "Курган", як и паэма "На куцьцю" ды иншыя творы Купалы, пераважна творы дарэвалюцыйныя,-- становиць сваим зьместам сымбаличны твор, и вобразы-пэрсанажы--той самы гусьляр и князь--як и ў кожным сымбаличным творы, зьяўляюцца вобразами зборными, сынтэтычными вобразами. Таким парадкам, у сымбаличных вобразах паэмы ўцеляўляюцца дзве дыямэтральна супрацьлеглыя силы паўнае эпохи: сила няволи и сьмерци и сила жыцьця и вызваленьня. У вобразе гусьляра мы бачым усе рысы нашага беларускага народу: здольнасьць и мудрасьць, ураўнаважанасьць, му-

жнасьць и ахвярнасьць. Голас гусьляра-гэта голас праўды, голас силы народнага гневу. Дык ци мог-жа гусьляр прадаць за дукаты праўду и волю народу? Ня мог. У таким выпадку гэты вобраз быў-бы непраўдападобным и твор не адпавядаў-бы разьвицьцю гистарычнага працэсу. И не дарэмна-ж паэта гаворыць у вапошняй часьцине,што паплыли пераказы ў народзе, нибы раз на гаду, уначы, "з гусьлями дзед з кургана, як сьнег, белы выходзе.". "и ўсё нешта пяе, што жывым не паняць, и на месяц глядзиць, як сам белы." А кали-б хто эразумеў ягоны голас, дык "не зазнаў-бы николи ўжо гора"... А што-ж гэта быў за голас? Гэта,напэўна, была тая самая песьня, якая сьпявалася и князю. Гэта песьня пра гора и няшчасьце абяздоленага народу, песьня пра шляхи вызвольнага змаганьня и прыйсьце сьветлае будучыни, песьня пра няўмиручасьць чалавечае душы.

Мы спынили асабливую ўвагу на двух паэмах Янки Купалы дзеля таго, каб яшчэ раз падкрэсьлиць ягоны духоўны сьвет, сьвет думак, сьвет далёкасяжных уяў и глыбокага перажываньня доли свайго беларускага народу.

Характэрнай асаблиасьцю творчасьци Янки Купалы зьяўляецца цеснае спалучэньне гэтак званых трох творчых линияў: аб'ектыўны паказ и идэализацыя минуласьци, аб'ектыўны паказ свае сучаснасьци и абуджэньне народнага духу,и заклик да нацыянальна-вызвольнага руху--тое, што и паставила яго на ўзровень идэйна-палитычнага сьветапагляду свае сучаснасьци и прынесла славу вяликата народнага паэты.

Наймацнейшаю зброяй паэты была ягоная запальна-прызыўная песьня. Ствараецца ўражаньне, што Купала, часам, не задавальняўся силаю свае песьни и тады ён изноў зварачаўся да яе з закликам, каб яна была яшчэ мацнейшай,каб глыбей прамаўляла да сэрца й душы народу:

"Зазьвини ты, як звон, и удар, як пярун,
Песьня наша, як воля магучая!
Хай крыўдзицель дрыжыць, як падбиты каршун,
Хай нясуцца ў сьвет рэхи грымучыя!"

Пра якога-ж гэта крыўдзицеля ишла мова? И што гэта за "рэхи грымучыя?" Мова ишла пра сацыяльнага и нацыянальна-палитычнага крыўдзицеля--пра чужынцаў, пра прышлых з усходу, з Маскоўшчыны, людзей, якия запалонили нашую зямлю, заняволили народ и ели здабыты крывавым мазалём беларускихлеб,~~Цармовы~~ хлеб ,а бацькаўшчыну ўважали за прыдатак расейскае импэрыи. И ня год, и ня два панавали гэтыя няпрошаныя "апякуны"-чужынцы,--

"Сотни лет песьцили днями ш ночай
Госьцяя на шыи--
Зьмея, што з пуняў скарбы валоча,
Скарбы чужыя"

А "рэхи грымучыя" пра тое, што народ добра ведае гэтых "апякуноў" и што ўсе ихныя "зьлича праступки...к суду паклича крыўду народу"/"чужым"/

Шалёны разгул рэакцыи,яки наступиў пасьля рэвалюцыи 1905 г.,ня выкараниў адраджэнцких идэяў и ня прыдушыў у народзе имкненьня да вольнага и незалежнага жыцьця.Будзицелем гэтых идэяў и имкненьняў и гэтым разам быў Янка Купала.Кожны ягоны верш,нибы тое кинутае ў зямлю зерне,не

прападаў дарэмна--даваў добрыя ўсходы и пакідаў моцны сьлед. З аднаго боку, Купала абуджаў нацыянальную сьведамасьць у глыбини народных масаў, адчыняў, як кажуць, вочы на праўду и, з другога боку, выступаў супраць злачыннае палитыки русификацыи на беларуских землях, супраць тых "паноў" и „падпанкаў", якия верай и праўдай служыли "его императорскому величеству" и заядла абаранляли импэрыяли - стычную идэю "единой неделимой"...

"Чаго вам хочацца, панове?
Яки вас выкликаў прымус
Забиць трывогу аб тэй мове,
Якой азваўся беларус?"

Ён цьвёрда верыць у тое, што минецца "холад з цемнатой", што прыдзе згибельне чужанацыянальнаму панаваньню, што беларусы, якия яшчэ ўчора хацели "людзьми звацца", а сьяньня ўжо выразна разумеюць и бачаць пастаўленыя часам вяликия заданьни, працярэбяць сабе шлях да роўнасьци и свабоды, шлях да свае дзяржаўнасьци:

"Наппаьцій, лаянкай напраснай
Грудзей ня варта мазалиць--
Не пагасиць вам праўды яснай:
Жыў беларус-и будзе жыць!

К свабодзе, роўнасьци и знаньню
Мы працярэбим сабе сьлед!
И будзе ўнукаў панаваньне
Там, дзе сягоньня плача дзед."

Гэта ўжо быў той час, кали можна было сказаць,што

"Не загаснуць зорки ў небе,
Поки неба будзе,--
Не загине край забраны,
Поки будуць людзи.
..................................................
Беларускаю рукою
Сьветлай праўды сила
Славу лепшую напиша
Бацькаўшчыне милай.

Зацьвице яна, як сонца
Посьле непагоды,
**Ў роўнай воли, ў роўным стане**
**Миж усих народаў.**

Не загине край забраны,
Поки жывы людзи,--
Не загаснуць зорки ў небе,
Поки неба будзе!"

Ня доўга давялося чакаць вяликих падзеяў, зрухаў и пераменаў: яны прыйшли ў 1914 годзе. Гэта, аднак, были ня тыя падзеи и зрухи, да якіх имкнуўся Янка Купала и да прыходу якіх моцна спрычынялася ўся ягоная творчасьць. Гэта была першая сусьветная вайна... Яна ня несла з сабою ничога ўцешливага для Беларуси и беларускага народу, а таму и ня велрни закранула и, тым больш, ня ўсьцешыла сэрца народнага паэты Янки Купалы и малы сьлед пакинула ў ягонай творчасьци.

Ваенная завируха адарвала Купалу ад родных земляў, и ён апынуўся ў Маскве. Аднак, ня доўга трымала Масква паэту. У дни народнае рэвалюцыи 1917 году Купала варочаецца ў родную сталицу--у горад Менск--и забирае свой голас у справе нацыянальна-вызвольнае рэвалюцыи беларускага народу. Гэта-ж якраз и быў

"Час скликаць ужо грамаду
На вяликую нараду,
На вялики сход!".

У тыя дни своё моцнае слова мусиў сказаць "сам народ".

Неўзабаве Янка Купала выступиў зь вершам "На сход". Гэта, уласна кажучы, была адозва паэти-правадыра да ўсяго беларускага народу ў вяликия гистарычныя дни, кали вырашалася доля Беларуси,--у дни тварэньня беларускае дзяржаўнасьци. Падаем поўны тэкст вершу:

"На сход, на ўсенародны, грозны бурны сход
Идзи, аграблены, закованы народ!

Як роўны йдзи жыхар миж роўных жыхароў;
Аддай на суд свае ўсе крыўды, сьлёзы, кроў.

Аб вечным катаваньни, зьдзеку далажы,
И пакажы на курганы и на крыжы.

И аб раскопаных магилах не забудзь,
Дзе груганы тваих так продкаў косьци рвуць.

Як Бацькаўшчыну тваю рэжуць на куски,
Як гибнеш зь дзецьми ты ад катняе руки--

Аддаци ўсё на суд, на ўсенародны сход
Идзи, аграблены, закованы народ!"

И кали рэвалюцыя 1917 году и пазьнейшыя падзеи на Беларуси не прывяли да незалежнасьци нашае Бацькаўшчыны--гэтага найвяликшага идэалу народу, пра яки гаварыў вуснами народу и за што змагаўся вялики паэта-правадыр, апошни выступиў зь вершам пра злую гиронию лёсу-- "О так: я пралетар," яки ў свой час крытыки прабавали падвесьци пад гэтак званае „новае 'credo" паэты:

"О так: я пралетар!
Яшчэ учора раб пакутны,
Сягоньня я зямли ўладар
И над царами цар магутны.
Мне бацькаўшчынай--цэлы сьвет,
Ад родных ниў я адвярнуўся.
Але ня збыў яшчэ ўсих бед:
Мне сьняцца сны аб Беларуси."

Не, гэта ня "credo", гэта --гирония. А сны--гэта сны пра колишнюю силу и славу народу, сны пра тыя часы, кали "буйным жыцьцём ўсё чыста кипела"., кали „цемра чужынцаў ня страшна была",сны...пра Вольную и Незалежную Беларусь. И нибы для ўцешнасьци душы, у 1922 годзе Купала выдае сваю наступную--чацьвертую--книжку твораў пад назовам "Спадчына". Дарагая спадчына минулага, спадчына "залатога беларускага веку", як ласка матчына,--лейтматыў усяе "Спадчыны". И паэта гаворыць у першым вершы назову гэтае книжки, што

"Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына.
Сярод сваих и чужакоў
Яна мне ласкай матчынай."

Яна,гэтая ласка матчына,николи не пакидала Купалы,--заўсёды и ўсюды не пакоила яна незадаволеную душу паэты.У паэме "Безназоўнае"/написаная пасьля рэвалюцыи и выдадзеная асобным зборникам у 1924 годе/и ў асобных творах пазьнейшых, крутых и цяжких гадоў,напрыклад,у вёршы "Зыходзиш,вёска,з яснай явы"и нават у паэме "Над ракой Арэсай" сны аб Беларуси ў Купалавым разуменьни займаюць далёка не апошняе месца. Доказам гэтаму зьяўляецца и той прыкры для Купалы выпадак, яки стаўся и прыкрым фактам у гисторыи беларускае литаратуры,што выдадзеная им у 1929 годзе вялиная книжка твораў пад назовам "1918--1928" была забароненая и сканфискаваная адпаведнай инстытуцыяй БССР.Гэтым было выразна сказана,што Янка Купала мусиць паставиць,казаў той,кропки над "и" и моцна падумаць пра сваё новае "credo".

Прыгадаем цикавы выпадак.Было гэта ўвосень 1929 году. Пасьля выступленьня Янки Купалы ў Менским доме письменьника падыйшоў Михась Чарот и гиранично заўважыў:"Иван Даминикавич,людзи гавораць,што вы ўсё пишаце пра даўнину,але нешта мала пра нашую сучаснасьць"..Купала,усьмихнуўшыся,паволи, але зусим сур'ёзна адказаў на заўвагу заўвагай:"Лес мы бачым тольки здалёку,а стоячи ў самим лесе--бачым адны дрэвы".. А пазьней дадаў:"Пачакаем,пакуль не асядзецца"..Ци не гаворыць гэта пра тое,што Купала не адчуваў у той час пад нагами рэальнага грунту да новае творчасьци и што яму хацелася пачакаць,пакуль само жыцьцё не прынясе новых тэмаў и не ўскалыхне ими глыбокае душы паэты?Пэўна што так.Але цяжка было чакаць:яго неадступна сьцигавали и чакали ўсё иншыя и иншыя,узьнятыя па-над сэрцам и натхненьнем,нечаканыя,падрыхтаваныя новыми днями заданьни и тэмы...И давялося вяликаму паэту-трыбуну,паэту-прароку засьпяваць...як у калгасе "Насьця сеела лянок"..А яшчэ-ж зусим нядаўна--кали тварылася "Безназоўнае"--думалася Янку Купалу,што

..."Беларусь на куце
Ў хаце сваёй села,
Чарка мёду у руцэ--
Пазирае сьмела"..

Думалася,але ня спраўдзилася.Литаратурная дзейнасьць Янки Купалы ў гэтыя часы становиць зусим асобную тэму и час,безумоўна,скажа сваё праўдзивае слова.

...Янка Купала памёр на чужыне.Памёр ён,паводле вестак, у Маскве 29.6.1943 году.Другая сусьветная вайна--ды ци тольки вайна!--абарвала вяликае жыцьцё вяликага сына Беларуси, жыцьцё вяликага паэты-трыбуна,паэты-праваднира.И сяньня,гаворачы пра ягоную творчасьць,творчасьць несьмяротную,пра ягонае ахвярнае служэньне свайму Народу,сваёй Бацькаўшчыне,мимавольна прыгадваюцца радки зь вершу "Свайму народу",у якім Купала,уваскрашаючы ў памяцы народу минуўшчыну,гаварыў и пра сучасныя яму дни 20-х гадоў:

..."Чужак-дзикун,крывёй упиўшысь сьвежай,
Запрог цябе ў няволю,ў батраки,
И тваю Маци-Бацькаўшчыну рэжа,
Живую рве на часьци,на куски.
..............................

Паўстань, народ, прачнися, беларусе!
Зирни на Бацькаўшчину, на сябе,
Зирни, як вораг хату и зямлю раструсиў,
Як твой навала злидняў скарб грабе!..

Гэтаким быў голас вяликага Янки Купалы и гэтаким ёсьць голас сяньняшняга беларускага народу-гусьляра, яки даўно зразумеў голас жыўцом закапанага пад курганом гусьляра и голас Гусьляра-Купалы и яки хутчэй приме "канапляную заплату", але николи и ни за якия дукаты не прадасьць ни свае праўды, ни свае воли.

---

УВАГА: З причыны поўнае адсутнасьци фактычнага матар'ялу, усе вытрымки з твораў паэты пададзены папамяци. М.Д.

Люты 1947 г.

xxxxxxxxxxxxxxxx




xxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxx

# З Ь М Е С Т